— *Каго любіш?*

— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

22 ЛІСТАПАДА 1996 г. № 47 (3871) Кошт 2 500 руб.

## НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ

***Уладзімір ГАНЧАРЫК: "Нішто так не разбурае стабільнасці, як уціск дэмакратычных свабод і правоў грамадзян, няспынныя дыфірамбы па адрасе Аляксандра Лукашэнкі і ўсяго, што ён робіць ці думае рабіць, беспрэцэдэнтная манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі, пераследаванне ўсялякіх праяў іншадумства".***

**3, 14—15**

## ВОСЕНЬ ТРЫВОГІ НАШАЙ

***Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ: "А пакуль што цяперашні кіраўнік краіны добрасумленна агучвае быццам бы спецыяльна падабраны "кампрамат" — ад ідэі рэферэндуму да намёкаў аб прэтэнзіях на маскоўскі ці на ўсеславянскі трон... Але давайце ж будзем сур'ёзнымі — ну адкуль раптам магла з'явіцца ў нашага "парня" усеславянская "грусть"?!***

**5, 12**

## БАЮСЯ ТОЛЬКІ ЗДРАДЗІЦЬ БОГУ...

***У "Бліц-крытыцы" абмяркоўваецца "Дзённік без канца". Ганны МАТУСЕВІЧ.***

**7**

## ЗНАК ДА НАПАДУ

***Апавяданне Юры СТАНКЕВІЧА***

**9,12**





# МНОГАЯ ЛЕТА!

Віктару РОЎДУ — 75

Заўтра ў сталічнай філармоніі — яго юбілейны творчы вечар. Урачысты, людны і... неабдымны ў часе: нездарма ж, відаць, пачатак прызначаны на тры гадзіны раней за традыцыйны канцэртны тэрмін. Заўтра мы яшчэ раз пераканаемся ў тым, што ведаем ужо даўно: Роўда — гэта эпоха ў харавым мастацтве; Роўда — гэта характар; Роўда — гэта магутны дух; Роўда — гэта жыццёвая мудрасць і прафесійны досвед. АСОБА!

З Днём нараджэння, шаноўны Маэстра! І — многая лета!

*Фота У. КРУКА*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Толькі чалавек павярхоўна знаёмы з тым, што адбываецца цяпер на Беларусі, можа атаясамліваць "беларускую восень 1996-га" з "расійскай восенню 1993-га". Іх можна хіба толькі параўноўваць. Сапраўды, і там, і тут ідзе барацьба за дэмакратычную будучыню, супраць вяртання ў "светлае мінулае"; і там, і тут супрацьстаяць прэзідэнт і парламент. Вось толькі пазіцыі іх — адваротныя: прэзідэнт і парламент на Беларусі, у параўнанні з расійскімі, памяняліся месцамі... Але, бадай, адно з самых заўважных адрозненняў "беларускай восені" ад "расійскай", што з першых дзён супрацьстаяння улад кінулася ў вочы, гэта тое, як асвятляюцца гэтыя падзеі ў СМІ. У многім дзякуючы аператыўнай інфармаванасці людзей падзеі ў Расіі развіваліся больш імкліва, хуткацечна, вынікова. Тэлебачанне вяло прамыя рэпартажы з месца падзей, заклікала людзей выйсці на вуліцы, пляцы, каб абараніць дэмакратыю, працавала-інфармавала круглыя суткі. Жыхары ж Беларусі даведваюцца цяпер пра сапраўдныя падзеі ў сталіцы краіны толькі з рэпартажаў у выпусках навін расійскіх тэлекампаній. БТ ж хапае толькі на тое, каб абвяргаць іх, каментаваць, называць хлуснёй, паклёпам і г. д.; а таксама бясконца паказваць, як народ у правінцыі падтрымлівае прэзідэнта... Рабіць агляд мінулага тыдня няпроста не толькі таму, што быў ён багаты на падзеі, але і таму, што ён яшчэ... не скончыўся, як не скончыўся палітычны крызіс на Беларусі. Якім будзе яго завяршэнне — лагічным ці алагічным? Што пераможа — здаровы сэнс ці "прынцыповасць" прэзідэнта? Дэмакратыя ці... Чакаць засталося нядоўга. Лічаныя дні. Калі не гадзіны...***

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Сёння ў Рэспубліцы Беларусь пад выглядам правядзення рэферэндуму ідзе захоп улады і усталёўваецца адкрытая дыктатура. Указы прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі аб прызнанні нядзеючымі рашэнняў Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь, аб вызваленні з пасады старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі В. І. Ганчара не толькі антыканстытуцыйныя, але і супярэчаць здароваму сэнсу. Становіцца ўсё больш відавочным, што А. Р. Лукашэнка ступіў на шлях антыканстытуцыйных рашэнняў, не спыняецца ні перад чым: адно парушэнне закона спараджае другое... У цэнтры Еўропы ажыццяўляецца страшэнны эксперымент масіраванага ўздзеяння на свядомасць і падсвядомасць людзей манапалізаванымі А. Р. Лукашэнкам сродкамі масавай інфармацыі. Грамадзяне рэспублікі пазбаўлены зрабіць асэнсаваны і аб'ектыўны выбар. Па сутнасці рэферэндум ператвараецца ў фарс".

*(Са Звароту Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 15 лістапада г. г.).*

### АДСТАЎКІ ТЫДНЯ

Факт выступлення ў Дзярждуме Расіі і своеасаблівай "падтрымкі" яе дэпутатаў А. Лукашэнка скарыстаў напоўніцу. Першай справай ён адправіў у адстаўку ненавісная яму В. Ганчара. Аднак далейшы ход падзей прэзідэнт да канца не пералічыў. Не чакаў ён, што амаль дэмаралізаваны, раздзелены на фракцыі Вярхоўны Савет здолее згуртавацца і распачаць адкрытую барацьбу супраць ягоных антыканстытуцыйных дзеянняў, і тым больш не чакаў, што падасць у адстаўку з-за нязгоды з ягонай палітыкай прэм'ер-міністр М. Чыгір... Двухгадзінныя ўгаворы нічога не далі, М. Чыгір сказаў, што забярэ заяву толькі тады, калі прэзідэнт адменіць рэферэндум і згодзіцца на пэўныя змены ў эканамічнай палітыцы... На жаль, адстаўка прэм'ер-міністра не стала пераломным этапам у супрацьстаянні двух галінаў улады, а сам па сабе гучны, важкі і значны факт непадтрымкі прэм'ер-міністрам дзеянняў прэзідэнта паступова згубіўся, растаў у чарадзе іншых падзей. Не падтрымаў свайго кіраўніка і Кабінет Міністраў у цэлым: услед за М. Чыгірам пайшоў з пасады толькі міністр працы А. Сасноў.

### ПАДТРЫМКА ТЫДНЯ

За развіццём падзей на Беларусі з напружаннем сочыць увесь свет. Не толькі расійскае тэлебачанне і радыё выпускі сваіх навін на гэтым тыдні пачынаюць з Беларусі. Калі для жыхара Пінска ці Рагачова сітуацыя ў Мінску выглядае заблытанай, то для аб'ектыўных назіральнікаў з Прагі, Парыжа ці Страсбурга разабрацца ў тым, хто правы, хто вінаваты — цяжкасці не складала. А таму ўвесь мінулы тыдзень беларускі парламент атрымліваў тэлеграмы з заявамі і словамі падтрымкі ад урадаў і парламентаў з усіх канцоў свету: з Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Італіі, Украіны... ад прэзідэнтаў краін-суседзяў: Польшчы, Украіны, Летувы... 17 лістапада апазіцыя правяла ў Мінску масавы мітынг у падтрымку парламента, у якім прыняло ўдзел да 15 тысяч чалавек. У гэты дзень, ці не ўпершыню за час прэзідэнцтва А. Лукашэнкі, бел-чырвона-белыя сцягі зноў з'явіліся на пляцы Незалежнасці. І з таго часу, да сёння, з яе не знікалі: пікетаванне парламента працягваецца і ўдзень і ўночы... Прэзідэнту ж нічога не заставалася, як апеляваць "да народа". Дысцыплінавана-маўклівыя мітынгі-сустрэчы прайшлі ў Магілёве, Гомелі, Барысаве... А вось у Мінску, на пляцы Незалежнасці, 20 лістапада арганізаваць мітынг у падтрымку А. Лукашэнкі не ўдалося. Прывезеныя на аўтобусах ветэраны пастаялі трохі і разышліся, альбо далучыліся да шэрагаў, што стаялі побач пад бел-чырвона-белымі сцягамі...

### ЧАКАННЕ ТЫДНЯ

Чым далей развіваўся крызіс на Беларусі, тым далей адцягвалася "развязка" яго і тым ясней станавілася, што самі беларусы выйсця з гэтага супрацьстаяння уладаў не знойдуць, спатрэбіцца дапамога з Масквы. Масква ж умешвацца ў справы "братняга народа" не спяшалася, вытрымлівала паўзу. Маскву можна зразумець: з аднаго боку ў дзеяннях А. Лукашэнкі, відома, яўна праглядваюцца дыктатарскія замашкі, ён нахабна парушае Канстытуцыю і законы краіны, з другога боку — дзе ж ты знойдзеш другога такога "інтэгратара"... Таму толькі ў сераду Дзярждума Расіі прыняла сваю заяву наконт беларускіх падзей. Стрыманую, памяркоўную заяву. Тэлефонныя размовы В. Чарнамырдзіна, а потым і Б. Ельцына з С. Шарэцкім і А. Лукашэнкам напружанне таксама не знялі. Ні парламент, ні прэзідэнт адкрытай падтрымкі не атрымалі. Сустрэчу ў Смаленску А. Лукашэнка праігнараваў, але і С. Шарэцкі на ёй, падобна, таго, чаго хацеў, не дабіўся... Масква не можа пакуль прыдушыць у сабе праімперскія амбіцыі, аднак і заняць адкрыта антыдэмакратычныя пазіцыі на вачах ва ўсяго свету баіцца... Што ўрэшце пераможа? Беларусь чакае... І ў гэтым, у чаканні, у нерашучасці, у няздольнасці самім вырашаць свой лёс — галоўная наша бяда сёння.

### ПАДЗЯКА ТЫДНЯ

Надзею нам, беларусам, пакідаюць зрэдчас хіба толькі расійскія тэлеканалы — НТБ, РТР ды ГРТ. Дэмакратыя ў Расіі, хай і кволая, але яшчэ дыхае і можа наступіць на горла тым самым імперскім амбіцыям. Пра гэта сведчыць тое, як аператыўна і аб'ектыўна карэспандэнты расійскіх тэлеканалаў асвятлялі падзеі на Беларусі. Толькі з іх дапамогай і можна было, нават жывучы ў Мінску, даведацца праўду пра тое, што ў нас адбываецца. Дзякуй.

З нагоды

# СІЛА ПРАВА, ЦІ ПРАВА СІЛЫ?

У незвычайнай палітычнай кругаверці апошніх дзён, калі напружанне ў грамадстве, здаецца, дасягнула свайго апагею, сярод шматлікіх заяў, адозваў і прамоў палітыкаў, магчыма, не многія звярнулі ўвагу на характэрны дыялог, які адбыўся ў пятніцу 15 лістапада паміж старшынёй Цэнтрвыбаркама Віктарам Ганчаром і начальнікам Упраўлення аховы прэзідэнта палкоўнікам Цесацюм, узброеная каманда якога блакіравала памяшканне ЦВК і перакрыла туды доступ яго старшыні. "Імем канстытуцыі, імем закона я патрабую прапусціць мяне ў кабінет для выканання сваіх службовых абавязкаў!" — патрабаваў Віктар Іосіфавіч. "Згодна з прэзідэнцкім указам у нас ёсць распараджэнне вас туды не пускаць!" — гучала ў адказ.

Паўстала сцяной прэзідэнцкая ахова і падцягнутыя сюды амонаўцы перад Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі Сяменам Шарэцкім і шэрагам дэпутатаў, якія прыбылі на месца здарэння, што дало падставу спікеру парламента заявіць, што "ў рэспубліцы пачаўся неканстытуцыйны захоп улады і ўстанаўленне дыктатуры".

Напружанне ў грамадстве сёння тлумачаць у асноўным процістаяннем выканаўчай і прадстаўнічай улад. Калі ж глядзець на гэтую справу глыбей, дык, па сутнасці, у краіне сутыкнуліся сіла права з правам сілы, за якім — уся моц дзяржаўнага апарату з яго рэпрэсіўнымі органамі, манапалізаваным інфармацыйным полем і да т.п. Фактычна рэалізацыяй гэтага права і з'явіліся шматлікія парушэнні прэзідэнтам канстытуцыі і законаў краіны, а найбольш — апошнія яго акцыі па скасаванні вердыкту Канстытуцыйнага суда па ініцыіраваных А. Лукашэнкам пытаннях, вынесеных на рэферэндум і, відома ж, адхіленне В. Ганчара ад пасады старшыні цэнтрвыбаркама. Гэты беспрэцэдэнтны факт (як вядома, фарміраванне Цэнтральнай выбарчай камісіі і прызначэнне яе старшыні — прэрагатыва вышэйшага органа прадстаўнічай улады) прымусіў Прэзідыум Вярхоўнага Савета склікаць пазачарговае пасяджэнне парламента, каб знайсці выйсце са становішча — лічаныя ж дні засталіся да 24 лістапада, афіцыйнай даты правядзення рэферэндуму.

У дзесяць гадзін раніцы 18 лістапада Авальная зала парламента выглядала досыць парадзелай. Табло высвеціла лічбы — зарэгістравалася роўна 100 дэпутатаў. Кворум хоць і ёсць, але з вельмі кволым запасам трываласці — варта знікнуць аднаму дэпутату, як парламент можа аказацца недзеяздольным.

Перадаць на паперы ўвесь напал страсцей, якія кіпелі ў Авальнай зале, цяжка. Заўважым толькі, што ўсе выступоўцы былі на рэдкасць аднадумныя ў ацэнцы таго, што адбылося з Цэнтрвыбаркамам, калі не лічыць небезвядомага дэпутата Івана Пашкевіча, які пры кожным зручным выпадку гнуў у парламенце прэзідэнцкую лінію. Не здрадзіў сабе Іван Іванавіч і на гэты раз, паліваючы брудам сваіх калег і называючы пазачарговае пасяджэнне ВС "бурей в стакане воды", за што быў названы Віктарам Ганчаром палітычным правакатарам.

Усе дэпутаты сыходзіліся ў адным — фактычнае скасаванне Цэнтрвыбаркама (прызначэнне, зноў-такі ў абыход закона, прэзідэнцкай адміністрацыяй на пасаду старшыні ЦВК юрысконсульта Бабруйскага гарвыканкама Л. Ярмошынай нельга ўспрымаць усур'ёз) стварыла сітуацыю, калі сам прэзідэнт зможа цяпер выступаць у мностве абліччаў — і як ініцыятар рэферэндуму, і яго арганізатар, і як чалавек, які, фігуральна кажучы, сам будзе падлічваць галасы, сам жа абвесціць і сваю перамогу. Тым часам, як засведчылі многія выступоўцы, што наведалі свае выбарчыя акругі, на месцах груба парушаецца закон аб правядзенні рэферэндуму — на выбарчыя ўчасткі паступаюць праз выканаўчую вертыкаль нікім не ўлічаныя тысячы бюлетэняў, ідзе непрыхаваны прымус людзей прыняць удзел у датэрміновым галасаванні і г. д.

Не было недахопу ў прапановах: адмяніць пастанову Вярхоўнага Савета аб правядзенні рэферэндуму, перанесці яго дату на пазнейшы час, пацвердзіць паўнамоцтвы Віктара Ганчара як старшыні ЦВК. На апошнюю Віктар Іосіфавіч адказаў, што прэзідэнцкі ўказ на гэты конт не мае законнай сілы і таму ён лічыць сябе па-ранейшаму старшынёй Цэнтрвыбаркама. Прыкметна ўзняў настрой дэпутатаў выступ Генеральнага пракурора рэспублікі Васіля Капітана, які, характарызуючы пазіцыю пракуратуры адносна падзей, што разгарнуліся 15 лістапада ля будынка ЦВК, сказаў, што па факце незаконных дзеянняў аховы прэзідэнта ўзбуджана крымінальная справа.

Але мо самай галоўнай падзеяй таго дня было рашэнне аб пачатку працэдуры імпічменту прэзідэнта. Як вядома, паводле канстытуцыі, для гэтага патрэбны подпісы не менш як 70 дэпутатаў. Было сабрана 76. Подпісы гэтыя былі перададзены ў Канстытуцыйны суд, які павінен вынесці свой вердыкт наконт адпаведнасці імпічменту канстытуцыйным нормам. Мяркуючы па фактах, прыведзеных у выступленні на згаданым пасяджэнні ВС старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні, на сумленні сп. прэзідэнта — цэлы "букет" не толькі антыканстытуцыйных дзеянняў, а і такіх, што могуць знайсці сваю кваліфікацыю ў Крымінальным кодэксе краіны.

Але не драмала ў гэты час і прэзідэнцкае акружэнне. Раніцай 19 лістапада Авальная зала была напаўпустая — да форуму не хапала 10 дэпутатаў. Тут жа стала вядома, што больш як 60 членаў парламента, пераважна з фракцыі "Згода", знаходзіцца ў гэты час у адміністрацыі прэзідэнта, дзе ідзе выпрацоўка дакумента, накіраванага супраць Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

Што да рэакцыі Аляксандра Рыгоравіча на пачатак працэдуры імпічменту, дык, заявіўшы на мітынгу ў Барысаве, што нікому не аддасць улады, ён тым не менш 19 лістапада вымушаны быў двойчы сустракацца са старшынёй Канстытуцыйнага суда В. Ціхінем. Відаць, не ўсё так проста складваецца для кіраўніка краіны...

**Міхась ЗАМСКІ**

Фестывалі

# ...І ГАСЦЕЙ НЯМАЛА

## 20 ЛІСТАПАДА ПАЧАЛАСЯ ТРАДЫЦЫЙНАЯ "БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ"

Апусцелая сцішаная зямля зачакалася халадоў: надзіва цёплы сёлета лістапад. А калі мець на ўвазе надвор'е мастацкае — дык нават гарачы: фестывальнае сонца грэе. У Магілёве — "Залаты шлягер", у Віцебску — юбілей коласаўцаў, у Полацку — арганны фестываль, у сталіцы — "Адраджэнне беларускай капэлы", "Лістапад-96", Міжнародны конкурс піяністаў, "Беларуская музычная восень"...

З гадамі "восень" зрабілася, бадай, больш мудрай, вытанчанай і прывабнай. У яе абліччы ўжо цяжка знайсці выпадковыя і неабавязковыя рысы. Усё — прадумана.

23-ці фестываль мастацтваў узбагаціў сваю атмасферу палёнам папярэдняй музычнай падзеі, уключыўшы ў праграму выступленні лаўрэатаў фартэпіяннага конкурсу: удзельнікам канцэрта-адкрыцця быў уладальнік першай прэміі Андрэй Сікорскі, сёння ў Вялікай зале філармоніі грае лаўрэат другой прэміі Іосіф Сяргей.

Сёлетняя "восень" сугучная ўрачыстасцям, якія ўвесь гэты год, абвешчаны годам Д. Шастаковіча, і па ўсім свеце ладзяцца ў гонар 90-годдзя геніяльнага кампазітара. 13-я сімфонія адкрывала філармачны сезон; 15-я прагучала на адкрыцці фестывалю (Акадэмічным сімфанічным аркестрам дырыжыраваў Віктар Собалеў). 30 лістапада, у заключны яго дзень, шастаковічаўскія рамансы можна паслухаць у Камернай зале (спяваюць Алена Шведава, Таццяна Цыбульская, Таццяна Варапай, Рыгор Палішчук, Віктар Скарабагатаў у суправаджэнні Ганны Каржанеўскай), а яго вакальна-сімфанічную паэму "Пакаранне Сцяпана Разіна" ды Фартэпіянны канцэрт до мінор — у Вялікай (салісты Алег Мельнікаў, Ігар Алоўнікаў).

І якое ж свята без прэм'ер, бенефісаў, знаёмстваў! Адзін з нашых старэйшых творцаў Генрых Вагнер прадстаўляе новую, 4-ю сімфонію, незвычайнасць якой у спалучэнні акадэмічнага аркестравага складу з гучаннем народнага беларускага хору (прэм'ерай дырыжыруе Міхал Казінец). Выкліча цікавасць меламанаў "Імша ў гонар св. Францішка Асізскага" Віктара Капыцько, якая на Беларусі прагучыць упершыню. Упершыню наша славутая Святлана Данілюк выйдзе на сцэну з вакальна-паэтычнай праграмай, прысвечанай 90-годдзю Данііла Андрэева. Упершыню на вялікай сталічнай сцэне грае і танцуе "Бліскавіца".

Заўтра чакаецца грандыёзнае свята ў гонар патрыярха беларускай харавой музыкі народнага артыста СССР прафесара Віктара Роўды — шматлікія прыхільнікі, вучні, калегі будуць віншаваць маэстра з 75-годдзем. А днём наступным філармонія напоўніцца галасамі цымбалаў: выканаўца-віртуоз і выдатны педагог прафесар Яўген Гладкоў дае вялікі канцэрт разам са сваімі вучнямі розных пакаленняў.

"Восень" дорыць сустрэчы з майстрамі мастацтва, вылучанымі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі: з кампазітарамі Уладзімірам Дамарацкім, Сяргеем Бельцюковым, Алегам Залётневым, хормайстрам Аляксеем Шутам, харэографам Валянцінай Гаявой.

А яшчэ — фестываль збірае гасцей. Іх нямала: Дзяржаўны камерны хор "Паліфанія" пад кіраўніцтвам Сегітаса Вайчулёніса з Шаўляя, маскоўскі кампазітар і арганіст Алег Янчанка, знакаміты французскі кларнетыст Жан Луі Рэнэ (да таго ж, ён прадстаўнік вядомай фірмы па вырабе прыладаў для духавых інструментаў, з ім прадоўжацца перамовы наконт адкрыцця філіі фірмы на Беларусі), французскі квінтэт "Кантрэван", швейцарскі дуэт — флейта ды гітара...

Насуперак фінансавым цяжкасцям, "Беларуская музычная восень" пастараецца прынесці свята і ў далёкія ад сталіцы куткі нашай краіны.

**С. Б.**

Надзённае

Ніл ГІЛЕВІЧ

## ОДА БЕЛАРУСКАМУ НАЦЫЯНАЛІЗМУ

**О ты, якому дзякуючы, мы,**
**Твае даследчыкі-спецыялісты —**
**Гісторыкі, філосафы, лінгвісты —**
**Вучоныя ступені маем, званні,**
**Узнагароды, прэміі, прызнанне**
**І хлеб надзённы — для сябе й дзяцей!**

**Кім мы былі б цяпер, эпохі блазны,**
**Калі б не ты, звыродны, буржуазны,**
**Калі б не наша барацьба-змаганне**
**Супроць цябе, супроць тваіх ідэй?**
**У барацьбе з табой, з табой праклятым,**
**Мы здабылі, займелі ўсё, што маем —**
**Пасады, і кватэры, і зарплаты,**
**Аўтамабілі, гаражы і дачы,**
**І хлеб надзённы — для сябе й дзяцей!**

**О, што б мы значылі, калі б не ты!**
**Хто знаў бы нас, бязглуздых і бяздарных,**
**Апроч як плюндрыць — ні на што не здатных?**
**Таму і надалей, да дзён астатніх,**
**Цябе даіць — не трацім мы надзей.**
**Пакуль ты ёсць — мы будзем мець і працу,**
**І неблагі заробак, і прыплату,**
**І хлеб надзённы — для сябе й дзяцей!**

**Якое шчасце, хоць наш бой крывавы,**
**Што ты — такі жывучы і трывалы!**
**Бо як уявіш нават на імгненне,**
**Што больш няма цябе, о рэакцыйны!**
**О ненавісны! Контррэвалюцыйны!**
**Антысаве... пардон, антыгвінейскі! —**
**Жах працінае мошчы зверху ўніз!**
**Крый Бог, каб нам змагацца стала не з кім!**
**Таму — пакуль мы маем зубы ў пашчы —**
**Ты не павінен назусім адпасці:**
**Жыві і вечна трохі целяпайся,**
**Ты, працадаўца наш і хлебадаўца,**
**Ты, беларускі нацыяналізм!**

*20.X.1996*

## БАЛАДА АБ ДВАЦЦАЦІ ШАСЦІ

**Дваццаць шэсць іх было. Дваццаць шэсць.**
**Непахісных. Няхломных. Гартоўных.**
**Нездарма за кулісай ахоўнік**
**Аддаваў ім па-воінску чэсць.**

**На трыбуну, як на эшафот,**
**Чорны страх па чарзе іх выводзіў.**
**Дваццаць шэсць! І ніводзін, ніводзін**
**Не падвёў "змагара за народ"!**

**Як ні цяжка было — а змаглі**
**Устаяць, утрываць, не сарвацца**
**І не зганьбіць сябе — не азвацца**
**Мовай роднай бацькоўскай зямлі.**

**Ах, які быў бліскучы парад**
**Небывалага ішчэ паслушэнства!**
**Дваццаць шэсць! І ні слова, ні жэста,**
**Каб з Якубам і з Янкам у лад!**

**Як засведчаны ўжо быў трыумф, —**
**Дваццаць сёмы, апошні, падняўся —**
**Суайчыннік з далёкага княства,**
**Непрывыклы гагакаць з трыбун.**

**Ён адзіны, свой помнячы род,**
**Мовай маці азваўся няўдумна...**
**І глядзеў на яго, як на дурня,**
**З маналітнай пагардаю сход.**

*21.X.1996*

## СКАРГА ТЭЛЕГЛЕДАЧОЎ КІРАЎНІКУ ТЭЛЕБАЧАННЯ

**Мы, тэлегледачы з вялікім стажам,**
**Ужо не можам больш цярпець і кажам:**
**Шаноўны пане! Што ж ты гэта робіш?**
**Каму слугуеш і каму наровіш?**
**Паслухай: мы — народ, а не гурма,**
**І ў нас здароўя лішняга няма.**
**Чаму ж, скажы, амаль штодзень з экрана,**
**Пад іменем прафесара Кальмара,**
**На ўсіх нас высыпае бруду кош**
**Якісьці падваротны апівош?**
**Як стане балантэсіць без упыну —**
**Такое тхне "парфумай" у пакой,**
**Такою плесняй, гніласцю такой, —**
**Што не ўтрываць да крыўды за краіну!**
**І дзе ты гэткага "шэдэўра" выпараў?**
**Прабач, уражанне такое ў нас,**
**Што ў лазню гэты "бомж" апошні раз**
**Хадзіў яшчэ да прэзідэнцкіх выбараў.**

*10.IX.1996*

## ВЫМУШАНАЯ РЭПЛІКА КРЫТЫКУ-АСЭСАРУ

**Асэсар! Служачы ліхому ліху,**
**Ты пішаш зноў і зноў маё імя**
**З маленькай літары і ў множным ліку.**
**У кучамалу валіш. А дарма!**
**Дарма, асэсар! Я — не з кучамалы.**
**І ў нейкі дзень ты, чорны, як чума,**
**Пацвердзіш сам, мой крытык кучаравы:**
**"Ён! Толькі — ён! Другіх такіх — няма!"**

*24.X.1996*

# НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ

КАРЭСПАНДЭНТ "ЛІМА" МІХАСЬ ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ СА СТАРШЫНЁЙ ФЕДЭРАЦЫІ ПРАФСАЮЗАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЛАДЗІМІРАМ ГАНЧАРЫКАМ.

**М. Замскі: — Уладзімір Іванавіч, для затраўкі падкіну вам пытанне, як кажуць, на "засыпку". Вядома, што прафсаюзы Расіі, Беларусі і Украіны нядаўна дамовіліся аб правядзенні акцый пратэсту супраць пагаршэння ўмоў жыцця насельніцтва гэтых краін. Шматлікія тэле- і радыёперадачы, матэрыялы ў прэсе засведчылі, які шырокі размах, з удзелам соцень тысяч працоўных, набыла гэтая акцыя ў Расійскай Федэрацыі на пачатку лістапада. У Беларусі, наколькі я разумею, працоўныя гэтую ініцыятыву прафсаюзаў праігнаравалі. Ва ўсякім разе, на вуліцах нашых гарадоў ні шэсцяў, ні мітынгаў працоўных не адбылося.**

**Злыя языкі сцвярджаюць, што прычынай гэтага сталася згодніцкая палітыка Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі, адным словам, "афіцыйных" прафсаюзаў, якія заўсёды дэманстравалі сваю лаяльнасць да ўладаў. Прынамсі, такія папрокі я чуў з боку некаторых прадстаўнікоў Асацыяцыі свабодных прафсаюзаў.**

**У. Ганчарык:** — Гэта — іх справа. Але пакуль што пад сцягамі так званых свабодных прафсаюзаў знаходзяцца не больш як 20 тысяч працоўных. Федэрацыя ж прафсаюзаў рэспублікі, якую я прадстаўляю, аб'ядноўвае 4,5 мільёна чалавек. Вось і параўнайце. Што тычыць згаданай вамі акцыі пратэсту, дык вы памыляецеся, што яна ніяк не праводзілася ў нас. У прыватнасці, у Мінску, на плошчы Свабоды, адбыўся шматлікі мітынг пад лозунгамі барацьбы з беднасцю. Дарэчы, гэты год аб'яўлены ААН менавіта годам барацьбы з беднасцю. Не ўразілі маштабамі акцыі прафсаюзаў і на Украіне. Што да Расіі, дык тут сапраўды ў многіх гарадах краіны, а найперш у Маскве, адбыліся шматтысячныя акцыі пратэсту. Але для гэтага былі асаблівыя прычыны — у многіх рэгіёнах краіны запазычанасць па выплаце зарплаты даходзіла да паўгода. Як кажуць, чаша цярпення ў людзей перапоўнілася. У дадзенай сітуацыі дастаткова было аднаго закліку прафсаюзаў, каб працоўныя выйшлі на вуліцы.

**— А ў нас чаша цярпення яшчэ не перапоўнілася? Хіба не стаяць сотні прадпрыемстваў, не замарожана зарплата, не павялічваецца беспрацоўе?**

— Усё гэта ёсць, і нават больш, чым вы згадваеце. Але галоўным выбуховым рэчывам, якое ўзняло рабочых, была нявыплата зарплаты. Мы сёння пры ўсім жаданні не змаглі б падняць людзей на такі пратэст, бо, паводле ўказа прэзідэнта, запазычанасць па зарплаце была рэзка скарочана і цяпер складае толькі 237 мільярдаў рублёў.

**— Гэта мала?**

— У маштабах краіны — не шмат. Іншая справа, што выплаты гэтыя былі зроблены за кошт узятых прадпрыемствамі крэдытаў і ссуд з бюджэту. Адным словам, пазычылі ў адным месцы і аддалі ў другім.

**— Саму хваробу не лячылі, толькі збілі тэмпературу...**

— Так, з боку прэзідэнта гэта было палітычнае, а не эканамічнае рашэнне, якое ў далейшым адгукнецца самым негатыўным чынам.

Наогул, у нашай эканоміцы адбываюцца, мякка кажучы, дзіўныя рэчы. Вы, мабыць, заўважылі, што апошнім часам выканаўчая ўлада ва ўсю моц трубіць аб нібыта наступіўшых стабілізацыйных працэсах у эканоміцы. Ідзе маніпуляцыя пэўнымі лічбамі і фактамі. І гэта ў той час, калі рэзка пагоршылася праца большасці прамысловых прадпрыемстваў, іх фінансавае становішча, растуць узаемныя неплацяжы, склады перапоўнены нерэалізаванай прадукцыяй.

**— Колькі яе, гэтай нерэалізаванай прадукцыі?**

— Да месячнага ўзроўню, г. зн., на складах скапілася прадукцыя, выробленая прамысловасцю за месяц.

**— Асабліва бадзёрыя рапарты гучаць сёння з аграрнага сектара эканомікі: у параўнанні з леташнім годам сабрана больш збожжа, бульбы, агародніны, рэспубліка ці не ўпершыню забяспечыла сябе таварным зернем і да т. п. На гэтым фоне як растлумачыць, па-першае, няспынны рост цэн на прадукты харчавання, а, па-другое, тое, што іх усё менее і менее на паліцах магазінаў?**

— Сельскую гаспадарку краіны, вядома ж, не абмінулі хваробы, якія характэрны для ўсёй эканомікі ў цэлым. Вы ж ведаеце, якія трыльённыя ўкладанні зрабіла дзяржава ў аграрны сектар хоць бы перад уборачнай кампаніяй. "Бітву" за ўраджай нібыта выйгралі, але ж даўгі трэба аддаваць, а аддаваць няма з чаго.

**— Апошнія дні ўвага людзей была прыкавана да яйкавай эпапеі. Яйкі амаль зніклі з дзяржаўнага продажу, за імі выстройваліся даўжэзныя чэргі, а на рынку цана на гэты прадукт падскочыла ўдвая. Ды і дзяржаўная цана на яго, а яйкі, малако і хлеб лічацца асноўнай ежай беднякоў, таксама рэзка ўзрасла. Адным словам, яйкавая праблема паўстала так востра, што ёю вырашыў заняцца сам прэзідэнт. У суправаджэнні тэлеаператараў ён паездзіў па магазінах, наведаў Мінскую птушкафабрыку і прыйшоў да высновы: "Яйцо у нас есть". Толькі, маўляў, трэба навесці парадак у цэнаўтварэнні, а прасцей кажучы — устанавіць на яйкі фіксіраваныя цэны.**

— Усё гэта мы ўжо праходзілі, у тым ліку і з удзелам самога Лукашэнкі, які "адкручваў" цэны назад то на хлеб, то яшчэ на нешта. Потым цэны не толькі вярталіся, але яшчэ больш узрасталі. Усё гэта праявы камандна-адміністрацыйнай сістэмы, да якой вяртаецца краіна. Чым гэта пагражае? Зноў тым жа татальным таварным дэфіцытам, карткавай сістэмай і г. д.

**— Прэзідэнт загадаў калгасам і саўгасам не павышаць цану на сваю прадукцыю, ні ў якім разе не вывозіць яе за межы рэспублікі...**

— Вываз сельгаспрадукцыі цяжка было прадухіліць і тады, калі існавала граніца з Расійскай Федэрацыяй. А што казаць цяпер, калі такой граніцы не існуе?.. У нас дзесятак яек каштуе 16 тысяч рублёў, столькі ж у Расіі. Але ж там гэта больш за тры долары, а ў нас і да аднаго не дацягвае. Дык куды вытворца павязе сваю прадукцыю на продаж? Зрэшты, на гэтым будуюцца рынкавыя адносіны. Добра, як кажуць, пад страхам смерці вытворцам забароняць экспарт сваёй прадукцыі. Тады за кошт чаго яны будуць набываць тэхніку, канцэнтраваныя кармы, расплачвацца за энерганосьбіты і да т. п.? Чакаць чарговых фінансавых ін'екцый з боку дзяржавы? Так яно, бадай, і будзе. А грошы дзяржава возьме з кішэні радавога спажыўца, яшчэ больш павысіўшы цэны на прадукты харчавання. Адным словам, зачараванае кола. Як жа мы можам паглыбляць інтэграцыю з Расіяй, пра што так "дбае" прэзідэнт, калі там рэформы ідуць поўным ходам, а ў нас зусім застапарыліся?

**— Запэўніў грамадзян Аляксандр Рыгоравіч і ў тым, каб не хваляваліся наконт таго, што нашы кватэры зімой застануцца без цяпла, гарачай вады і г. д.**

— Абяцаць можна што заўгодна. Асабліва напярэдадні рэферэндуму. Людзі ж не ведаюць, як расце наша запазычанасць расійскаму "Газпраму".

**— Дык жа ў перамовах з Расіяй па аплаце энерганосьбітаў быў дасягнуты так званы "нулявы варыянт"?!**

— Наколькі я ведаю, гэтае пытанне ў тым аб'ёме, пра які бакі дамаўляліся, не вырашана.

**— Ходзяць упартыя чуткі, што захісталася крэсла пад старшынёй праўлення Нацыянальнага банка спадарыняй Тамарай Віннікавай, прызначанай прэзідэнтам на гэтую пасаду пасля выгнання адтуль Станіслава Багданкевіча. А яе ж гэтак некалі хваліў Аляксандр Рыгоравіч...**

— Тамара Віннікава ўсё-такі вопытны фінансіст і разумее, што пастаянна папаўняць казну пустымі грашыма вельмі небяспечна. Цяперашні стан эканомікі з яго дэфіцытам бюджэту можа падштурхнуць прэзідэнта запусціць друкавальны станок. Захоча, вядома, зрабіць гэта ён рукамі кіраўніка Нацбанка. Але ж яна разумее, чым пагражае чарговая эмісія пустых, нічым не забяспечаных грошай. Толькі інфляцыяй, таварным дэфіцытам, чэргамі, размеркавальнымі талонамі і да т. п. Тады "крайняй" акажацца яна.

У нас ужо цяпер адмоўнае сальда гандлёвага балансу, чаго раней ніколі не было. Вось і скажыце, падсумаваўшы ўсё вышэй згаданае, лепш мы сталі жыць, ці горш? Думаю, што горш, значна горш.

**— Наш прэзідэнт неаднойчы гаварыў, што ініцыіраваць рэферэндум яго прымусіў недахоп уладных паўнамоцтваў, што, у прыватнасці, не дае яму магчымасці паспяхова праводзіць эканамічныя рэформы. Але ж два гады таму, калі Аляксандр Рыгоравіч толькі заступіў на высокую пасаду, ён казаў, што ў яго, як у прэзідэнта, царскія паўнамоцтвы.**

— У Маскве ў час апошняга выступу ў Дзяржаўнай думе Расіі ён трактаваў мэты рэферэндуму ўжо іншым

*(Працяг на стар. 14-15)*

Варункі

## ШЛЯХ ПАКРУЧАСТЫ

**Не першы раз чую я і чытаю такое выказванне, што А. Лукашэнка сваімі ваяўнічымі наездамі на беларушчыну згуртаваў і працягвае гуртаваць нацыю. Тое, што звалілася на беларуса з неба — незалежнасць, сімволіка, нацыянальная адукацыя, казаў адзін мой знаёмы, не цэніцца. Гэта трэба выпакутаваць, заслужыць. Вось калі канкрэтны Віця атрымае дубінкаю ў плечы за бел-чырвона-белы сцяг, тады ён будзе яго шанаваць і дзецям сваім гэта перадасць.**

**Ваяўнічае невуцтва, працягваў ён, гэта такі моцны і файны раздражняльнік. Усялякі нармальны чалавек, чуючы вось т а к о е, абавязкова ўстрапянецца, будзе варушыць мазгамі, нацыянальна даспяваць "ад супрацьлеглага".**

**І тут ён нагадаў мне вядомую сентэнцыю Аляксандра Рыгоравіча пра таварыша Льва Сапегу, з якім асабіста прэзідэнт не знаёмы. Калі ўжо дыпламаваныя гісторыкі, як бы яны там ні вучыліся і хто б іх там ні вучыў, выдаюць такое, дык куды ж ты тады коцішся, бедная Беларусь?**

**Другі мой знаёмы сказаў, што было б, мабыць, някепска, каб ён і гэты свой рэферэндум выйграў з мінімальнай перавагаю, бо значная частка Беларусі яшчэ не перахварэла на Аляксандра Рыгоравіча. Хай бы ён яшчэ год ці два пакрасаваўся, каб ужо абслютная большасць зразумела, чаго ён варты.**

**Так то яно так, але... Важкія а л е круцяцца ў маёй галаве. Мала якая нацыя гуртуецца дзякуючы разбуральнай энергіі, а тым больш такая, як пасіўныя і асцярожныя — калі не сказаць баязлівыя — беларусы.**

**Яшчэ год-два і беларуская мова будзе выцеснена з гарадскіх школ, знікнуць беларускія падручнікі па гісторыі і наступныя пакаленні дзяцей зноў-такі не ўбачаць у іх імя Льва Сапегі. Зноў пачнецца гадаванне чарговага зашоранага пакалення, якое ж некалі прыйдзецца перавучваць. Вядома, што не ўсіх, але паглядзім на шматлікія мястэчковыя і вясковыя школы, паглядзім на ўсход Беларусі, цяжка ўздыхнём і пагодзімся, што — большасць.**

**Кожны дзень гэтага ідэйна-культурнага разруху — праўдзівая трагедыя для беларусаў. Як казаў трэці мой знаёмы, калі мы абмяркоўвалі выступ аднаго доктара навук, археолага падчас тэлесустрэчы Аляксандра Рыгоравіча са спецыяльна падабраным электаратам, у смутныя часы — як у рэчцы, калі пабоўтаеш там баўтухай у глыбіні — выплывае розная каламуць — паўзгнілыя водарасці, жукі, кара і пустыя слімачыныя хаткі, толькі глядзі і здзіўляйся. Гэткага смецця вакол сябе Аляксандр Рыгоравіч назбіраў зараз нямала.**

**Калі ж мы не хочам жыць у грамадстве недарэкаў, дык мы павінны ясна зразумець: нягледзячы на любыя палітычныя змены, падмуркам для выхавання нармальнага беларуса, жыхара не нейкай там метафізічнай супольнасці, а — Еўропы, свету, павінна быць патрыятычная сістэма адукацыі плюс абавязковае веданне нямецкай ці англійскай мовы і нацыянальная па змесце і мове культура. Толькі тады мы атрымаем шанц на бязбеднае і годнае жыццё.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## 16 — ЛІЧБА МАГІЧНАЯ

У Доме літаратара ў Мінску прайшоў творчы вечар заслужанага работніка культуры Беларусі, пісьменніка Уладзіміра Юрэвіча. Шматгадовая праца на радыё, крытыка, публіцыстыка, творы для дзяцей, кінадакументалістыка — далёка не поўны абсяг ягонай дзейнасці. Пра важкі ўклад Уладзіміра Міхайлавіча ў нашу культуры і мастацтва ва ўсіх гэтых сферах творчасці і гаварылі на вечарыне яго калегі, сябры, вучні, прыхільнікі таленту.

Адкрыў і вёў вечар Алесь Пісьмянкоў. Ён, у прыватнасці, сказаў:

— У сям'і Уладзіміра Міхайлавіча шанаваліся тры культы: культ кнігі, культ слова і культ Купалы. І ён, патомны інтэлігент з сям'і настаўнікаў, у якой кнігу шанавалі больш, чым вопратку і мэблю, з гэтымі трыма культамі ішоў і ідзе па жыцці вось ужо 80 гадоў.

Шмат гадоў У. Юрэвіч працаваў на Беларускім радыё дыктарам, ягоны голас і сёння гучыць у радыёклубе "Жывое слова", які ён вядзе ўжо чацвёртае дзесяцігоддзе. Ён быў настаўнікам славутага сёння Іллі Кургана. Ілля Львовіч першым узяў слова на вечарыне і з пашанай і ўдзячнасцю гаварыў пра У. Юрэвіча, пра яго высокі мастацкі густ, прафесійны ўзровень, творчую і чалавечую прынцыповасць, пра ягоны ўплыў на маладых дыктараў даваеннага Беларускага радыё, падкрэсліўшы, што для яго асабіста Уладзімір Міхайлавіч быў увасабленнем чалавека таго высокага крытэрыю, якому можна даручыць мікрафон.

Мудрым чалавекам, добрым дарадцам для маладых, адным з сумленнейшых працаўнікоў нашай літаратуры назваў гаспадара вечарыны Іван Шамякін, асабліва адзначыўшы працу У. Юрэвіча ў галіне крытыкі і дзіцячай літаратуры. Цёплымі згадкамі пра сустрэчы і кантакты з Уладзімірам Міхайлавічам падзяліўся Янка Брыль.

— Сённяшняя вечарына сярод многіх іншых, што праходзяць у гэтай зале, адметная, — сказаў Віктар Каваленка. — Гэта ці не першая за ўсе пасляваенныя гады творчая справаздача і грамадскае ўшанаванне крытыка. А між тым крытыка — гэта не ніжэйшае звяно ў літаратурна-жанравай іерархіі. Крытыка — гэта не чысты рацыяналізм ці рамесніцкі занятак, гэта высокае, закончанае мастацкае мысленне, гэта творчасць. Пік крытычнай дзейнасці Уладзіміра Міхайлавіча прыпаў на адліжныя і пасляадліжныя гады, калі крытыцы было і блага, і добра. Блага, бо ідэалагічны прэс давіў на яе; добра, бо толькі крытыка была здатная на аналіз і дыягназ літаратурнага жыцця.

В. Каваленка залічыў у лепшыя набыткі нашай крытычнай і літаратуразнаўчай думкі кнігі У. Юрэвіча "Слава і вобраз", "Шматгалоссе жыцця", "Погляд", "Абрысы" і інш.

Пад дружныя воплескі залы У. Юрэвіча прывітаў пісьменнік-зямляк (яны абодва з вёскі Дуброва на Смалявіччыне) Ігнат Дубро́ўскі, старэйшы за юбіляра "ўсяго толькі" на 10 гадоў.

Віталі Уладзіміра Міхайлавіча дырэктар музея Янкі Купалы Жана Дапкюнас, паэт Уладзімір Мазго, скрыпачка Таццяна Смірнова, а таксама студэнты журфака БДУ і акадэміі мастацтваў, калегі-радыйнікі.

Апошнія "высветлілі", што лічба "16" для Уладзіміра Міхайлавіча — магічная, ці, прынамсі, сімвалічная. У 16 юначых гадоў ён прыйшоў на Беларускае радыё, чатыры разы па 16 — 64 гады — звязаны з ім, 2 разы па 16 — ужо трыццаць два гады! — вядзе радыёклуб "Жывое слова", ну і пражыў 5 разоў па 16! У заключэнне пасланцы радыё пажадалі Уладзіміру Міхайлавічу пражыць мінімум яшчэ адну шасцацццацігадовую дату.

У заключэнне да прысутных звярнуўся сам юбіляр. Падзякаваўшы ўсім за добрыя і шчырыя вітанні і пажаданні, Уладзімір Міхайлавіч сказаў узнёслае, поўнае любові і заклапочанасці слова... аб нашай роднай беларускай мове, лёс якой бачыць, нягледзячы на ўсе сённяшнія перашкоды і скрутнасці, шчаслівым і доўгім.

А завяршылася вечарына канцэртам ансамбля "Бяседа".

**М. ВАСІЛЕЎСКАЯ**

## ЗАПРАШАЕ "ЗМЕНА"

24 лістапада а 12 гадзіне ў мінскім кінатэатры "Змена" можна паглядзець новы дакументальны фільм студыі "Летапіс" "За Кушлянамі снег", які прысвечаны жыццю і творчасці класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча. Перад кінасеансам выступяць аўтар сцэнарыя, рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міхась Жданоўскі, аператар Сяргей Пятроўскі, літаратуразнаўца, рэдактар тэлечасопіса "Роднае слова" Уладзімір Содаль.

Віншуем!

# "Я Ў ТРУДНЫ ДЗЕНЬ КАЖУ САБЕ..."

## Анатолю ВЯРЦІНСКАМУ — 65



**Свой юбілей, няхай і не надта "круглы", гэтымі днямі адзначыў вядомы беларускі паэт, драматург і публіцыст, дзеяч нацыянальнага Адраджэння Анатоль Вярцінскі. Нам, лімаўцам, пашчасціла працаваць з Анатолем Ільічом. Старэйшым — яшчэ тады, калі ён, пасля скранчэння аддзялення журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, паспеўшы пабыць супрацоўнікам раённых газет у Давыд-Гарадку, Камянцы, Клімавічах і Рагачове, у 1962 годзе вярнуўся ў Мінск і быў залічаны ў штат газеты "Літаратура і мастацтва"; маладзейшым — калі А. Вярцінскі ў 1986—1990 гадах быў галоўным рэдактарам "ЛіМа". Бачылі і бачаць яго сумленнасць, прынцыповасць, уменне адстойваць уласную пазіцыю і разам з тым ахвотна ісці на кантакт, падтрымаць чалавека ў патрэбную мінуту.**

**Гэтаму вучыўся Анатоль Ільіч не толькі на універсітэце, колькі ў самога жыцця. А яму давялося быць рэдактарам у выдавецтве "Беларусь", літкансультантам, адказным сакратаром праўлення СП БССР. І, вядома ж, прынцыповасць, сумленнасць, адданасць нацыянальнай ідэі, беларускай справе асабліва праявіліся тады, калі народны дэпутат Беларусі А. Вярцінскі стаў намеснікам старшыні пастаяннай Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, членам Канстытуцыйнай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі.**

**Як творца А. Вярцінскі дэбютаваў у 50-ыя гады. Выдаў кнігі вершаў і паэм "Песня пра хлеб", "Тры цішыні", "Чалавечы знак", "З'яўленне", "Час першых зорак", "Ветрана", "Свята зямное"... Дарэчы, паасобныя вершы А. Вярцінскага пакладзены на музыку, а па паэме "Колькі лет, колькі зім!" пастаўлены тэлеспектакль. Ярка раскрыўся талент Анатоля Ільіча і ў галіне драматургіі, важка заявіў ён аб сабе і як публіцыст, за кнігу "Нью-Йоркская сірэна" ўдастоены Дзяржаўнай прэміі Беларусі.**

**Да ўсяго А. Вярцінскі вядомы як перакладчык, не чужая яму крытыка і літаратуразнаўства, што, у прыватнасці, засведчыла кніга "Высокае неба ідэала".**

**Лімаўцы віншуюць Анатоля Ільіча, зычаць яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў на карысць Бацькаўшчыны, нязменнай бадзёрасці і аптымізму!**

# ЯГО ПАЗІЦЫЯ

**Прыходзіць Час,**
**прыходзяць дні,**
**Час ставіць кропкі ўсе над "і".**
**Усё на месца ставіць ён.**
**І называе рэчы —**
**не любіць Час ілжэімён —**
**іх назваю адвечнай.**

Я адгарнула гэты верш — і падзівілася яго сучаснасці (ён з кнігі "Чалавечы знак" 1968 года). Здаецца, ён увогуле з катэгорыі прарочых. "Бясчэсця сумныя гады" — гэта пра што? Пра сталіншчыну ці пра наш сённяшні дзень? Каго тычыцца згадка пра тырана, з якога Час "вянок сарве"? У 60-я адліжныя дыхалася адносна вольна, апатыя і сацыяльная пасіўнасць прыйдуць пазней, закрануць іншае, наша пакаленне. Яно і зараз у сваёй большасці працуе выключна на сябе, на сваё дасканаленне і свой дабрабыт, і грэбліва крывіцца пры слове "палітыка". І дарма, спадарове, яна ўсё ж такі жанчына, а значыць — помсліва...

Анатоль Вярцінскі як джэнтльмен (апошні з магікан) імкнецца угледзець у ёй штосьці станоўчае і не ўхіляецца ад палітычных баталій. У працістаянні рознаскіраваных сіл ён на баку тых, для каго нацыянальная ідэя спалучана з дэмакратычнай (ці наадварот) і хто слова падмацоўвае дзеяннем. Грамадзянскасць сваёй паэзіі паэт пацвярджае сацыяльнай пазіцыяй. Сто разоў абыгранае крытыкамі "высокае неба ідэала" аказалася не прыгожай абстракцыяй, а вернасцю гуманістычным ідэалам шасцідзесятнікаў, яго чалавечай сутнасцю.

Багатая душа чалавека, а навакольны свет яшчэ багацей, яшчэ разнастайней. "Што значым мы самі па сабе?" — пытаўся паэт ва ўласцівай яму развалівай манеры, і адказам былі вершы, поўныя спагады і ўвагі да "маленькага" чалавека. Ва ўсе часы яго імкнуліся перамалоць няўмольныя жорны "аб'ектыўных абставін", а ён паўставаў ацалелым, і пры гэтым выратоўваў сваю бессмяротную душу. Лірычны герой А. Вярцінскага не мірыцца з няпраўдай, супрацьстаіць "абрастанню" душы, хоча зразумець прыроду гераізму і подласці. А галоўнае — ён безнадзейны аптыміст: верыць у перамогу дабра і пераканаўчы, што час "працуе на нас, на спадзяванні нашы". Застаецца закончыць тым самым вершам, з якога я і пачала ("Навагодні тост"):

**Я ў трудны дзень кажу сабе:**
**"Нічога, скора Час праб'е,**
**нічога, прыйдзе скора Час**
**і ён тады рассудзіць нас!"**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# ПАЭЗІЯ, ЯКАЯ НЕ МАЕ МЕЖАЎ

18 лістапада вядомаму паэту, пісьменніку, грамадскаму дзеячу, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатолю Вярцінскаму споўнілася 65 гадоў.

Пералічыла традыцыйныя іпастасі — "паэт", "пісьменнік", "грамадскі дзеяч" і задумалася. У даўніх гутарках з Анатолем Вярцінскім нярэдка задаваліся пытанні наконт таго, як удаецца яму сумяшчаць паэтычную творчасць з дзейнасцю палітыка, народнага дэпутата, з рэдагаваннем такога адказнага выдання, як наш штотыднёвік "Літаратура і мастацтва"... Анатоль Ільіч узначальваў яго ў няпростыя гады перабудовы (1986—1990), і прынцыпы, якія заклаў ён тады ў выданне газеты, застаюцца актуальнымі і для сённяшняга "ЛіМа": актыўная грамадзянская пазіцыя, бескампраміснасць і аб'ектыўнасць, адданасць духоўным ідэалам нацыянальнага адраджэння. У гутарках звычайна прысутнічаюць нараканні карэспандэнтаў на тое, што палітычная і грамадская дзейнасць перашкаджаюць у стварэнні паэзіі, і неўласціва паэту несці крыж палітыка...

Але хіба паэт не ёсць палітык і дыпламат па самой сваёй прыродзе, хіба не з'яўляецца ён хадатайнікам за свой народ перад Богам і пасланцом перад іншымі народамі? Хто лепш, чым паэт, адчувае боль свайго народа і здольны выказаць яго?

"Вы бачылі лес, дзе прагал скразны? Скажыце, вы бачылі бор той, дзе кожнай другой няма сасны ці сама меней — чацвёртай? Тое ж было з народам маім..." — радкі знакамітага верша Анатоля Вярцінскага "Рэквіем" запамінаюцца адразу, адбіваюцца ў памяці нязвыклым інтанацыйна-рытмічным малюнкам. Алесь Разанаў неяк напісаў, што Анатоль Вярцінскі з'явіўся ў беларускай паэзіі як "выключэнне з правіла, альтэрнатыва самой тагачаснай беларускай паэзіі. Парадыгма яго творчасці настолькі не супадала з агульнапрынятай, што ствралася ўражанне: усе пішуць удоўжкі, а ён упоперак..."

Але хіба кожны паэт не мусіць быць выключэннем з правілаў? Паэзія Анатоля Вярцінскага заўсёды пазнавальная, адметная. Аднойчы паэт сам параўнаў свае вершы з пісьмамі: "Мае вершы — гэта пісьмы. Гэта толькі пісьмы". Ці не ёсць у гэтым, акрамя філасофскага асэнсавання ўласнай творчасці і грамадзянскай пазіцыі, зноў жа намёк на прыродную дыпламатычную адоранасць, на ўнутраную патрэбу быць сувязным між людзьмі, між мінулым і будучым, між рознымі народамі... Таму няма нічога дзіўнага, што 65-годдзе Анатоля Вярцінскага было адзначана ў будынку Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, так званым Доме дружбы. Пачаў вечарыну старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Арсень Ваніцкі. Павіншаваць паэта прыйшлі старшыня таварыства "Беларусь—Латвія" Сяргей Панізнік, старшыня таварыства "Беларусь—Чэхія" Ірына Шаблоўская, старшыня таварыства "Беларусь—Балгарыя" Генадзь Цыхун. Дарэчы, і сам юбіляр упісваецца ў гэты шэраг як старшыня таварыства "Беларусь—Кітай".

Віншавалі Анатоля Вярцінскага Надзвычайны і паўнамоцны пасол Кітая Чжао Сідзі, Надзвычайны і паўнамоцны пасол Балгарыі Марка Ганчаў, саветнік па культуры балгарскага пасольства, паэт і перакладчык Найдан Вылчаў, саветнік па культуры пасольства Украіны Тарас Асаўленка. Ад Акадэміі мастацтваў Анатолю Вярцінскаму прынеслі віншаванні Васіль Шаранговіч і Леанід Дзягілеў, ад факультэта журналістыкі — Марыя Карповіч. Свае цёплыя словы сказалі калегі па "пісьменніцкім цэху" Максім Лужанін, Янка Брыль, Леанід Дранько-Майсюк. Максім Лужанін параўнаў паэта Анатоля Вярцінскага з вандроўнікам краіны Паэзія, грамадзянінам гэтай краіны, які пашырае яе прасторы, як і належыць кожнаму, чыя работа — творчая, уласная. Нагадаў прамоўца і тое, што толькі дзякуючы Анатолю Вярцінскаму пабачылі свет вершы Яўгеніі Пфляўмбаўм, цікавай паэтэсы, якая нядаўна пайшла ад нас. Максім Лужанін зачытаў яе вершы, некалі напісаныя для Анатоля Вярцінскага, рэдактара яе кніжкі.

Выступала на вечарыне дырэктар бібліятэкі імя Пушкіна Наталля Чуева, сябры і блізкія паэта. Вяла вечарыну актрыса Галіна Дзягілева. Гучала шмат вершаў Анатоля Вярцінскага, і з вуснаў выступоўцаў, і ў аўтарскім выкананні — паэт пазнаёміў прысутных са сваімі новымі творамі.

На вечарыне, нягледзячы на прысутнасць шматлікіх афіцыйных асобаў, панавала цёплая, сяброўская атмасфера. Гэта сапраўды быў вечар у Доме дружбы, вечар еднасці ўсіх, хто любіць і разумее паэтычнае слова, хто любіць сваю нацыянальную культуру і таму паважае і цэніць культуры іншых народаў. Сапраўды, для паэзіі няма межаў. Нездарма на Анатоля Вярцінскага надзелі на вечарыне стужку з надпісам "Народны дыпламат". Вершы — пісьмы, якія пасылае паэт усяму свету, усім добрым людзям, не застаецца без адказу.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

# ВОСЕНЬ ТРЫВОГІ НАШАЙ

## 1.

Гістарычныя паралелі, як вядома, рэч няўдзячная. Але сцвярджэнне знатакоў, што гісторыя бясчынствуе па спіралі, на прыкладзе Беларусі, падобна, пацвярджаецца як нельга лепш. Прычым мы як бы ўвабралі ўвесь, мякка кажучы, не вельмі пазітыўны гістарычны вопыт і "бліжняга" і "дальняга" замежжа і настойліва ўкараняем яго ў жыццё. На Беларусі ўжо працяглы час культывуецца сапраўдны палітычны зварынец-пітомнік, дзе мы скормліваем сваім зверам не толькі наш хлеб і нашу маёмасць, але і нашыя душы... Якім зверам?

Напрыклад, сёння вельмі часта чуюцца скаргі на лёс, які быццам бы падсунуў нам ката ў мяшку на самую высокую ў дзяржаве пасаду, а кот той стаўся з вельмі заграбушчымі кіпцюрамі...

Ці сцвярджаюць, што згаладалы воўк нахабна прабраўся ў беларускую "аўчарню" і калашмаціць нашых авечак, аж шэрсць ляціць. Ды забываем, што дзверы яму адчынілі насцеж самі, а ахоўную "псярню" даўно ўжо скасавалі з-за састарэласці і бяззубасці сабак-ахоўнікаў — бо маладых і зубатых даўно ўжо ўладкавалі... Дастаткова згадаць Курапаты, ГУЛАГ, страшэнную вайну і не менш жорсткі мір.

Злачынна доўга дзялілі скуру незабітага мядзведзя, аж да ліпеня 1994 года, а звера гэтага "зацугляў" іншы паляўнічы...

Ёсць на нашай Беларусі і па-езуіцку хітрыя лісы, і насмерць перапалоханыя зайцы, якія даўно ўжо і лапкі падкурчылі... Адным словам, хапае жыўнасці ўсялякай.

Пара, даўно пара нам прызнаць, што нашыя "каты", "мядзведзі", "ваўкі" і іншыя пачвары, што апанавалі нашую бедную зямлю — гэта не параджэнне "сну розуму", ніякі не абсурд ці кашмар, а самы сапраўдны сацрэалізм з яго дакладна акрэсленымі і недвухсэнсоўнымі "гераічнымі" вобразамі. Каго толькі няма ў той багатай вобразнай палітры — ад героя працы да героя "нябачнага" фронту. Усё трымае на сабе наша зямелька.

А ці магчыма абмінуць увагаю тых адчайна гераічных людзей, што прыехалі да нас дапамагчы ўсталяваць па-сапраўднаму мудры і справядлівы сацыяльны лад? Не верце зласлоўцам, якія сцвярджаюць, што героі гэтыя нахабна пагарджаюць і зямлёю нашаю і яе спаконвечнымі звычаямі, цынічна смеючыся ў твар тым, хто спрабуе неяк пярэчыць. Яны ж за ўсеагульную роўнасць і братэрства...

Вельмі крывадушнымі выглядаюць і нашыя часам занадта інтэнсіўныя малітвы да Найвышэйшага, што ўвёў нас у такую вялікую спакусу... Пара ўжо прызнацца нам усім, што нашыя ўлады, ніякая не анамалія на беларускай зямлі, а найтыповейшы яе прадукт. Хіба што наш кіраўнік па тэмпераменце трохі ад звычайнага беларуса адрозніваецца. Мяркуючы па ўсім, якраз ягоны амаль каўказскі тэмперамент фатальным чынам і паўздзейнічаў на сэрцы слабое паловы нашага грамадства. Што да ўсяго астатняга, то дастаткова нам глянуць на саміх сябе ў люстэрка. Прычым зусім не важная наяўнасць ці адсутнасць дыхтоўных вусоў і раслліннасці на галаве...

Прэзідэнта абвінавачваюць, што ён імкнецца навязаць нам дыктатуру. Што значыць — "н а в я з а ц ь"? Гэта ж большасць з нас прагне ўжо даўно яе ўсім сваім сэрцам, у тым ліку і многія з тых, хто вельмі сур'ёзна адносіць сябе да інтэлігенцыі. Зніякавелыя ад усялякіх нястач масы прагнуць Парадку, які, на іх думку, тыя нястачы зліквідуе. Ім хацелася б, канечне, каб парадак той быў накшталт ранейшага, але, па ўсім відаць, мы атрымаем н о в ы парадак.

Мы абураемся, што н е х т а культывуе ў нашым краі нянавісць і ліха, разбурэнне і гвалт. А ці не мы самі ў экзальтаваным уздыме пасадзілі на трон найбольш здольных да гэтага? Ды што казаць пра нас — грэшных і недасканалых. Нават царква наша галоўная, праваслаўная, дзверы якой большасць з нас не так ужо і рэдка пераступае з хваляваннем і пашанаю, н е б а ч ы ц ь (не хоча бачыць), што ўладарна і мэтанакіравана ліха і нянавісць, варажнеча і раскол у Доме Беларусаў высяваюцца... Хіба магчыма не заўважыць тыя вочы жахлівыя, што з тэлеэкрана кожны дзень выпраменьваюць на нас зусім не любоў і спагаду. Але маўчаць вышэйшыя іерархі царкоўныя...

На жаль, не пануе сёння на Беларусі любоў і спагада, а зусім іншыя энергіі, а кажучы больш простай моваю — палітычны экстрэмізм.

Прычым сілкаванне для яго знаходзіцца амаль выключна ў эмацыйным полі. Менавіта эмоцыі, прычым зусім не высокія, і вызначаюць палітычныя рэаліі. Гэта яшчэ раз пацвярджае выразна феміністычны ўхіл у развіцці нацыі беларусаў за апошні перыяд яе гісторыі. Уздзеянне на эмоцыі электарату — рэч увогуле не арыгінальная і ў дэмакратычных краінах. Але ў такой ступені вызначальнае яно толькі на Беларусі. Менавіта на эмацыйным, а часам нават на падсвядомым узроўні і прымаюцца рашэнні, якія потым будуць уплываць на лёс нашых дзяцей, унукаў, праўнукаў... І калі ў межах нашых уласных сем'яў такія рашэнні мы неяк усё ж можам нейтралізаваць, то сукупныя эмацыйныя імпульсы большасці электарату часам амаль непапраўныя.

На вялікі жаль, панаванне такога своеасаблівага "антыполя" амаль канчаткова разбурыла тыя рэшткі духоўнасці ў нашым грамадстве, якія захаваліся нават падчас "самага справядлівага ладу".

Гісторыя нашага этнасу наўрад ці адшукае ў сваіх аналах такія фенаменальныя падмены самых святых і высокіх паняццяў, як у нашым сённяшнім дні. Выключна агрэсіўнае і наступальнае "антыполе" непапраўна заблытвае нашы духоўныя арыенціры, але заадно і добра высвятляе праз клубы ядавітага туману лжэідэалогіі сапраўднае аблічча многіх нашых "месіяў".

## 2.

Многа зла ўкаранілася на беларускай зямлі — як свайго, так і чужога. Усемагутны і ўсяісны Хам не шкадаваў для нас нічога з таго, што добра прынялося на расійскай зямлі. Ды і сёння не шкадуе. Дастаткова ўключыць які-небудзь канал расійскага ТБ. Яшчэ зусім нядаўна нам амаль штодзённа дэманстравалі бульдожыя абрысы апранутага ў тогу міратворцы прафесійнага т э р м і н а т а р а, што з незвычайнай лёгкасцю дасягнуў ледзь не самай высокай вяршыні расійскага палітычнага Алімпу. Публіка з прыдыханнем і захапленнем сачыла за пераканальна рашучымі крокамі свайго новага куміра. Пакуль што яго на нейкі час спынілі. Але відавочна, што вялізная, малакіруемая краіна амаль што гатовая аддаць поўную над сабою ўладу ў рукі абсалютна непрадказальнага і вельмі спецыфічна адукаванага чалавека... Хаця чаму непрадказальнага? Гістарычныя аналогіі тут самыя відавочныя.

Лёгка заўважыць маральную, духоўную і палітычную еднасць як іхніх, так і нашых бацькоў-вызваліцеляў. Іх усіх аб'ядноўвае найперш палітычны і эканамічны экстрэмізм, дылетантызм і глыбокае маральнае невуцтва. Месіянскі сверб, які ахапіў шостую частку зямной сушы амаль 80 гадоў таму, не знік і на парозе 21-га стагоддзя. Выразна выяўляецца ён і на Беларусі. Мы аніяк не можам уцяміць, што і самая унікальная асоба, нават такая яркая і каларытная, як наш цяперашні прэзідэнт, не здольная змяніць ход усталяваных тысячагоддзямі эканамічных законаў развіцця грамадства. Ужо даўно і канчаткова вызначаны вектар сусветнага эканамічнага наступальнага працэсу. І няма сумненняў, што апошнія "прывіды" так шануемай у нас усеагульнай еднасці і брацтва не тое што не здольныя перавесці гадзіннік гісторыі назад, але і на імгненне прыпыніць ягоны няўхільны ход. Прычым нават у "асобна ўзятай краіне". Ну а калі ўсе стануць на тым шляху, то ў лепшым выпадку ад іх застанецца невялічкі брудны след...

Ёсць, дарэчы адна рыса, якая ва ўсе вякі аб'ядноўвала "народных збавіцеляў" — стаўленне да канкрэтнай асобы чалавека, як да трэскі, як да вінціка, жыццё якога на фоне "вялікіх" пераўтварэнняў нічога не каштуе — проста пшык... Да якой жа ступені сталіся скажонымі ў душах беларусаў паняцці дабра і зла, каб мы сёння зноў шчыра верылі апантаным апалагетам неабальшавізму.

На Захадзе здзіўлена паціскаюць плячыма — сюррэалізм нейкі! Але гэта ўсё той жа самы звычайны і звыклы сацрэалізм, што дагэтуль яшчэ вызначае палітычны і маральны клімат і на Беларусі і ў Расіі. Мусіць, вось так паціскалі яны плячыма падчас пачатку п е р ш а г а а к т у, які пачынаўся 25 кастрычніка 1917 года і стаў для нечувана вялікай масы ні ў чым не вінаватых людзей страшэннай трагедыяй.

На нашых вачах адбываецца сёння другі акт. Чарга за фарсам? Хто ведае. Цяперашняя падзеі на Беларусі сведчаць, што зусім верагодны ў нас і новы штурм Зімняга. (Праўда, тэрміны яго прыйшлося перанесці). Калі ж папраўдзе, то той няшчасны Зімні на Беларусі па сутнасці ўжо ўзяты. Засталося хіба што некалькі залаў, дзе забарыкадаваўся наш "часовы ўрад" (даруйце, Вярхоўны Савет, Канстытуцыйны суд), які трымае пакуль кругавую абарону. Ды да рашаючага штурму засталося ўжо зусім нямнога часу... І калі па шчырасці, то тыя штурмы большасці з нас, хто заўсёды будзе ўдзячным і захопленым іх гледачом (дастаткова згадаць кастрычнік 1993г.), вельмі даспадобы. І мы не на грош не паспачуваем апошнім абаронцам а п о ш н і х з а л а ў беларускай дэмакратыі. Занадта моцна яны "засвечаны" нашымі СМІ — той злодзей, той хабарнік, той бавоўну кудысь "уладкаваў", той "паступіўся прынцыпамі"...

Дарэчы, наконт дэмакратыі той жа расійскі кандыдат у Напалеоны неяк між іншым заўважыў, што гэта ўсё больш гульня... Ды і нам цяпер спрабуюць давесці, што і дэмакратыя рознай бывае — правільнай і не зусім. А то некаторыя на ўсялякую гатовыя былі маліцца...

## 3.

Сённяшні рэферэндум для нашых "збавіцеляў" — вядома, таксама гульня, страшнаватая, праўда, трохі і рызыкоўная. Кажуць нават, што на карту пастаўлена імі ўсё. Мяркуем, што гэта не зусім так. Наш рэферэндум — гэта для іх хутчэй рэлігійна-містычны, з добра адпрацаванай тэхналогіяй рытуал. Праўда, рэлігію тую прыдумалі не яны. Што там дзесяць банальных запаведзяў з яўна састарэлай Бібліі! Тут свае правілы гульні, свая Біблія, дакладней Евангелле. А ў ім толькі адна запаведзь — "Улады!" Дзеля яе, жаданай, штодзень абрынаецца на нас з экранаў ТБ, газет, радыё магутная, нястрымная плынь страсных заклікаў і заклінанняў, ад якіх аж душу выварочвае. Часам цяжка і слязу стрымаць. Вось такім чынам фарміруецца наша непарушная еднасць. Кажуць, мільён супраць! Ды што там мільён, дробязь! Вядома ж, хто не з намі, той...

Рэферэндумны рытуал, як вядома, павінен добра а с в я т л я ц ц а. І ён асвятляецца нязгасным святлом расійскіх нафтавых свяцільнікаў. Адзіны, можна сказаць, прамень святла ў нашым даволі змрочным царстве. Гэта дзякуючы нафце, якая была ў свой час цудоўнай "змазкай" вялізнага саюзнага карабля, ён так доўга і трымаўся на плыву і не "ржавеў". Пэўна, каб раздзьмуць мацней агонь тых свяцільнікаў, і зачасцілі да нас маскоўскія сябры-аднадумцы. Дарэчы, і ў "белакаменную" знайшлося ў нас каму з'ездзіць. Дарма абураюцца некаторыя, што як да "барина на поклон"... А куды ж ім, небаракам... Не ў Лондан да ці Нью-Йорк!

## 4.

Тургенеўскія "бацькі і дзеці" мала, відавочна, цікавіліся "нафтавым пытаннем". Таму, пэўна, і не ладзілі. У нас жа як "бацька", так і "дзеці" былі ўзрошчаны на багатых нафтавых "угнаеннях". Чаго-чаго, а іх, як і іншага смецця (напрыклад, ідэалагічнага), у нас хапала. Апошняе цяпер якраз і спатрэбілася, бо добра "адстаялася" і "перапрэла" за гады перабудовы і такой нечаканай незалежнасці. Але, як вядома, ва ўсялякага "смеццевага поля", якім нечакана для сябе стала Беларусь на мацерыку Еўропа, вельмі спецыфічны водар... Ну а дзе смецце, бруд — там заўсёды царства мух...

Палітычныя "мухі" і "слепні", якія хмарамі зляцеліся на нездаровае цела беднай Беларусі, прагна ўпіліся ў яе самыя далікатныя і безабаронныя месцы і паціху высмоктваюць і дагэтуль ужо не вельмі і густую яе кроў, аслабляючы яе сукупнае сэрца, асляпляючы яе і так затуманены мозг. Вельмі падобна на тое, што Беларусь можа канчаткова страціць свае апошнія фармальныя адзнакі мужчынскасці. Вышэйзгаданы працэс фемінізацыі нацыі дайшоў да сваёй "смяротнае" кропкі...

Наш Беларускі Дом усё больш нагадвае нейкі часовы вакзал, ці правінцыйную бальніцу, дзе ўся палітычная і маральная атмасфера аддае затхласцю і цвіллю. Гэтая вакзальна-бальнічная карціна вечнай няпэўнасці, трагічнай неўладкаванасці цэлага еўрапейскага этнасу дарэшты дэзарганізуе, прыгнятае "пасажыраў-пацыентаў", прасцей кажучы, просты беларускі народ. Ягоны імунітэт ужо даўно рэзка зніжаны, і гэта ў той час, калі пры поўнай адсутнасці маральных "антыбіётыкаў" яго хваля за хваляю атакуюць бактэрыі палітычных і маральных грыпу, чумы і шмат якіх малапрыемных хвароб. І, здаецца, быццам стаіць над зямлёй нашай цяжкі, трывожны і вельмі стойкі пах бальнічнага хлараформу...

## 5.

Канечне ж, не ўсе ў нас хранічна хворыя. Вельмі многія лёс свой уладкоўваюць самі. Гэта і дае надзею, што нарэшце адрамантуем наш дом-вакзал, бо іншага н е б у д з е н і к о л і... Гэта якраз і не задавальняе закаранелых палітычных "сіфілітыкаў", якія, адчуваючы сваю асуджанасць, імкнуцца ўцягнуць у свае, мякка кажучы, нядобрыя справы цэлы народ, што ў выніку стане іх саўдзельнікам. Не адно дзесяцігоддзе панавалі гэтыя "прыватныя рамяні" на нашай зямлі, над нашай маёмасцю, над нашымі душамі...

І ўсё ж немагчыма паверыць у абсурдную думку, што на фоне прыадчыненых дзвярэй у 21-ае стагоддзе змогуць надоўга разгуляцца на нашых землях "чырвоныя чарцяняты" новай "усепераможнай" рэвалюцыі. Бадай што не хопіць у іх сёння моцы для новых штурмаў Перакопа і Варшавы, для новага "запуску" Курапатаў і ГУЛАГаў...

Усемагчымыя штурмы застануцца толькі на кінаэкранах. А ў рэальным жыцці запануе праца, знясільваючая і цяжкая, часам і па 20 гадзін у суткі, але на самога сябе...

Але факт сур'ёзнага расколу нашага грамадства — рэч відавочная. У ім даўно ўжо выявіліся абсалютна, па-бальшавіцку, непрымірымыя плыні, з яўна рознымі духоўнымі параметрамі — "лукашысты" і "нацыяналісты" — тое самае знакамітае люстэрка, але ўжо цяпер унікальнай беларускай рэвалюцыі. Прычым колькасная перавага першых зусім не азначае іх канчатковую перамогу. Бо праз вялікія памылкі і прыкрыя палітычныя ляпсусы, звязаныя найперш з амбіцыйнасцю і зашоранасцю некаторых сваіх лідэраў, пакутліва, марудна ўсталёўваецца ў асяродку апошніх разуменне неабходнасці вельмі працяглай і вельмі нялёгкай працы вяртання беларусаў да свайго Храма. Лёгкай, прыгожай і па-гусарску імклівай атакі не атрымалася. І гэта трэба жорстка ўсвядоміць...

Усё больш выразную пазіцыю пачынае займаць беларуская, шмат бітая і таптаная, інтэлігенцыя. Хто толькі ні кідаў у яе камяні!.. На жаль, рана пайшлі з жыцця многія з тых, хто сёння мог бы стаць мастком паміж інтэлігенцыяй і палітычнаю элітаю. Згадаем, напрыклад, таго ж не ў час сышоўшага ад нас Б. Сачанку...

Для многіх сёння зразумела, што чыста лабараторны нацыянальны эксперымент на Беларусі стаўся малапрадуктыўным. Не атрымалася стварыць, што неабходна пры ўсялякім энергетычным супрацьстаянні, той крытычнай масы, здольнай пераламаць ход падзей. Рамантычны перыяд постсаюзнай эйфарыі мінуў і рэзка абвастрылася барацьба за ўладу. Вызначыліся і выразныя яе полюсы: прэзідэнт — парламент. Ды гісторыя прыкладаў такога супрацьстаяння, асабліва апошніх гадоў, для парламентарыяў маласуцяшальная.

І разам з тым відавочна, што сама па сабе ідэя т а к о г а рэферэндуму самагубная для цяпершніх уладаў. Чаму ж так настойліва яна сцвярджаецца? Як вядома, у кіраўніка дзяржавы н е б ы л о сур'ёзных праблем з уладаю, прынамсі з яе аб'ёмам, бо ён адразу і рашуча "разабраўся" з усімі магчымымі канкурэнтамі, у тым ліку і з іншымі яе галінамі. Непераканальнае і сцвярджэнне, што прэзідэнт і яго каманда баіцца расплаты за эканамічнае фіяска Беларусі. Калі папраўдзе, то не магло быць, ды і не будзе ніякай расплаты! У нас не толькі няма рэальных рычагоў уздзеяння на ўладу, але не было і няма механізму (заканадаўчага) спагнання за злачынную некампетэнтнасць на вышэйшых дзяржаўных пасадах. Яшчэ больш наіўныя сцвярджэнні пра масы абураных галодных людзей, што рана ці позна "выйдуць на вуліцу". Патэнцыял цярпення ў беларусаў увогуле, а тым больш у дачыненні да ўласнага "месіі", надзвычай высокі, аж да халодных і паўцёмных кватэр і харчавання адной бульбай... Небяспека ж для абсалютнай улады прэзідэнта па-ранейшаму зыходзіць толькі з Масквы. Пасля шэрагу, мякка кажучы, недакладных палітычных "хадоў" пазіцыя цяперашніх беларускіх уладаў у горадзе, які і так ніколі не верыў ніякім слязам, яшчэ больш пахіснулася. І толькі няпэўнасць апошніх месяцаў у Маскве, звязаная з вядомымі "кардыялагічнымі" акалічнасцямі, перашкаджала ягоным уладарам прыняць у дачыненні да Беларусі канчатковае і пэўнае рашэнне...

А пакуль што цяперашні кіраўнік краіны добрасумленна агучвае быццам бы спецыяльна падабраны "кампрамат" — ад ідэі рэферэндуму да намёкаў аб прэтэнзіях на маскоўскі ці на ўсеславянскі трон... Але давайце ж будзем сур'ёзнымі — ну адкуль раптам магла з'явіцца ў нашага "парня" ўсеславянская "грусть"!? Каму і для чаго спатрэбілася падштурхоўваць "молодого руководителя" на заведама нерэальныя палітычныя авантуры? Ці гэта сам ён звышамбіцыйны і празмерна славалюбівы? Ёсць, безумоўна, момант. Але даўно вядома, што гэтыя рысы характару ў адным "асобна ўзятым чалавеку" найлепш выяўляюцца пры актыўным энергетычным сілкаванні акаляючых яго людзей. Хто ж яны, тыя людзі? Ды ўсё тыя

*(Працяг на стар. 12)*

вярнуць назад аб'ект свайго кахання. Машэка — экстрэмум нацыі, яе фундамент і аснова не ў канкрэтна-фактычным праяўленні, а ў сваёй патэнцыі. Гэта сімвал нявыяўленых духоўных магчымасцей нацыі. Пасіянарнасць героя відавочная, ён усё роўна змог бы праявіць яе, нават калі б гэта датычылася спраў дзяржаўна-нацыянальных. У дадзеным выпадку адбылася рэалізацыя героя праз насілле і разбой.

Шлях Натальки як антыпода Машэкі мяжуецца ўвесь час з лёсам народа. Народ і гераіня — у адным зачараваным коле. Яны існуюць тоесна, ідуць, навобмацак, нібы сляпыя, шукаючы накірунак, мяняючы ідэалы і блытаючы іх сэнс.

Наталька то ідзе да баярына, то выпадкам лёсу зноў вяртаецца да народа, знішчыўшы Машэку. Народ, у сваю чаргу, то папракае Натальку, то вітае яе як вызваліцельку-гераіню, то праклінае Машэку, то ставіць яму помнікі. Машэка ж, як рэч у сабе, існуе па-за ўсім гэтым. Ён кахае тую, якая не падпадае пад сілавое поле яго кахання. Пасіянарнасць героя настолькі пераўзыходзіць пачуцці Натальки, што яна не можа ацаніць яго, бо не надзелена адпаведным модусам успрымання. І як чалавек звычайных сярэдніх душэўных задаткаў (у якога інстынкт самазахавання перамог усе астатнія) яна нявінная ў гэтым неразуменні. Гэта вышэй за яе.

Эратычна-інтымны, "знешні" сюжэт твора пераводзіцца ў больш шырокую прастору, калі на сцэну выходзіць народ. Упершыню гэта здараецца, калі гераіня з асаблівай жорсткасцю забівае Машэку. Народ выступае як дзеючы суб'ект толькі тады, калі не стала разбойніка, "што ўмеў любіць і забіваць". Народ тройчы ўслаўляе героя, назваўшы яго высокую магілу "Магілай льва", горад — Магілёвам, а гару з магіламі ахвяр — Машэкавай. Тут ёсць пра што падумаць. Народ услаўляе бандыта, забойцу? Магчыма, вялікі страх ахвяры рухаў яго імкненнем увекавечыць памяць Машэкі, калі нават яго не стала. Тут не столькі аддаецца даніна былой велічы і моцы Машэкі, яго "залатой натуры", колькі выяўляецца імкненне адказаць адпаведным чынам на другое "я" Машэкі — чалавечазабойчае. Разбуральная сіла апошняга настолькі вялікая, што можа быць ураўнаважана толькі рытуалам задабрэння "духа" Машэкі. Паганская натура беларуса адэкватна рэагуе на аўру садыста, грознага "бога", які будзе страшным і пасля смерці, калі яму не аддадуць належным чынам хвалу і славу.

І народ каране Машэку, наколькі гэта магчыма, трапляючы ў жудаснае кола "машэкаманіі". Беларусы правакуюць для сябе ката, ствараючы яго аўру, і садыст сам па сабе вырастае ў тым сілавым полі, дзе для гэтага створаны найлепшыя ўмовы. Таму народ як абсалютная ахвяра і прыцягнуў увагу Машэкі, для якога тут адкрылася найвялікшае поле дзейнасці. Герой помсціць той глебе, якая ўзгадавала галоўнага крыўдзіцеля — баярына. Такім чынам народ і Машэка ўтвараюць адзіны садамазахісцкі комплекс. Ушаноўваецца памяць не тых, хто загінуў, насыпаецца курган не ахвярам, як гэта належыць быць, а робіцца вялікі насып страшнаму Машэку. Такая незвычайная каранацыя героя ў паэме — феномен паталагічны. Аказваецца, існаванне ахвяры з адпаведнай псіхалагічнай устаноўкай выклікае з'яўленне асобы, якая зможа адэкватна адказаць на падсвядомыя жаданні. Слабасць, фемінінасць і пасіўнасць патрабуюць сілы, актыўнасці і гвалту. Аўра Машэкі настолькі моцная, што паўплывала на назву горада. Дарэчы, легенды аб заснаванні Магілёва дапускаюць два варыянты паходжання назвы горада: ад магіл забітых людзей (магіла+ёў=Магілёў) і ад магілы Льва — Машэкі (магіла+леў=Магілёў). Купала спыніўся на другім варыянце паходжання назвы горада, свядома апусціўшы першы, дзе матывацыя дваістая.

У канцы паэмы паэт складае рэквіем ахвярам, калі гэтага не зрабіў народ.

Паэма "Магіла льва" ў сваёй загадкавасці і зацемненасці сэнсаў самадастатковая. Нездарма хвалі Дняпра ў канцы твора нагадваюць пра нешта цалкам невыказнае, невымоўнае, што цяжка перадаць словамі, а можна толькі здагадвацца. Ціхае, засяроджанае думанне, якое прапануе нам "Магіла льва", з'яўляецца як элементам генетычнага коду нашай нацыі, так і прыкметай мастацкай прасторы паэмы, дзе ёсць не толькі тэкст, але і падтэкст:

**А пад гарой Дняпровы хвалі**
**З вясны да восені шумяць**
**І штосьць гавораць цёмнай далі,**
**А што? — нам, грэшным, не паняць!**

**Зміцер САНЮК**

---

думалі: Маладзічком Яўхімкі сэрца Аднойчы ўзыдзе тут, Над краем Божым?"

У гэтым шэрагу — вершы "Прафесар з Наднёмана" (пра Якуба Наркевіча-Ёдку), "Кастравіцкі-Каганец-Будзімір", "Лёсік", "Уладзімір Жылка ў Падлессі"... Разам з тым Я. Хвалей прыглядаецца і да тых, хто, зрабіў крыху менш, чым тыя, хто займеў вялікую славу, тым не менш адраджэнскі подзвіг іх відочны.

Скажам, у вершы "Любчанскі друкар XVII стагоддзя" ён згадвае паслядоўніка Скарыны, Будната, Цяпінскага. І дасягае выразнасці паэтычнага малюнка праз умела ўжытае параўнанне:

**Любча...**
**Нёман...**
**Луг як аксамітны...**
**Недзе песню зачынае драч.**
**Бляcтусовіч —**
**Пётра Кміта**
**Ладзіць свой станок,**
**Нібыта ткач.**

Гістарычная тэматыка асэнсоўваецца і ў драматычных паэмах. Першая — "Януш, альбо Апошні беларус з роду Радзівілаў" — вяртае ў XVII стагоддзе, калі Януш Радзівіл хацеў вярнуць незалежнасць Вялікаму княству Літоўскаму, "адарваўшы" яго ад Польшчы, пры гэтым не адмаўляючыся ад дапамогі шведаў. Януш Радзівіл увайшоў у гісторыю як апошні беларус з роду Радзівілаў. Я. Хвалею ўдалося адчуць дух эпохі, у якую адбываліся складаныя падзеі, узнавіць яе супярэчлівасць. Ды і вобраз самога Януша пададзены аб'ектыўна, аб'ёмна. Важна і тое, што ён не вырваны з кантэксту свайго часу, сваёй эпохі. На жаль, будзем справядлівымі, асобныя аўтары грашаць аб'ектыўнасцю, калі пачынаюць расказваць пра тых жа прадстаўнікоў роду Радзівілаў, падаючы іх ледзь не анёламі. Але такая "праўда" таксама наўрад ці можа пайсці на карысць. Гісторыя ёсць гісторыя. Яна не церпіць "прэпарыравання"... Ні савецкага, ні постсавецкага.

Другая драматычная паэма "Рэгіна", якую аўтар прысвяціў "беларускім касцюшкаўцам", нясе ў сабе рамантычны пачатак. Гэта гісторыя кахання ахоўніка караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага палкоўніка Тамаша Яворскага і актрысы прыдворнага тэатра ў Нясвіжы, якая адначасова з'яўлялася каханкай аднаго з Радзівілаў, якога за празмерную любоў да "слабога полу" празвалі Пане Каханку. І як працяг гэтай гісторыі — лёс дачкі Яворскага і Рэгіны — Гражыны, якая стала каханкай чарговага Радзівіла — Дамініка, а яшчэ яе дачкі, якую, як і бабулю, назвалі Рэгіна.

Сюжэт, як на першы погляд, для сентыментальнага твора. Але, трэба аддаць належнае Я. Хвалею, ён не спакусіўся і не пайшоў найбольш лёгкім шляхам. Усё ж у цэнтры гэтай, як і першай паэмы, эпоха, а дух яе адчуваецца і праз лёсы людзей, пра якіх праўдзіва расказвае паэт, хоць нельга не заўважыць і пэўнай нацяжкі... Назіраецца гэта тады, калі, паводле задумы, у фальварку Залуча, арандаваным Сыракомлем, сабраліся ён сам, яго сакратар Каратынскі і Адам Плуг, які прыехаў з суседняга Жукава Барка... Яны разважаюць аб падзеях, што і знаходзяць адлюстраванне ў творы. Канечне, трэба ўвесці чытача ў тагачасную эпоху, каб ён зразумеў, што і да чаго. Дык вось: Сыракомля расказвае сябрам пра гісторыю Залуча, якую яны, зразумела, ведалі... Ці яшчэ нацяжкі падобнага кшталту. Зноў жа з вуснаў Сыракомлі гучыць тое, што па логіцы прамаўляцца не магло: "Паштовым трактам едучы не раз Бяжыць з Нясвіжа ён да Стоўбцаў, Ля тракту ў вёсцы Маркачова Жылі мае бацькі, зямлю арандавалі", "Прыехаўшы ў Нясвіж А Гавяраны вёрст за дваццаць ад яго"... Падобныя ўдакладненні патрэбны хіба чытачам, ды не Каратынскаму з Плугам...

Прыватнасці, але іх не хацелася б сустракаць у цікавай кнізе. Як і ў асобных вершах недакладнасцяў. Толькі два прыклады. У вершы "Лёхі князёў Радзівілаў" відочна несумяшчальнасць параўнання, якое выкарыстоўвае паэт, гаворачы пра слуг магнатаў: "Ад князя Сіроткі Да Пане Каханку — Ляжаць, як вякі, яны Ўночы і ўранку". Ці яшчэ, а гэта ўжо з верша "Антось Галіна, альбо Мост памяці "Нью-Йорк—Альбуць", у якім гаворка пра брата Якуба Коласа. І вось ён па волі аўтара звяртаецца да Кастуся Міхайлавіча: "Як ты выжыў, Якубе?" Не мог ён гэтак звяртацца, бо Якуб — не імя ў дадзеным выпадку, а толькі частка псеўданіма.

Акрамя згаданых твораў, у кнізе "Прыстань віцінаў" ёсць вершы, у якіх аўтар звяртаецца да нядаўніх падзей, прыгадвае землякоў, блізкіх людзей. У гэтых вершах таксама сваё бачанне свету, падзей, прываблівае актыўнасць мастакоўскай пазіцыі. Тым не менш, як на маю думку, асноўнае ў зборніку — усё ж жаданне Я. Хвалея сказаць сваё слова пра падзеі даўнія, пра людзей знакамітых, наблізіцца да народнага вопыту. І гэта яму ўдалося. Ля вогнішча гісторыі пабываўшы, душой акрэпшы, куды аптымістычней глядзіш і на дзень сённяшні.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

*Бліц-крытыка*

# БАЮСЯ ТОЛЬКІ ЗДРАДЗІЦЬ БОГУ...

***Сёння ў рубрыцы "Бліц-крытыка" абмяркоўваецца "Дзённік без канца" Ганны Матусевіч, які друкуецца ў "Нашай ніве". У апытанні ўдзельнічалі: Валянціна Аксак, Марыя Вайцяшонак, Леанід Галубовіч, Адам Глобус, Ала Петрушкевіч, Галіна Тычка, Віктар Шніп, Алена Яскевіч, аўтарка Ганна Матусевіч.***

***Нагадваем, што спіс рэспандэнтаў падаецца ў алфавітным парадку, які не супадае з парадкам друкавання адказаў. Па жаданні рэспандэнта яго адказ падпісваецца.***

Вельмі неадназначнае ўспрыманне. Не магу зразумець сутнасці задумы, што гэта за жанр і для чаго публікуецца. Відаць, аўтарка вельмі здольная, але няма канкрэтнага адбору матэрыялу.

●

Я ад аўтаркі ў захапленні. Але тыя, хто друкуюць яе дзённік, не падстрахоўваюць яе, натуральна падстаўляюць. Бо яна, відаць па ўсім, не ведае, што такое газета, не адчувае адбору матэрыялу. Яе трэба абараніць. Яна гранічна шчырая, а так выстаўляць сябе нельга — амаль як Кіркораў пяе: "Ты мой тазік, я твая лазенька". З усіх, хто друкуецца ў "Нашай ніве", самыя шчырыя — Ганна Матусевіч і Глобус. Гэта бліскучая пара.

●

Такая жанчына, як гераіня "Дзённіка без канца", гонар і надзея нашай нацыі на адраджэнне. Мне яна нагадвае гераіню Ларысы Геніюш з верша "Жаночы клопат":

**У нас мужчыны — дубы, а мы — лозы,**
**Але здольны мы львіцамі стаць,**
**Калі нішчаць зямлю нам і гнёзды...**

●

На самым пачатку друкавання гэтага дзённіка ў найноўшай "Нашай ніве" я падумаў пра магчымую містыфікацыю. Мне падалося, што, баючыся канчаткова абарваць традыцыю старой (луцкевіча-купалаўскай) газеты, сённяшняя рэдакцыя сама задумала гэты штотыднёва-бясконцы правінцыйна-беларускі жыццяпіс, і нехта, рад-няволя, а мо і з задавальненнем, пад псеўданімам **Ганна Матусевіч**, месцамі даволі таленавіта, адпрацоўвае свой "хлеб надзённы"...

Аднак з далейшага кантэксту вынікае, што, хутчэй за ўсё, я памыліўся — тым больш гонар аўтару.

Праўда, іншым разам пустыя бытавыя падрабязнасці, а то залішняя філасофская мудрагелістасць на голым месцы (ці не адсюль мае сумненні ў аўтарстве?) данельга раздражняюць...

Нягледзячы на гэта — чытаю... Цікава ўсё ж, якая яна, гэтая Ганна, насамрэч, і чым гэты прываблівы дзённік скончыцца.

Бо ўсё, на вялікі жаль, канчаецца.

Што ж, тады буду чытаць іншы "дзённік", паколькі гісторыя жыцця кожнага чалавека трапна люструе нашу агульнанацыянальную гісторыю...

Ды вось хоць бы — "спадар" Лукашэнка. Ягоны дзённік быў бы (будзе?) найцікавейшым...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

●

Напэўна, павінна быць і такая літаратурная форма ў газеце. Прынамсі, цікавы ўжо сам пошук рэдакцыі.

●

Зацягнуўся гэты дзённік. Відаць, апраўдвае сваю назву — "Дзённік без канца". Я не прыхільніца такога жанру. Хоць намеры рэдакцыі зразумелыя — паказаць мястэчковую зацікаўленасць у "Нашай ніве", сваю актывістку-аўтарку. Але, як кажуць некаторыя мае сябры, — "не мой кубак кавы".

●

Спачатку я думаў, што гэта фальсіфікацыя. Думаў, нехта з вядомых пісьменнікаў робіць такія імправізацыі. Але калі пачалі друкаваць фотаздымак аўтаркі, мая цікавасць панізілася. Змест вельмі няроўны. Пачатак быў лепшы.

●

Напачатку дзённік чытаў, пасля праглядаў, а апошнім часам толькі цікаўлюся: ці надрукавалі яго. Дзённік звычайна, пакуль ён пішацца, хаваюць ад людзей, а пасля ўжо выносяць на суд. А тут мы маем цікавы і, відаць, адзіны пакуль што ў нашай беларускай гісторыі выпадак, калі дзённік пішацца адразу ў газету. І часам думаецца: няўжо "НН" няма больш чаго друкаваць, як гэты "Дзённік"?

**У сённяшняй рубрыцы маем магчымасць прывесці адказ самой Ганны Матусевіч, напісаны ў рэдакцыі "ЛіМа", куды яна выпадкова зайшла падчас падрыхтоўкі абмеркавання яе "Дзённіка":**

Напісана ў гараскопе пра мяне, жанчыну-Воднічыху (Вадалей), што мяне лепш не расчароўваць — можна страціць назаўсёды. Нашаніўцы мяне расчаравалі (не ведаю, ці канчаткова: я пакідаю ім шанц, бо й Хрыстос даваў шанц нават Юду). Завёўся "моўны шпак" у "НН", на якога нельга брыдкага слова сказаць. А я казала на чужога "шпака" (Адама Глобуса) і не раз шчырыя брыдкія словы. Нашаніўцы слоў тых не прапускалі, адну пахвальбу яму. І гэта... здрада. Страшна было вымавіць, а вымавіла гэтае слова, бо ўжо няма сілы несці ў сабе гэты цяжар адной.

Адкуль з'явілася, пытаецеся, на нашай грэшнай зямлі? І калі першы раз я прыехала ў шпіталь КДБ да Славаміра, таксама пыталіся, якое ліха прыгнала мяне. Можа, й ліха, а можа, й Бог — адказала я. Ведайце толькі, што Бог заўсёды накіроўвае патрэбных людзей у гарачае месца.

Я доўга й пакутліва шукала свайго шляху — **думала**, перарэзаўшы сувязь з "брахункамі". Калі чалавек шукае ў найвышэйшым напружанні — прыходзіць дапамога ў апошнюю хвіліну. І мне так было. Ян Пятроўскі (яму жо 94 гады) з Фларыды віншаваў мяне ды іншых беларусаў штогод з Калядамі, пасля прыслаў мне свае мемуары. У іх — пошукі духоўнага ўдасканалення нашых беларусаў на эміграцыі, а яшчэ пераклад па-беларуску сусветных філасофаў. Пасля была "Жывая этыка", і нарэшце — лісты Алены Рэрых.

Я іду па вадзе і баюся толькі здрадзіць Богу. Больш нічога.

Нагадваем, што наступныя творы, якія прапануюцца для абмеркавання ў рубрыцы "Бліц-крытыка" — "Дзённікі" Максіма Танка ("Полымя", N 9, 1996) і "Зацемкі" Леаніда Галубовіча, якія публікаваліся на старонках перыёдыкі.

Выказаць сваё меркаванне можна па тэл. 233-19-85 рэдактару аддзела крытыкі Людміле Рублеўскай. Рэспандэнт мае права патрабаваць, каб яго адказ быў падпісаны.

---

# ЖАННА Д'АРК З ЛІЦВІНСКІХ ГОНЯЎ

Ёсць у Адама Міцкевіча верш "Смерць палкоўніка", а ў ім такая заключная страфа:

**Ды чаму твар дзявочы ў байца?**
**Два грудкі...**
**Хто ж мог знаць, што баёў завадатар**
**Быў... дзяўчынай! Была —**
**слёз не трэба, жанкі —**
**То ліцвінка Эмілія Плятэр!**

*(Пер. К. Цвіркі)*

Вялікі паэт меў на ўвазе беларускую фалькларыстку і паэтэсу, удзельніцу паўстання 1830—1831 гадоў у Польшчы, на Беларусі і ў Літве, якая сабрала атрад у 400 чалавек і, пераапрануўшыся юнаком, прымала ўдзел у баях на Віцебшчыне і Вілейшчыне, паказваючы прыклады асабістай мужнасці і гераізму. Загінула Э. Плятэр 23 снежня 1831 года, калі ёй было ўсяго дваццаць пяць гадоў. А расказаў А. Міцкевічу пра нашу знакамітую зямлячку (Э. Плятэр да паўстання жыла з маці ў маёнтку Ліксна Віцебскай губерні) яе паплечнік па паўстанні І. Дамейка. А. Міцкевіч свядома зрабіў у творы адну недакладнасць, каб яшчэ больш узвысіць гэтую мужную ліцвінку — у сапраўднасці ў Э. Плятэр было зусім не палкоўніцкае званне.

Тым не менш тое, што рабіла яна па згуртаванні людзей для барацьбы, не кожнаму палкоўніку па сіле. Нездарма Э. Плятэр сучаснікі называлі беларускай Жанай Д'Арк, а пасля гібелі яе ў Парыжы быў пастаўлены спектакль, у якім яна з'яўлялася галоўнай гераіняй. Э. Плятэр прысвяцілі свае творы многія мастакі, паэты.

Падрабязна пра яе лёс можна даведацца з артыкула Г. Кісялёва "Падзорная труба Эміліі Плятэр", змешчаным у яго кнізе "Радаводное дрэва" (1994). А зазірнуць у кнігу ёсць падстава — з дня нараджэння Э. Плятэр споўнілася 190 гадоў.

# СВЯТЛАНЕ БАСУМАТРАВАЙ — 50

***Першы свой верш Святлана Басуматрава надрукавала ў чатырнаццацігадовым узросце, і адбылося гэта далёка ад роднай Беларусі — у раённай газеце "За урожай", што ў пасёлку Паспеліна Алтайскага краю (Расія). У тым пасёлку дзяўчынка апынулася двума гадамі раней, калі сям'я выехала на цалінныя землі. Нарадзілася ж С. Басуматрава 22 лістапада 1946 года ў Мазыры, а маленства яе прайшло на Магілёўшчыне.***

***У 1962 годзе з бацькамі пераехала з Алтая ў Баранавіцкі раён. Пасля заканчэння школы (1964) С. Басуматрава працавала старшай піянерважатай Вольнаўскай васьмігодкі пад Баранавічамі. З 1966-га па 1969 год вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве, які скончыла завочна ў 1986 годзе. З 1972 года С. Басуматрава жыве ў Бабруйску. Выдала кнігі паэзіі "Белая Бярэзіна", "Кветкі палявыя", "Званы чалавечнасці", "Далеч-далячынь"...***

***Віншуем Святлану Міхайлаўну з поўднем веку! Зычым ёй жыццёвых і творчых поспехаў!***



Святлана БАСУМАТРАВА

## "А ДУШУ І ПЕСНЮ НЕ ЗАБ'ЕШ"

### СТАНЦЫЯ ВЫРАТАВАННЯ

Прастор Бярэзінскай вады...
Рака — радкоў маіх калыска,
Рака — душы маёй прапіска
З дзіцячых год і назаўжды.
Ты помніш нашу маладосць —
Пару наіўных спадзяванняў?
На станцыі выратавання
Быў кожны з нас жаданы госць.
Прытулак, вугал, штаб, жытло.
Для нас ад вечара да рання
На станцыі выратавання
Не выключалася святло.
Спагады шчырай пачуццё
Здымала крыўды і абразы.
Усмак курылі валадазы
І гаварылі пра жыццё.
Мароз за шыбамі злаваў.
І — вечны сімвал паратунку —
Напой фарштацкага гатунку
Па шклянках Лёлік разліваў.
Пад таямнічы шэпт сасны
Аб набалелым мы маўчалі.
Драмалі лодкі на прычале —
Чакалі новае вясны.
Вясной на беразе гарэў
Касцёр амаль што фестывальны,
І той агонь выратавальны
Да раніцы свяціў і грэў.
А ўлетку нас да астраўка
Маторкі мчалі без аглядкі.
Каўчэг аранжавай палаткі,
Пах рыбнай юшкі з кацялка...
У цемру бегалі гукаць
То жонкі нечыя, то маткі
І лодачнік з драўлянай хаткі
Быў змушаны з вяслом кульгаць.
Начны агеньчык рыбака,
Туман калматы на світанні
І выклік дзёрзкі ў трапятанні
Блакітна-белага сцяжка.
Гук параходнага гудка,
Непераможны роў маторкі...
Зашмат было вакол гаворкі
Пра ўсіх, каго "звяла" рака.
Тады, на золку нашых дзён,
Была я вольнай, быццам птушка.
Што "паэтэса" — так, мянушка,
Разважыў "бабскі тэлефон".
З нас, мушкецёраў "кабачка",
Ніхто не плакаў (і не плача),
Калі зрывалася удача,
Як рыба хітрая, з кручка.
Ды нас няўмольныя гады
Патрэслі, што сухое вецце.
Ужо няма на гэтым свеце
Паловы з блізкіх нам тады.
Работа, клопат, быт, сям'я...
Адно душы няма адхлання.
І станцыя выратавання
Цяпер у кожнага — свая.

### НЕСМЯРОТНАЯ ПЕСНЯ

Не даюць вам спаць старыя раны,
Значна скарачаюць век яны.
Дарагія нашы ветэраны,
Хлопцы і дзяўчаты з той вайны!
Нізкі вам паклон за Перамогу,
За няпросты лёс, за кожны бой.
А яшчэ за тое, што ў дарогу
Бралі песню родную з сабой,
Мерзлі, галадалі, ваявалі...
Спёка ці завейная пара,
На кароткім франтавым прывале
Ці ля партызанскага кастра,
У бяседзе сціплай ці ў паходзе.
Ці ў начным бяссонні ля вады.
Ты заводзіў, слаўны мой народзе,
Песню, што пакінулі дзяды.
Ворагі дабро нахабна грэблі.
Гэты ж скарб не здолелі адняць:
Песню, што пра вербы каля грэблі
Ды пра белагрывага каня.
З песняю і жалі, і аралі,
Ветрык нёс падхоплены прыпеў.
У змаганні з песняй паміралі!
Абрываўся стрэлам мужны спеў
Не, нялёгка, ведаеце самі,
Беларусь сучасная жыве.
Толькі над лугамі ды лясамі
Наша песня вольная плыве.
Веру, мой народ усё стрывае.
Музыку складзе і шчыры верш.
І сягоння песні ён стварае
Беларусь жыве, пакуль спявае.
А душу і песню — не заб'еш.

### САЦЫЯЛКА

*"Сацыялка" — спрошчаная назва Сацыялістычнай вуліцы ў Бабруйску.*

— Сацыялка, Сацыялка,
Памяць юнае пары.
Дзе ж цяпер вы, Магда, Алка,
Дзе ж вы, даўнія сябры?
Ўсіх нас вуліца збірала
З розных сем'яў, з розных школ.
Нас не надта хваліавала,
Хто яўрэй з нас, хто "хахол".
Важна знаць: крадком, як скнара,
Сам свой пернік не з'ясі,
Нават пад пагрозай кары
Сябрука не прадасі.
Мы мужнелі, мы сталелі,
Нас не вельмі лашчыў свет.
Мы з маленства разумелі,
Што за звер "Ніто кін гелт..."
Абуджалі ў сэрцы мары
Пляж, кіно і стадыён.
Як усхліпвалі гітары,
Як рыдаў акардэон...
Патаемныя любоўны,
Лаўка, месяц-маладзён...
Помнік-танк стаіць на плошчы —
Сведка тых начэй і дзён.
Міліцэйская мігалка
Абнаўляе краявід.
— Сацыялка, Сацыялка,
Зноў ты цягнеш, як магніт.
Шлюць паклон зямны і палкі
Эмігранты праз радыё.
Не заменяць Сацыялкі
Ім ні "стрыт", ні "авеню".
Сацыялка, ўжо не тыя
У цябе гаспадары.
На рагу — хлапцы крутыя,
Камерсанты, гандляры.
Хоць бяжыш і зараз прама
Ад чыгункі да ракі,
Злева — крама, справа — крама,
Тут — кіёскі, там — ларкі.
Вось і сквер. Пад елкай галка
Нешта весела дзяўбе...
— Сацыялка, Сацыялка,
Не пазнаць цяпер цябе.
Не пазнаць па гэтым часе
Ўсе дамы, двары твае.
Толькі назва засталася.
Мабыць, зменяць і яе...

●

Заганы прыкрай не пазбыцца:
Як ні імкнуся, ўсё адно
Спазняюся па даўняй звычцы
На працу, ў госці, у кіно.
Мяне спазненні засмучаюць,
Але да гэтае пары
Мне гэту звычку прабачаюць
Мае калегі і сябры.
І толькі тыя, толькі тыя,
Каго замёў завейны снег,
Хоць самі не былі святыя,
Ці мне даруюць гэты грэх?
А мне ж ніколі не забыцца
І вельмі горка адчуваць:
Спазнілася па даўняй звычцы
Ім нешта добрае сказаць.

### ПАМЯЦІ СЯБРОЎКІ

Мінае час. Ідзе кругазварот.
Не верыцца, што больш цябе не ўбачу.
Ізноў настаў чарговы Новы год —
Я гэта свята з іншымі адзначу.
Непрадказальны чалавечы век,
Не ведаеш, калі ён абарвецца...
Была ты шчыры, добры чалавек,
(Мне гэтае "была", як стрэмка ў сэрцы).
Я забягала часам да цябе
Пагаварыць ды зазірнуць у вочы.
Ты мне казала: "Беражы сябе..."
Сама ж сябе не зберагла аднойчы.
Калі пра смерць гаворыць малады,
Мы успрымаем гэта, як дзівацтва.
Я помню тыя даўнія гады,
Я помню наша слаўнае юнацтва.
У "Пралетарцы" шумна йшло кіно.
"Надзею" Ганна Герман нам спявала.
І добрае чырвонае віно
Адзін рубель за пляшку каштавала.
На могілках тваіх я рэдкі госць.
Пад снегам мокне вузенькая броўка.
Я ведаю, што там пагорак ёсць,
Дзе спіць мая душэўная сяброўка.
...Удзельнікі жалобнага стала
Назаўтра ўсталі з хворай галавою.
— А я на пахаванні не была.
А я цябе запомніла жывою.

●

*Ніне*

На далоні у вечнасці,
Нібы кропелька, лёс.
Мой — адны супярэчнасці,
Сумесь смеху і слёз.
Вецер восеньскі цешыцца,
Гоніць хмар ласкуты...
Я — вялікая грэшніца,
Як, дарэчы, і ты.
Я не ў час весялілася,
Я не "чтила" святых.
Не таму я малілася
І любіла не тых.
Часам ветла віталіся
І са мной на хаду,
За спіной жа шапталіся,
Што, відаць, прападу.
Я хлусню ненавідзела,
Я свавольнай была.
Пэўна ж, некага крыўдзіла,
Мо каго і звяла.
Ды хаваць не збіраюся
Свой ніводзін агрэх.
Ані ў чым я не каюся —
Самы страшны мой грэх.

### БАБІН ВЕК

Ах, бабін век,
Не ўгледзіш, як міне.
Дні пацеркамі
Ніжуцца ў гады.
Няўжо не кіне болей
На мяне
Цікаўны позірк
Хлопец малады...
Мне ўночы пра каханне
Сняцца сны.
Юнак, з якім мне
"Рай і ў шалашы".
А юнакі ж па ўзросту —
Мне сыны.
Ды ўсё ніяк не верыцца
Душы.
Свавольная і вольная,
Яна
Жаданняў
Не жадае ўтаймаваць.
Не верыць,
Што не вернецца вясна,
Што бабінага лета —
Не ўтрымаць.
А сёлета —
Адметны лістапад:
Сухі, бясхмарны, цёплы...
Прыгажосць.
...Мужчынскі
Зацікаўлены пагляд
Вяртае на імгненне
Маладосць.

## ЮБІЛЕЙ "КАЛАСАВІЧКА"

Часопіс "Вясёлка" рыхтуецца да юбілею: у красавіку споўніцца 40 гадоў з дня яго выхаду. Я ж хачу нагадаць пра яшчэ адзін юбілей. Адзначае яго ў лістападзе "Каласавічок" — малодшы брат "Вясёлкі". Хто такі "Каласавічок"? Гэта — часопіс у часопісе, чытанка-маляванка для дашкольнікаў. Дзве старонкі ў кожным нумары. А ў канцы года яны становяцца зборнічкам. Кніжку атрымліваюць падпісчыкі і чытачы "Вясёлкі" замест яе лістападаўскага нумара.

Нядаўна ўбачыў свет пяты па ліку "Каласавічок". Чым, скажыце, не юбілей? Пятая кніжачка "Каласавічка" адкрываецца вершам П. Прыходзькі і радкамі В. Віткі. Ён не так даўно пайшоў ад нас, але засталася яго самабытная спадчына. Замалёўка "Дзед Мароз і яго ўнукі" і верш "Зазімак" — таксама з яе.

В. Вітка да самага апошняга дня падтрымліваў сувязь з "Вясёлкай", з часопісам, што стаў галоўным сэнсам яго жыцця і душы. І амаль ніводнага "Каласавічка" не было без яго казачных вершаў, скорагаворак, пацешак. Як і без твораў яшчэ аднаго даўняга сябра "Вясёлкі", які рыхтаваў у свет яе першыя нумары, А. Вольскага. У апошнім зборнічку змешчаны яго верш "Гномік".

У юбілейным нумары ёсць таксама вершы А. Дзеружынскага, Х. Жычкі, В. Шніпа, М. Пазнякова, В. Жуковіча, С. Валодзькі, П. Саковіча, В. Савасцюк, скорагаворкі і загадкі М. Чарняўскага, У. Мацвеенкі, вершаванае апавяданне-гульня У. Ліпскага "Машына мова і дзедава замова", народная казка "Як курачка пеўніка ратавала". Ёсць гульні, размалёўкі, ёсць заданне: па малюнках напісаць казачку. Ёсць таксама малюнкі карнавальных масак да навагодняй ёлкі.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

## МОЖНА І ПА-НОВАМУ ПРАЧЫТАЦЬ

Аповесць Платона Галавача "Спалох на загонах", у якой, як вядома, адлюстраваны падзеі, звязаныя з калектывізацыяй, нягледзячы на тое, што аўтар яе не мог цалкам пазбавіцца ідэалагічных установак свайго часу па адлюстраванні працэсаў сацыялістычнага будаўніцтва, не страціла свайго мастацкага значэння. Цяпер, на адлегласці гадоў, добра відаць, што П. Галавач заставаўся не толькі летапісцам часу, а, як сапраўдны мастак, у сваіх развагах у нечым свой час і абагнаў. Аповесць "Спалох на загонах" перавыдала "Мастацкая літаратура". Кніга адрасавана ў першую чаргу школьнікам. Прадмову "Хацелася жыць...", у якой разглядаецца складаны жыццёвы і пісьменніцкі шлях П. Галавача, напісаў Алесь Марціновіч.

## НАВУЧЭНЦАМ ПРА МАСТАЦТВА

Навучэнцам старэйшых класаў дзіцячых мастацкіх школ адрасуецца дапаможнік "З гісторыі беларускага мастацтва", напісанага К. Зеляным. У ім разглядаюцца творы скульптуры і жывапісу ад найстаражытнейшых часоў да пачатку нашага стагоддзя. А выдаў гэты дапаможнік Беларускі інстытут праблем культуры.

## СЫН І ПАКУТНІК СВАЙГО ЧАСУ

Спаўняецца 95 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Міхася Зарэцкага. Яго біяграфія ў многім тыповая для прадстаўнікоў пакалення, якое станавілася на ногі і сталела ў паслярэвалюцыйныя гады. Хуткі ўзлёт і... М. Зарэцкага арыштавалі 3 кастрычніка 1936 года, а 29 кастрычніка 1937-га ён быў расстраляны. Нягледзячы на тое, што ў літаратуры працаваў няпоўных пятнаццаць гадоў (першае апавяданне надрукаваў у 1922 годзе ў газеце "Савецкая Беларусь"), пасля сябе пакінуў значную мастакоўскую спадчыну. У гэтым пераконвае Збор твораў М. Зарэцкага ў чатырох тамах, выпушчаны выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў 1989—1991 гадах. У ім прадстаўлены такія творы, як раманы "Сцежкі-дарожкі", "Вязьмо", аповесць "Голы звер", шматлікія апавяданні.

Проза

# ЗНАК ДА НАПАДУ

Юры СТАНКЕВІЧ



АПАВЯДАННЕ

## 1. НАТАТКІ ПРАДПРЫМАЛЬНІКА

Мы пазнаёміліся на вечарынцы. Усё адбывалася ў кватэры гаспадыні — Людмілы Маркаўны, адваката, даволі прывабнай жанчыны і, дарэчы, сяброўкі маёй жонкі. У рэшце рэшт кожны з нас, мяркую, мусіць круціцца ў абмежаваным коле знаёмых і сяброў — гэта, пэўна, і ёсць яго асабісты свет. Грамадства так і дзеліцца: на розныя кланы і кланчыкі. У плыні жыцця такія кланы-выспачкі прыцягваюць да сябе, нават засмоктваюць. Калі я, напрыклад, праязджаю на сваім "мерсе" ля адной пазаштатнай кавярні і піўной побач, я амаль заўсёды бачу там свайго былога аднакласніка: за дваццаць гадоў ён моцна здаў і апусціўся — алкаголі, нарката, хваробы, ідыёцкія разборкі... Але, на гэтым "пятачку" ўвесь яго свет, ён жыве ў ім напоўненым сэнсам жыццём, як жыве такім жа поўным жыццём, праязджаючы паўз яго тусоўкі, які-небудзь міністр ці буйны дзялок. Чаму чукчы не ўцякаюць са сваёй халоднай, жудаснай Поўначы?, — спытаў, здаецца, Кафка. Сапраўды, чаму? Тота і яно... Але — я адхіляюся ад свайго прамога задання, ад сваіх занатовак, хаця ўгавор быў такі: шчыра запісаць свае думкі, без падману, і — у канверт.

Дык вось, у нашым "кланчыку" мы і пазнаёміліся. Жанчына была ціхая, спакойная, гадоў пад сорак, прывабная. Не высоўвалася ні за сталом, ні пасля. Увогуле, вечарынка, як у нас прынята, была закручана па-сучаснаму. Аніякіх там тостаў, прымусаў: пі — не пі, гавары — не гавары... Хто што хацеў — тое і рабіў, вядома, у межах прыстойнасці. Я затрымліваца не збіраўся, хаця і прыехаў без жонкі — Валянціны (прастудзілася дачка, дык яна засталася з ёй дома). Так, аддаў належнае, падтрымаў сувязі, пазнаёміўся з тымсім. Зараз шмат што, дарэчы, вырашаецца праз асабістыя кантакты, трэба круціцца не толькі на працы, а і на такіх вось "кланавых" тусоўках.

Дык вось, калі я ўжо збіраўся ціхенька, па-ангельску, знікнуць, гаспадыня нас пазнаёміла. Рахманая жанчына аказалася вядомай сталічнай хіраманткай, прадказальніцай і яшчэ там кімсьці — я не запомніў. У Людмілы Маркаўны яна была ўпершыню, пэўна накшталт вясельнага генерала... Я ёй неяк па-дурному, інакш не скажаш, адразу аб'явіў, што не надта ва ўсё гэта веру, яна быццам сумелася, але тут ужо дзеля запозненай ветлівасці раптам папрасіў яе на адыход патлумачыць мне хоць што пра мой далейшы лёс, паваражыць, прасцей кажучы. Жанчыну-прадказальніцу звалі Янінай Мікалаеўнай.

Яна ўсміхнулася і таксама ветліва мяне абсекла. Маўляў, прымае ў офісе і ў звычайны час, днём, бо ў яе таксама праца і не надта лёгкая.

Я заўважыў:

— Вядома, там вы з мяне грошы запатрабуеце, а ўзяць тут, як кажуць, не ў масць — разумею.

Я іншым разам бываю такі вось, з'едлівы. А з дамамі — гэта залішне.

Але яна не пакрыўдзілася.

— Што ж, — кажа, — давайце зірну на вашу далонь. За чыста сімвалічную плату: пачастуеце цыгарэтай.

Ну, я прысеў побач, падаў ёй правую руку і гавару, памяркоўна ўжо:

— Я б і ў ваш офіс зазірнуў і за паслугі, прабачце, за вашу нялёгкую працу заплаціў бы, але праз дзень мушу ехаць у В. Трэба збірацца, сазваніцца з пасрэднікамі, білеты заказаць: звычайная мітусня, прабачце...

Яніна Мікалаеўна тут перапыніла мяне, спытаўшы, ці не з'яўляюцца ў мяне якія жахі, прадчуванні. Я адказаў, што гэтага, пэўна, зараз не можа пазбегнуць ніхто — такі час, але я асабіста нікому на мазоль не наступіў і ні на кога не наехаў, так што сплю спакойна.

Яна раптам заўважыла:

— Вы б, Сяргей Пятровіч, нікуды не ездзілі. Вам лепш дома пабыць, з сям'ёй. У вас рука благая.

— Гэта яшчэ чаму? — спытаў я незадаволена.

— Так гавораць знакі, — кажа, — прабачце, але вы самі мяне папрасілі зірнуць. Вось я вам і гавару збольшага пра тое, што бачу, хаця б магла сказаць і нашмат болей, ды вы мала ў гэта верыце і часу ў вас небагата.

— І ўсё? — спытаў я, зноў неяк не надта ўцямна.

— Так, не ездзіце нікуды. Усё роўна ў В. вы, мабыць, і не трапіце. Лёс ваш можа інакш скласціся, — і глянула на мяне сваімі шэрымі вачыма.

— Ага, — гавару, — у дарозе, вядома, усё можа здарыцца. Але мая воля мацней. Я гаспадар сваіх абставінаў. Я не толькі самалётам не палячу, а і экспрэсам чыгуначным не паеду. Сяду ў звычайную электрычку, потым яшчэ дзве змяню — і да В. усё-такі дабяруся. Няхай сабе на якую гадзіну — паўтары пазней, але ў сэнсе бяспекі — выйграю. І целаахоўніка захаплю, каб выключыць усе выпадковасці. Дарэмныя вашы перасцярогі.

— Хіба што так, — зноў усміхнулася яна і дадала: — Я вам благога не хачу, зразумейце.

— А давайце зымправізуем такі варыянт, — раптам прапанаваў я. — Арганізуем нешта накшталт закладу. Вы сядзьце зараз за стол і на аркушыку паперы напішыце свае назіранні і тое, што ўбачылі наконт мяне, а я сяду і — сваё занатую. Папросім у гаспадыні канверт і заклеім. А калі я вярнуся, то зноў сустрэнемся і прачытаем, што там напісана. Прааналізуем, хто, так бы мовіць, меў рацыю. А каб вы мяне скнарам не лічылі, я ў канверт і ганарар адразу пакладу. Стольнік, скажам так. Дастаткова? А калі я вярнуся з таго В. жывым і здаровенькім, у чым я ніколькі не маю сумневу, то вы ці аддасцё мне ўжо два стольнікі, ці прылюдна абвесціце, што ваша варажба — проста мілае хобі для залішне экзальтаваных людзей, якія не могуць знайсці спосабу зарабіць на больш-менш прыстойнае жыццё. (Тут мяне занесла, канечне, але што зробіш, пішу як ёсць).

Яніна Мікалаеўна неяк зусім пасур'ёзнела, але нечакана пагадзілася.

— Дайце, — кажа, — яшчэ раз вашу далонь, — заклад дык заклад. Няхай будзе так.

Хвілін дзесяць вывучала руку пад настольнай лямпай, я аж на гадзінніку час засёк, а потым адпусціла мяне. Задала толькі яшчэ некалькі пытанняў.

— Пішыце, — кажа, — а я сваё напішу. І ўсё-такі прашу вас нікуды не ездзіць.

— Досыць слоў, — падагульніў я, — барыцце асадку і садзімся.

Я занатаваў усё, што тут вышэй напісана, дадаў стодоларавую банкноту, паклаў усё ў канверт і аддаў гаспадыні. За намі сачылі з цікавасцю.

## 2. НАТАТКІ ПРАДКАЗАЛЬНІЦЫ

Мы з Сяргеем Пятровічам, пэўна, так бы і разышліся, каб не яго ўнутраная нервовасць. Увогуле ён падаўся мне ў той вечар разумным чалавекам, хоць крышку і праставатым, магчыма з-за імпульсіўнасці характару. Але гэта ўжо бракуе, пэўна, усім так званым "новым беларусам". Урэшце, Бог ім, бедным, суддзя. Бедным у тым сэнсе, што яны пераскочылі, як мне думаецца, праз нешта вельмі важнае: пачалі будаваць дом, забыўшы пра падмурак. Але я адхіляюся. Знешне чалавек часам здаровы і моцны, а ўнутры бывае зусім іншы: гэта, мяркую, ужо у ім уключылася ці імкнецца ўключыцца сістэма, што працуе з энергіямі, якія выступаюць за межамі нашых пяці органаў пачуццяў. Доўга тлумачыць не збіраюся, але ў кожнага з нас ёсць своеасаблівы цэнтр бяспекі, які каардынуе свядомыя дзеянні па выратаванні жыцця. У аднаго ён моцны, у другога зусім слабы. Энергіі гэтага цэнтра могуць быць бязмежнымі ў нябачным нам свеце. Гэты цэнтр бяспекі ў пастаянна й і напружанай рабоце. Успомніце, як доказ, лічыльнікі, што абганяюць камп'ютэр, ці так званых савантаў.[1] Ён, цэнтр бяспекі, вылічвае наш рух, апярэджвае цела, правярае нават моц балконаў, мастоў ці каналізацыйных люкаў на нашым шляху, імчыць наперад, прыкідвае мноства камбінацый і шматлікія сустрэчы з агрэсіўнымі існасцямі. Так, нямногія ведаюць, што Сусвет кішыць драпежнікамі. Дык вось: графічнае адлюстраванне дрэннай работы цэнтра нашай бяспекі выяўляецца на нашай далоні. Вопытныя хіраманты ведаюць гэта і яшчэ нашмат больш. Але тое ўжо — нашы сакрэты. Нават простая цыганка з вуліцы можа іншы раз сказаць нешта вартае, хаця каб дасягнуць у гэтым дасканаласці трэба дзесяцігоддзі працы і — талент. Ніякай злой волі лёсу няма, вось у чым справа, паверце. Ёсць толькі добрая ці дрэнная работа цэнтра бяспекі кожнага індывіду.

Але я зноў адхілілася. Сяргей Пятровіч падаў мне сваю правую далонь.

Гэты яшчэ даволі малады, збольшага адукаваны і сімпатычны чалавек паклаў яе на стол і я, як заўсёды ў такія моманты, унутрана сцялася. Кожны з іх — тых, хто хоча даведацца — нават не падазрае, што прад'яўляе падрабязнае адлюстраванне свайго мінулага, сучаснага і будучага. Гэта — як выклік лёсу.

Вось што я там убачыла. Ён быў жанаты другі раз, бацькі яго таксама былі ў разводзе. Я спытала, ці праўда гэта, і ён адказаў, што так, праўда, але пра гэта ведае палова гасцей на вечарынцы. Я не пярэчыла, бо не гэта было галоўнае. На некалькі секунд я нібы ўпала ў транс і зведала пра яго многае, і што яшчэ яго апошнім часам больш не мела, скажам так, прыкрасці. Я сказала яму, што ў асобныя перыяды, каб выжыць, не трэба мець жаданняў, а трэба толькі цярпліва чакаць, бо наш лёс — супрацьстаянне сілам жыцця. Але ён не зразумеў мяне. Так, людзі звычайна не разумеюць. Яны аніяк не могуць спасцігнуць жаху перад тым, што яны проста людзі, вось у чым справа.

А чалавек — такая ж недасканаласць, як і ўсё ў нашым свеце. Бо ёсць і іншыя светы, якія мы не бачым. І лёс яго, чалавека, можна параўнаць хіба што з існаваннем кузуркі, якая мусіць перапаўзаць дарогу, па якой бягуць машыны, крочаць пешаходы, дый якая птушка скосіць вокам, убачыць і здзеўбане... Да таго ж ён, Сяргей Пятровіч, здаецца, не з тых, хто ў адзіноце не баіцца ісці сваім шляхам. А гэта ўжо горш. Але такіх, хто не баіцца, параўнальна мала. Не важна, церпяць яны паразу ці не — яны вядуць свой бясконцы супраціў сілам жыцця так, быццам той супраціў — апошні. Але гэта ўжо, бадай, філасофія іншага парадку.

Я пашукала, ці ёсць у яго на далоні квадрат — самы спрыяльны знак, які толькі можа быць на руцэ. Гэты знак гаворыць, што яго ўладальнік, здараецца, мусіць пазбегаць самых пагрозлівых непрыемнасцяў, заўсёды нечакана і самым цудоўным чынам. Але гэтага знака не было. Дарэчы, у хіромантыі два асноўныя накірункі: усходні і заходні. Трэба ведаць абодва. Але ў любым з іх рука чалавека — найцікавейшая мапа шматлікіх хіралагічных характарыстык. Дык вось, хоць бы самае простае — знакі. Людзі, якім увогуле не варта нараджацца на свет, адразу вызначаюцца знакам на далоні — адзінай папярэчнай лініяй. Урачы ведаюць: гэта хвароба Дауна. Зорка ў асобных выпадках, у залежнасці ад месца размеркавання, сведчыць пра славу, багацце, але і пра няшчасце і нават смерць. Крыж таксама гаворыць пра непрыемнасці, траўмы, але можа быць і спрыяльным знакам. Выспа — неспрыяльны знак, такі ж знак і круг.

Сцяг — наадварот, рэдкі знак, які сведчыць пра духоўную веліч, мужнасць і сілу характару і ўсё такое. Знакаў шмат. Ёсць яшчэ на далоні лініі: сэрца, галавы, лёсу, жыцця, здароўя. На ўсіх руках, дарэчы, час бяжыць па-рознаму і вызначаецца індывідуальна. Гэта ўсё — самае простае. Але ў хіраманты ў гэтай прастаце пачынаецца самае незвычайнае. Бо ўсе будучыя выпадковасці: траўмы, смерць, няшчасныя выпадкі прадстаўлены на руцэ знакамі і спалучэннямі знакаў. І яны з'яўляюцца задоўга да падзеі. За дваццаць, трыццаць гадоў можна прадбачыць абставіны, якія прывядуць да ракавога выпадку.

Я збольшага расказала амаль пра ўсё гэта Сяргею Пятровічу, так, напаўголаса, быццам сама сябе загаворвала. Тут ён спытаў, менавіта якія знакі я бачу ў яго на далоні, няўжо зусім дрэнныя, і пра што яны гавораць: пра няшчасце ці, можа, нават пра тое, што прыйдзе смерць? Я адказала, што смерць кожнага з нас заўсёды побач, прыкладна на адлегласці з метр, і ёй не трэба аднекуль прыходзіць, проста наступае адпаведны час, калі арганізм згаджаецца на яе напад — вось і ўсё. Лепш заўсёды памятаць пра яе і пасяброўваць з ёй. Ён усміхнуўся іранічна.

Над далонню кожнага чалавека яшчэ існуюць восем планет. Нават самая далёкая — Нептун — і тая займае на ёй невялічкі ўчастак. Ёсць на далоні і ўчасткі, якія належаць нашым родным, бацькам і дзецям. І ўсё гэта зноў у розных спалучэннях і варыянтах. Зараз шмат з гэтых сілаў жыцця былі якраз супраць яго. Я сказала:

— Вы вольны выбіраць. Магчыма, ваша воля справіцца з усім неспрыяльным. Але ведайце: мы аформім усе нашы дзеянні ў словы і нават занатуем іх на паперы. А занатаваныя словы набываюць сваю асаблівую моц і часта збываюцца.

— У такім выпадку досыць слоў, досыць размоў, — усміхнуўся ён і дадаў: — Да сустрэчы, спадарыня Касандра.

## 3. ЗАНАТОЎКА ГАСПАДЫНІ

Для поўнай раўнавагі, хаця якая ўжо тут раўнавага, я вырашыла далучыць да ўсяго вышэйсказанага і свае некалькі слоў.

(Працяг на стар. 12)

[1] *Саванты — людзі, якія валодаюць незвычайнымі здольнасцямі. Іх, дарэчы, на зямлі ўсяго каля дваццаці чалавек.*

# ВЕРНАСЦЬ ТРАДЫЦЫЯМ І КАРАНЯМ



**Не толькі Мінск, але і Магілёў паступова ператвараецца ў мастацкі цэнтр, дзе ладзяцца розныя культурна-масавыя імпрэзы, фестывалі. Як вядома, гэтым летам на Магілёўшчыне з поспехам прайшоў Першы міжнародны пленэр па жывапісе імя В. Бялыніцкага-Бірулі, сярод мастакоў-удзельнікаў якога быў і Уладзімір Масленікаў. Падчас творчай вандроўкі мастак зрабіў нізку жывапісных палотнаў пра гэты край. Пазней у яго нарадзілася ідэя паказаць свае новыя творы менавіта магіляўчанам на малой радзіме свайго бацькі, народнага мастака Беларусі Паўла Васільевіча Масленікава.**

**25 кастрычніка ў Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. В. Масленікава адкрылася персанальная выстаўка У. Масленікава. Разам з новымі палотнамі аўтар прадставіў і работы папярэдніх гадоў: партрэты сваіх бацькоў, жывапісныя кампазіцыі, прысвечаныя Максіму Багдановічу, Паўлюку Трусу, партрэты сучаснікаў, краявіды мясцін, дзе нарадзіліся, жылі і працавалі падзвіжнікі Бацькаўшчыны.**

**Трэба адзначыць, што выстаўка У. Масленікава пакідае добрае ўражанне ў наведвальнікаў і прыхільнікаў мастацтва. Мастак ніколі не падладжваўся ў творчым працэсе пад модныя плыні і сёння застаецца верным нацыянальнай рэалістычнай жывапіснай школе. Яго творчасць увабрала ўсё лепшае ад сваіх педагогаў падчас навучання на жывапісным аддзяленні тэатральна-мастацкага інстытута (зараз Беларускай акадэміі мастацтваў) і старэйшых майстроў жывапісу, аб якіх з асаблівай удзячнасцю прыгадвае мастак.**

**Творчая справаздача У. Масленікава на малой радзіме свайго бацькі засведчыла, што аўтар ідзе ўпэўненай хадой па сваёй сцяжыне ў мастацтве і застаецца верным нацыянальным традыцыям і духоўным караням.**

**В. КУПРЫНА,**
**супрацоўніца Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя П. Масленікава**

# РЭДКАЯ МАЙСТРЫЦА



**Такіх каляровых раменьчыкаў, якія робіць для народных строяў 85-гадовая ўмеліца Юлія Карпаўна Верабей, ні ў яе роднай вёсцы Перхавічы Баранавіцкага раёна, ні ў навакольных сёлах ніхто вырабіць не можа.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

Фестывалі

***У другі раз у слаўным горадзе Магілёве зазвяла золата песеннай спадчыны мінулых гадоў. Адбыўся Міжнародны музычны фестываль "Залаты шлягер-96", які, дзякуючы намаганням нястомнага дырэктара Магілёўскай філармоніі У. Браілоўскага і яго каманды, кіраўніцтва Магілёва і вобласці, Міністэрства культуры, сабраў разам папулярных эстрадных "зорак" мінулых гадоў з Беларусі, блізкага і далёкага замежжа.***

***Залаты саксафон на фоне залатога кляновага ліста стаў мастацкай эмблемай сёлетняга фестывалю. А музычнай яго візітоўкай зноў былі знакамітыя некалі "Ландышы", быццам восень і вясна сышліся разам на магілёўскай зямлі, каб падарыць удзельнікам фестывалю і гледачам маладосць і надзею, магчымасць паглядзець вачамі мудрай сталасці на песенны здабытак дзён мінулых.***

# СЫШЛІСЯ ВОСЕНЬ І ВЯСНА







Кажуць, час — лепшы суддзя, а ісціна — дачка часу. Сёлетні фестываль пацвердзіў гэта. Гучалі песні мінулых гадоў, якія вытрымалі выпрабаванне часам, песні, высокі мастацкі ўзровень якіх час нават выявіў. Вядома, чалавеку ўласціва ідэалізаваць мінулае. Але калі гэтае мінулае арганічна ўваходзіць у дзень сённяшні надзвычайнай цеплынёй, душэўнасцю, шчырасцю і змястоўнасцю сваіх песень, то можна на хвіліну (ці на 4 гадзіны — столькі прыблізна доўжыліся гала-канцэрты фестывалю) увявіць сябе ў часе ідэальным і гарманічным, у атмасферы ўсеагульнай любові.

На гэтым фестывалі зноў сустрэліся старыя сябры і, як казалі самі артысты, "Залаты шлягер" стаў кропляй эліксіру маладосці. Той, хто наведаў песенныя канцэрты ў Магілёве і ў Мінску (паводле традыцыі, госці і ўдзельнікі "Залатога шлягера" абавязкова выступаюць у сталіцы), нібы пабываў у маладосці сваёй ці сваіх бацькоў.

Каго ж звёў лёс на "Залатым шлягеры-96"? Юрыя Багацікава і Эдуарда Хіля, Уладзіміра Трошына і Тамару Міянсараву, Марыю Пахоменку, Аляксандра Колкера і Віктара Вуячыча, Нэлі Багуслаўскую і Эдуарда Міцуля, Тамару Раеўскую і Вадзіма Мулермана, Льва Барашкава і Наталлю Нурмухамедаву, Капіталіну Лазарэнку і Ігара Лучанка, Ірыну Бржэўскую і Уладзіміра Шубарына, Валерыя Абадзінскага і Тацціяну Пятрову, ансамблі "Чэрвона рута", "Гайя", "Арэра", "Доктар Ватсан".

Упершыню ў рамках фестывалю была праведзена гульня "Адгадай мелодыю" з Валдзісам Пельшам (выязная мадэль папулярнай тэлеперадачы), а пасля яе выступіў Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і яго салісты, з праграмай "Забытыя і незабыўныя мелодыі".

Упершыню на фестывалі адбыўся і міжнародны конкурс маладых выканаўцаў папулярных песень мінулых гадоў. Гэтае спаборніцтва не мае пакуль сталых традыцый, мо таму конкурс атрымаўся камерным па колькасці ўдзельнікаў — іх было адзінаццаць, але дастаткова прадстаўнічым "геаграфічна": Расія, Украіна, Беларусь, Малдова, Азербайджан, Польшча. Удзел прадстаўніцы Польшчы — гэта вынік двухбаковых сувязяў паміж саюзамі кампазітараў Беларусі і Польшчы, якія наладжваюць кіраўнікі суполак — Ігар Лучанок і Ян Майндровіч. Апошні, дарэчы, мае велізарны досвед у правядзенні міжнародных музычных фестываляў і на "Залаты шлягер" быў запрошаны ў якасці ганаровага госця.

І польская канкурсантка Агнешка Кавальчык да сваіх шматлікіх лаўрэацкіх званняў дадала яшчэ адно: лаўрэат І прэміі фестывалю "Залаты шлягер-96".

•

Журы, якое, замест захварэўшага Мусліма Магамаева, узначаліла народная артыстка Расіі Тамара Міянсарава, паставілася да ўсіх канкурсантаў "пабацькоўску": ніхто не застаўся без узнагароды. Іншае пытанне: ці было справядлівым іх размеркаванне? Удзельнікі конкурсу паказалі амаль роўны прафесійны ўзровень, бо ўсе маюць ужо пэўны вопыт працы на эстрадзе і ўдзелу ў конкурсах. І ўсё ж кожны паставіўся да выканання песень мінулых гадоў па-свойму: хто імкнуўся пераймаць знешнюю манеру выканання колішніх куміраў, хто рабіў дакладную галасавую копію. Не зусім бясспрэчнай падаецца ўзнагароджанне першай прэміяй магіляўчанкі Алены Ларушынай, спявачкі здольнай, але якой трэба яшчэ шмат працаваць над культурай спеваў і выпрацоўкай індывідуальнай манеры. Бо пакуль што яна паказала сябе добрай вучаніцай славутай школы Н. Бардуновай і не зусім дасканалай копіяй І. Афанасьевай. Агнешка Кавальчык, якая падзяліла з Ларушынай І прэмію, выглядала на сцэне больш арганічнай і абаяльнай. Такі падзел І прэміі выглядаў хутчэй данінай сяброўскім адносінам двух краін, чым адпавядаў рэальным магчымасцям і здольнасцям прэтэндэнтак, вынікам іх выступленняў.

Больш яркімі індывідуальнасцямі падаліся ўладальнікі ІІ прэміі — Валянціна Кажакар з Малдовы і Фаік Агаеў з Азербайджана. Валянціна Кажакар — уладальніца моцнага і рухомага голасу, выдатна трымаецца на сцэне, умее прафесійна працаваць з мікрафонам. Праўда, часам здаецца залішне халоднай і стрыманай, але ўсё гэта кампенсуюць смеласць у падборы рэпертуару і ўменне "трымаць" стыль абранай песні. Фаік Агаеў да лаўрэацкага звання дадаў прыз сімпатый гледачоў, бо быў абаяльны, шчыры, асабліва ўразіла яго мяккая, усходняя пластычнасць, як у руках, так і ў голасе.

Трэцюю прэмію падзялілі салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Наталля Тамела і нашы госці з Украіны Вячаслаў Хурсенка і Вікторыя Багацікава (дачка Ю. Багацікава). Літаральна з першых тактаў конкурснага выканання песні "Тбілісо" зрабілася відавочна, што перад намі будучы ўладальнік Гран-пры фестывалю "Залаты шлягер". Так і здарылася. Тэймураз Боджгуа, лаўрэат трох міжнародных конкурсаў ("Ялта—Масква—транзіт", "Славянскі базар" і "Вільнюс"), стаў першым уладальнікам Гран-пры міжнароднага музычнага фестывалю "Залаты шлягер-96". Спявак жыве і працуе цяпер у Маскве і на конкурсе прадстаўляў Расію. Яго лідэрства было бясспрэчным, уражвалі і моцны, лёгкі, вялікага дыяпазону голас, і здольнасць імгненна выклікаць прыхільнасць публікі.

Яшчэ тры ўдзельнікі конкурсу атрымалі заахвочвальныя прызы: Валерыя Первых з Крыма — за творчы пошук, Арцём Сувораў (Расія) — за артыстызм, Павел Усовіч (Беларусь) — за сцэнічную абаяльнасць.

Назіраючы за выступленнямі маладых спевакоў, яшчэ і яшчэ раз прыходзіш да высновы, што сёння на эстрадзе павінны дамінаваць артысты з галасам, з добрай сцэнічнай і музычнай падрыхтоўкай, з годным рэпертуарам. Публіка — не дурніца





і заўсёды дакладна і тонка рэагуе на сапраўднае і штучнае. Ну, а на адрас магілёўскай публікі можна сказаць, што гэта ці не самая ўдзячная публіка ў краіне, да таго ж самая спяваючая. І на мінулым фестывалі, і на сёлетнім можна было яшчэ раз пераканацца, што ў Магілёве спяваюць добра і старыя, і малыя, спяваюць так чыста і шчыра, што госць фестывалю Л. Барашкаў, які разам з залай спяваў песню Ю. Візбара "Мілая мая", нават праслязіўся.

●

На ўсіх трох гала-канцэртах "Залатога шлягера-96" у Магілёве панавала атмасфера свята. У гэтым годзе не было сольных выступленняў "зорак". Артысты рабілі сольныя аддзяленні на выязных канцэртах, якія па традыцыі прайшлі ў раённых цэнтрах Магілёўскай вобласці і ў раёнах Магілёўшчыны, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. І паводле сведчанняў гасцей, гэта былі незабыўныя сустрэчы.

"Залаты шлягер" увогуле носіць "пячатку" незабыўнасці сустрэч. Пэўны час аматары эстрады ў Беларусі не мелі магчымасці слухаць такія знакамітыя ансамблі, як азербайджанскі "Гайя" і грузінскі "Арэра". "Залаты шлягер-96" даў магчымасць і паслухаць, і пераканацца: высокі прафесіяналізм па-ранейшаму ўласцівы музыкантам, яны шмат гастралююць за мяжой, а сёлета абодва калектывы адзначаць сваё 35-годдзе.

На сёлетнім фестывалі былі свае "легенды і міфы". Ганаровай госцяй прыехала ў Магілёў папулярная на Беларусі ў 50—60-я гады эстрадная спявачка Ірына Палянская. Але тыя трыумфы засталіся толькі ў яе уласных успамінах, успамінах блізкіх людзей, вучняў і прыхільнікаў таленту спявачкі, бо няма нават запісаў, ды і афішы не захаваліся. Пэўны час пасля заканчэння сцэнічнай кар'еры І. Палянская была педагогам у Беларускай філармоніі, у яе займаліся Надзея Мікуліч, Святлана Кульпа, Таццяна Арлоўская. Папулярная сёння спявачка Алёна Свірыдава сваім адзіным педагогам лічыць І. Палянскую. Нават такія мэтры беларускай эстрады, як заслужаныя артысты Беларусі Н. Багуслаўская ды Э. Міцуль, таксама лічаць сябе вучнямі Палянскай, бо ім давялося выступаць у канцэртах разам, і яны на практыцы спасцігалі сакрэты майстэрства "зоркі".

І яшчэ дзве "легенды" — спевакі В. Абадзінскі і В. Мулерман. Вадзім Мулерман жыве цяпер у ЗША, штогод прыязджае ў родны Харкаў, дзе сёлета яго чакала запрашэнне на "Залаты шлягер-96". Спявак зрэдчас выступае ў Амерыцы, працуе ў школе, якая рыхтуе артыстаў для шоу. А ў Магілёве зноў нібы трапіў у сваю маладосць і адчуў, што такога яднання з публікай не меў даўно. Даўно не бачылі і не чулі гледачы Валерыя Абадзінскага. І калі зноў загучаў яго непаўторны голас, захапленню публікі не было межаў. Дарэчы, спявак падрыхтаваў два новыя дыскі і працуе над новай канцэртнай праграмай.

●

Кожны ўдзельнік і госць на "Залатым шлягеры-96" адкрыў для сябе нешта новае. Напрыклад, заслужаны артыст Беларусі Алег Цівуноў, спявак і па сумяшчальніцтве вядучы канцэртаў фестывалю (дарэчы, гэта ў яго атрымалася выдатна), адкрыў для сябе Уладзіміра Шубарына, якога публіка ведае як танцора, а ён, аказалася, піша песні і сам спявае!

Журналісты адкрылі для сябе нечаканa годны ўзровень інфармацыйнай падтрымкі фестывалю: дзякуючы арганізатарам выйшлі тры фестывальныя газеты, прычым каляровыя, быў зроблены арыгінальны каляндар-буклет. Словам, нягледзячы на тое, што "Залаты шлягер" можна было б назваць малодшым братам "Славянскага базара", законы фестывалю вялікага і самастойнага адчуваліся.

Адкрыццём (нечаканасцю) сталіся на свяце дзве падзеі. Дырэктар Магілёўскай абласной філармоніі і мастацкі кіраўнік фестывалю Уладзімір Браілоўскі быў узнагароджаны медалём Міжнароднага дабрачыннага фонду імя Б. Гапонава. Гэтую ўзнагароду ўручыў старшыня фонду прафесар Ілля Гагулашвілі, ганаровы госць "Залатога шлягера". Ён падкрэсліў заслугі У. Браілоўскага ў справе захавання міру і дружбы паміж народамі. А яшчэ — на першым фестывальным канцэрце з'явіўся С. Віннікаў, старшыня Міжнароднай карпарацыі "Славянскі базар" і афіцыйна запрасіў "Залаты шлягер" уступіць у Еўразійскую асацыяцыю фестываляў. Значыць, у "Залатога шлягера" ёсць перспектывы, ёсць будучыня, ёсць магчымасці для пашырэння маштабу. Трэба толькі памятаць своеасаблівы, радком песні падказаны, дэвіз фестывалю: "...Сэрцам не старэць".

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**
*Фота Аляксея МАЦЮША*

Выставы

# АБЯЦАННЕ НОВЫХ СУСТРЭЧ

"Міліцыянер, які спыніў нас за крыху перабольшаную хуткасць, вельмі здзівіўся, калі даведаўся, што спяшаемся мы ў Светлагорск на адкрыццё нашай мастацкай выставы. "У Светлагорск? Там жа бандыты, наркаманы, і нават СНІД!.." Карацей, паспачуваў і адпусціў, абмежаваўшы сваё пакаранне невялікім штрафам, — распавёў графік Уладзімір Вішнеўскі. Пры гэтым ён не толькі жартаўліва ўсміхаўся, але і палічыў неабходным дадаць: — Дальбог, калі б не ведалі, што Светлагорск — гэта вельмі сучасны малады горад, у якім жыве нямала сапраўдных прыхільнікаў выяўленчага мастацтва і ёсць нават свая карцінная галерэя, то, мабыць, паверылі б міліцыянеру і не з меншай хуткасцю паспяшаліся б назад, у Мінск".

Што праўда, тое праўда: і шаноўнаму Уладзіміру Вішнеўскаму, акадэміку Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва, і яго спадарожнікам, таксама акадэмікам БелАВМ мастакам Уладзіміру Зінкевічу, Валерыю Славуку і яшчэ не маючай акадэмічнага звання, проста выдатнай мастачцы Валянціне Сідаравай (яна — Зінкевіч) Светлагорск быў добра вядомы. Тут яны зусім нядаўна разам са старшынёй Саюза мастакоў Генадзем Буралкіным, прэзідэнтам Акадэміі выяўленчага мастацтва Феліксам Янушкевічам, прафесарам жывапісу Анатолем Бараноўскім і іншымі слыннымі мастакамі прымалі ўдзел у адкрыцці выставы таго ж Зінкевіча, для якога Светлагорск — наогул родны горад. Хто-хто, а яны добра ведалі, што мясцовая карцінная галерэя мае свой мастацкі фонд, у якім творы народных мастакоў Г. Вашчанкі, Л. Шчамялёва, заслужаных дзеячаў мастацтва Беларусі Л. Дударэнкі, М. Казакевіча, Д. Алейніка, А. Марачкіна, а таксама У. Зінкевіча, У. Сулкоўскага, Р. Ландарскага, С. Курашовай, Г. Пранішнікава. Тут былі наладжаны выставы, якім, без перабольшання, маглі б пазайздросціць некаторыя куды больш вядомыя галерэі і выставачныя залы...

І вось новая падзея ў культурным жыцці Светлагорска: два графікі Уладзімір Вішнеўскі і Валерый Славук адкрылі тут сваю першую сумесную выставу. Пры ўсёй агульнасці жанру і бясспрэчна высокім майстэрстве гэта вельмі розныя па сваім светаўспрыманні мастакі.

Уладзімір Вішнеўскі — філосаф, які грунтуецца ў сваіх лепшых творах на беларускай спадчыннасці, на заглыбленасці ў народныя традыцыі. Гэта — шматасацыятыўны мастак. Варта засяродзіць увагу на такіх яго творах, як "Дзяды", "Птушкаловы", "Свет у сутонні душ", — твор, які прысвечаны Дастаеўскаму. Гэта не толькі выразны, па-свойму адметны партрэт вялікага рускага пісьменніка, але і па-мастацку канкрэтнае асэнсаванне спадчыны Дастаеўскага. Тут і пятрашэўцы, да якіх, як вядома, меў дачыненне пісьменнік, і яго славутыя героі, у тым ліку і Раскольнікаў... Літаральна ўвесь твор прасякнуты вось такой канкрэтыкай, якая, дзякуючы сваёй затоенасці ў перапляценнях ліній, малюнкаў і знітаванасці з агульнай задумай, надае яму менавіта тую цэласнасць, якая змушае ўглядацца ў палатно, адкрываць у ім усё новыя нюансы.

А як тонка і ў той жа час пераканаўча выкананы твор, прысвечаны Уладзіміру Караткевічу! Чаго варты, напрыклад, вобраз маці пісьменніка, сілуэт якой нагадвае... сялянскую хату з гасцінна ззяючымі вокнамі. Зусім па-іншаму, гратэскна глядзіцца "Будка суфлёра". На трывожны роздум наводзяць такія творы, як "Сяўба", "Малы хорст", "Фіеста чарнобыльская" ды іншыя.

Уладзімір Вішнеўскі і Валерый Славук — мастакі, дзякуючы якім выйшла з друку нямала кніг, што склалі гонар нашага кнігавыдавецтва. Вішнеўскі, напрыклад, аздобіў сваімі малюнкамі "Вянок беларускіх народных песень" і такое унікальнае выданне, як "Палата кнігапісная". Валерый Славук удастоены шматлікіх дыпломаў менавіта за афарміцельскае майстэрства. Творы, якімі прадстаўлены ён на выставе ў Светлагорску, — таксама афорты. І натуральна, што ім уласцівы свабодныя, жывапісныя памкненні ліній, малюнкаў. Пры гэтым тэматыка твораў Валерыя Славука — сапраўды казачна-алегарычная, гратэскная. Гледзячы на іх, міжволі прыгадваеш славутага іспанскага жывапісца, гравёра і малявальшчыка Франсіска Гою. І перш за ўсё — серыю яго афортаў "Капрычас". Але Славук, вядома ж, — мастак, які даўно выбраў самастойны, незалежны шлях і мае яркую, толькі яму ўласцівую адметнасць. Ён пазнавальны ва ўсіх творах. Зрэшты, назвы іх пры ўсёй гратэскнай казачнасці і алегарычнасці вельмі канкрэтныя: "Танец", "Лес", "Дрэва для вогнішча", "Крыніца", "Зімовае паляванне", "Дарога", "Спаборніцтва". Мы бачым незвычайных, але дзіўна пазнавальных людзей на дрэвах, у гнёздах, на рыбах, а таксама тых, хто надзелены магчымасцю лятаць. І ўсё гэта не дзеля самой незвычайнасці, а дзеля пакутлівай думкі аб магчымасцях і немагчымасцях чалавека.

Здаецца іншы раз, што Славук ідзе ад літаратурных асацыяцый, якія ўзнікаюць ад тых твораў, што яшчэ не існуюць і нікім не напісаныя. Гэта маглі б быць цудоўныя ілюстрацыі да будучых кніг, аўтары якіх, напэўна, яшчэ з'явяцца...



Але ж мы ведаем Валерыя Славука і па ўжо вядомых дзіцячых кнігах — "Удовін сын", "Казка пра мёртвую царэўну і сем волатаў", "Дзікія лебедзі", "Залатая птушка", "Людзей слухай, а свой розум май", "Алёнка" ды іншых. Кнігі гэтыя адзначаны дыпломамі на шматлікіх салідных конкурсах.

На адкрыцці выставы двух акадэмікаў графікі было сказана шмат удзячных слоў. Былі госці не толькі з Мінска, але і з Гомеля — мастачка Святлана Курашова прыехала на ўрачыстасць разам з групай сваіх вучняў з Гомельскага мастацкага вучылішча. З суседніх Парыч прыехалі гурткоўцы са студыі выяўленчага мастацтва. Усе яны мелі магчымасць не толькі пабачыць карціны мастакоў, але і пагутарыць з самімі творцамі.

Светлагорцы з радасцю ўспрынялі вестку пра тое, што Акадэмія выяўленчага мастацтва Беларусі бярэ шэфства над карціннай галерэяй і мясцовай мастацкай школай. Гэта — абяцанне новых творчых сустрэч.

**І. КАТЛЯРОЎ**

*На здымках: Валерый Славук і Уладзімір Вішнеўскі. З серыі работ В. Славука "Канфлікты".*

*Фота М. ЖЫЛІНСКАЙ і В. ШУБЫ*



Музыка

# БАРДАЎСКАЯ ПЕСНЯ Ў БЕЛЬСКУ

Пры канцы кастрычніка ў Бельску-Падляскім, што на Беласточчыне, прайшоў чарговы, трэці фестываль беларускай аўтарскай песні "Бардаўская восень. Бельск-96". Праводзіцца ён Звязам беларускай моладзі, які ўзначальвае Багдан Сіманенка. Фэст у Бельску нарадзіўся як працяг фестывалю музыкі маладой Беларусі "Басовішча", які адмовіўся ад аўтарскай песні і сканцэнтраваў сваю ўвагу толькі на рок-музыцы. А аўтарская песня пераехала з Гарадка ў Бельск-Падляскі.

Натуральна, што на фестывалі спяваюць толькі па-беларуску: на Беласточчыне іншыя рэаліі, і песня на рускай мове не можа лічыцца беларускай. І па-польску ў Бельску не спяваюць (як тое ўжо адбылося на "Басовішчы"), хаця асноўныя фундатары "Бардаўскай восені" — Міністэрства культуры і мастацтва Польскай Рэчы Паспалітай і агульнапольская Фундацыя культуры. Аўтарская песня — жанр досыць дэмакратычны, але фестываль у Бельску не абдзелены ўвагай высокіх чыноўнікаў. Заўсёды прысутнічаюць прадстаўнікі міністэрства, консульства Беларусі ў Беластоку, і, канечне, гарадскіх уладаў. Дарэчы, бургамістр Бельска-Падляскага — беларус Андрэй Сцепанюк, які і сам піша неблагія вершы.

Сёлета выступалі Эля Бэзюк — добра вядомая яшчэ па "Басовішчы" (цяпер яна жыве ў Варшаве, а сама ўвогуле з Бельска), досыць цікавы і сур'ёзны аўтар таксама з Бельска Дарафей Фёнік, малады дуэт з бельскага ліцэя Эмілька Астапчук і Тамаш Лукашук ды гарадоцкі гурт "Брага". Астатнія былі з Беларусі, акрамя аднаго — Сержука Сокалава-Воюша, які выступаў у рангу госця. Другім госцем быў Алесь Камоцкі. А ўвогуле фестываль у Бельску адметны тым, што ўсе артысты ўдзельнічаюць у своеасаблівым спаборніцтве, некаторым з іх потым уручаюцца прызы. Старшынёй журы сёлета быў вядомы беларускі пісьменнік і журналіст Сакрат Яновіч. Яшчэ адна адметная асоба ў журы — лідэр групы "Уліс" Вячаслаў Корань.

Дарэчы, пра журналістаў. На "Бардаўскай восені" высветлілася, што асноўная прафесія беларускіх бардаў — журналістыка. І Сокалаў-Воюш — радыё "Свабода", і Кася Камоцкая ды Лявон Вольскі — радыё "101,2", і Сяржук Мінскевіч — газета "Культура", і Вольга Акуліч — Беларускае тэлебачанне, і Зміцер Бартосік — "Наша Ніва", і нават Андрэй Мельнікаў называе сябе "свабодным журналістам". Не журналістам аказаўся малады аўтар з Гомеля, студэнт нямецкай філалогіі, Зміцер Вінаградаў, гэта быў першы фестываль у ягоным жыцці, але спяваў Зміцер досыць прыстойна.

Галоўны прыз ад журы атрымаў Андрэй Мельнікаў з Оршы, які цяпер жыве ў Гомелі. Ён увогуле ўпершыню выехаў за межы, так бы мовіць, СНД, і адразу напаткаў удачу. Акрамя прэміі, ён атрымаў і магчымасць запісаць і выдаць свой альбом на радыё "Беласток". Між іншым, на наступны дзень усе беластоцкія газеты выйшлі з інфармацыяй пра фестываль, а некаторыя нават і з партрэтамі Андрэя Мельнікава. Беластоцкія слухачы маюць свой погляд і свае густы ў аўтарскай песні. Другі значны прыз атрымаў "спявак" жахаў Сяржук Мінскевіч. Але сапраўдны фурор зрабіў Лявон Вольскі, які на нейкі час забыўся пра сваю групу "НРМ" і перакваліфікаваўся ў барда. Ён праспяваў некалькі песень з новага "Народнага альбома" групы — пра Казіка і Юзіка, а на "ўра" прайшла песня пра польскіх шпіёнаў Болека і Лёлека ў дуэце з Касяй Камоцкай. А Касю вельмі любяць у Бельску. Яна таксама можа спяваць без сваёй групы "Новае неба", і адна, з гітарай, з ціхімі лірычнымі спевамі прымусіла замаўчаць занадта раскаваную моладзь. Як заўсёды ў Бельску, вельмі цёпла прымалі Алеся Камоцкага — увогуле, там апладысментаў не шкадуюць. Больш гарачы прыём чакаўся для Зміцера Бартосіка, які літаральна за некалькі тыдняў да таго сенсацыйна паспяхова выступіў на фестывалі ў Мінску, але ягоныя песні аказаліся занадта складанымі для бельскай публікі, і таму — проста цёплы прыём.

Увогуле, можна заўважыць, што да ўспрымання сур'ёзных тэкстаў і сур'ёзнай музыкі тамтэйшая публіка не вельмі падрыхтаваная. Тым не менш, фестываль расце і мацнее — сёлетні быў самым лепшым, публіка ў яго ёсць. А нашым, беларускім аўтарам — ёсць дзе выступіць, хаця і пры дапамозе Міністэрства культуры Польшчы.

**Надзея КУДРЭЙКА**

## ПАЭТ... ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

**А чаму б і не! Як сведчыць у пятым нумары часопіса "Спадчына" Я. Янушкевіч, " да паэтычнай творчасці Вацлаў Ластоўскі... звярнуўся ў сталым узросце: амаль у 40 гадоў. Перад тым — можна сцвярджаць пэўна, ён паэзіяй не займаўся і нават не захапляўся. Найбольшае, што ён мог — прызнаваць яе існаванне. Паводле уласных сведчанняў, на пачатку "нашаніўскай пары" ён "захватваўся навуковай літаратурай і ня прызнаваў ніякіх раманаў і повесьцей, за выключэннем вершаваных, і то апошнія толькі таму, што тады пагалоўна ўсе беларускія пісьменнікі пісалі толькі вершы. Не прызнаваць вершаў нельга было, бо, лёгічна разважаючы, трэба было бы выступаць і супраць беларускай пісьменнасці, а гэтага апошняга я дапусціць ня мог". "Спадчына" мяркуе пазнаёміць з усімі паэтычнымі творамі В. Ластоўскага, а іх каля чатырох дзесяткаў. У гэтым нумары — пачатак публікацыі.**

**Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з матэрыяламі А. Грыцкевіча "Ідэя незалежнасці Беларусі ў гістарычным аспекце", А. Вабішчэвіча "Таварыства беларускай школы: першыя гады існавання", Г. Сагановіча "Беларусь у інфлянцкіх хроніках XII—XVI стст.", Я. Ліса "Палітыка Напалеона на Беларусі", Г. Запартыкі "Развітальныя аўтографы" ("Пра што распавядаюць дакументы з сямейнага архіву Каруся Каганца")...**

**Публікуюцца працяг "Нарысаў з беларускай гісторыі" В. Ластоўскага, "Дыярыуша жыцця майго" М. Матушэвіча, успамінаў Я. Малецкага "Пад знакам Пагоні", "Аўтабіяграфія" Б. Тарашкевіча...**

## ЛЕТАПІС ГАРАДЗЕНСКАЙ ЗЯМЛІ

**Наўрад ці трэба некаму даводзіць, што Гародня з'яўляецца найадметным беларускім местам. Ні штучнае менскае Траецкае прадмесце, ні пераабсталяваныя пад шпіталі полацкія кляштары не навяваюць гэткіх непадробна-старажытных асацыяцый, як гарадзенскія наднёманскія вулачкі.**

**Разумеюць гэта й самі гарадзенцы, а таму стараюцца падтрымаць беларускі імідж свайго горада. Дзесяткі выданняў, за якімі ўпадаюць часам і сталічныя бібліяфілы, за апошнія гады пабачыла свет у гарадзенскіх друкарнях. І вось выйшаў з друку доўгачаканы другі выпуск альманаха "Гарадзенскія запісы". У параўнанні з першым выпускам пабольшаў аб'ём выдання (больш за 200 старонак!), але значна паменшаў наклад (усяго 200 асобнікаў). А змест застаўся ранейшым — сур'ёзныя даследаванні паважных і маладых навукоўцаў, у асноўным супрацоўнікаў і навучэнцаў Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. У самым прадстаўнічым раздзеле альманаха "Гарадзеншчына ў гісторыі" варта прыгадаць артыкул М. Сачок "Мартыралог дакументальных помнікаў па гісторыі Гродзенскай губерні XIX—XX стст., С. Піваварчыка "Да гісторыі назваў населеных пунктаў Гродзеншчыны", С. Казулі "Наваградскія (1617—1721) базыльянскія кангрэгацыі", В. Грыгор'евай "Нацыянальнае пытанне ў дзейнасці каталіцкага касцёла на Беларусі", К. Лецкі "Нявывучаныя старонкі літаратурнай спадчыны Францішка Багушэвіча". У раздзеле "Лёсы людскія" вылучаюцца даследаванні А. Глагоўскай "Васіль Захарка: жыццё, дзейнасць і палітычная думка" і В. Шведа "Бібліятэкар Гродзенскай мужчынскай гімназіі Я. Ф. Арлоўскі". Мову гарадзенцаў у аднайменным раздзеле даследуюць М. Даніловіч ("Прыказкі Гродзеншчыны: новыя запісы"), П. Сцяцко ("З рэгіянальнай лексікі зэльвенскіх гаворак") — ён жа з'яўляецца й галоўным рэдактарам выдання, І. Чыгрына ("Назвы жаночых галаўных убораў у гаворках Гродзеншчыны"). У раздзеле "Краязнаўства" А. Пяткевіч дапісвае "Старонкі краязнаўчага даведніка".**

**Рупнасць гарадзенцаў абнадзейвае. Хай жа прыбывае чытацкая сябрына ў гэткага патрэбнага ўсім беларусам выдання, як "Гарадзенскія запісы", і алень святога Губерта (Герб Гародні, які стаўся і фірмовым знакам альманаха) спрые аўтарам і выдаўцам.**

**Я. ЗЭЛЬВІЧ**

*ПРА НАС*

# "ДЫСКУСІЯ" ПРА НАШЫ РЭАЛІІ

***Беларуская рэдакцыя Польскага радыё даслала ў "ЛіМ" два нумары культурна-грамадскага часопіса "Дыскусія". Выдаецца ён у Варшаве таварыствам "POMOST", 8-ы нумар пабачыў свет у 1995 годзе. Нумар гэтага года мы папрасілі агледзець нашага аўтара і былога супрацоўніка Юрася Залоску.***

N 9 польска-беларускага выдання, як і папярэднія нумары, адрозніваецца разнастайнасцю зместу і варты ўвагі чытача. Адкрываецца ён шэрагам аналітычных матэрыялаў, прысвечаных палітычнай і грамадскай сітуацыі на Беларусі (першая палова гэтага года) і ў Польшчы (палітычны стан пасля ўступлення ў прэзідэнцтва А. Квасneўскага). У. Пац у артыкуле "Беларуская штодзённасць" аглядае падзеі, што ўсхвалявалі Беларусь, — пікеты, дэманстрацыі, арышты, галадоўкі і г. д., — а таксама стан гаспадаркі і кадравую палітыку ўрада. Закранае аўтар і тэму маючага быць рэферэндуму (намнога раней, заўважым, чым нашы палітолагі). "Тое, што Лукашэнка, ініцыюючы рэферэндум, хоча адцягнуць увагу грамадскай думкі ад фатальнай гаспадарчай сітуацыі, не падлягае сумненню", — сцвярджае ён. П. Казанецкі прадстаўляе на старонках "Дыскусіі" новую (прэзідэнцкую) і старую (гістарычную) сімволіку, падае храналогію і механізмы ўвядзення той і другой; ён жа — аўтар вялікага агляду "Ці медыя на Беларусі могуць быць незалежныя?". Могуць, лічыць П. Казанецкі: калі разаўецца свабодны рынак, "то нават адміністрацыйныя рэпрэсіі не здолеюць стрымаць развіцця незалежнай прэсы на Беларусі". Вось толькі невядома, калі будзе той рынак... Апроч таго, аўтар слушна мяркуе, што на будучае найсур'ёзнейшую пагрозу для СМІ нашай краіны — у сувязі з моўнай сітуацыяй і суседствам "старэйшага брата" — будзе ўяўляць "узрастаючая экспансія расійскіх мас-медыя, якія ў прафесіяналізме апярэдзіць будзе вельмі цяжка".

Часопіс працягвае друкаваць раздзелы "Новай зямлі" ў перакладзе на польскую Чэслава Сенюха (разам з арыгіналам — для параўнання знаўцам), даследаванне С. Яновіча "Ад Бібліі да беларускай літаратуры", змяшчае рэцэнзію Т. Занеўскай на кнігу беларускай паэткі з Беласточчыны Надзеі Артымовіч, прадстаўляе песенную творчасць барда з Оршы Андруся Мельнікава... Зайздросны абсяг тэм, ці не так?

**Ю. З.**

# ВОСЕНЬ ТРЫВОГІ НАШАЙ

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

ж, хто ўжо мае цудоўны "свежы" вопыт капання глыбокай і надзейнай палітычнай ямы. Нявызнаныя шляхі і думкі гэтых палітычных мутантаў. Але іх "сокровенные" спадзяванні не могуць "вычислить" хіба малыя дзеці — выехаць на маладых і моцных плячах яшчэ вышэй. Рызыкоўны, калі не сказаць больш, занятак, улічваючы ўзрыўны і няўстойлівы характар амаль не зацуглянага "карэнніка", які адным неасцярожным рухам можа скінуць адчайных вершнікаў пад свае імклівыя ногі...

Падобна на тое, што трагічна памыляюцца гэтыя гора-палітыкі. Што да іх "шэфа", вакол якога, як у дурным сне, з палітычнага небыцця раптам узніклі злавесныя прывіды Марціна Бормана — захавальніка "золата партыі", Генрыха Гімлера — вельмі здольнага збіральніка кампраматаў на сваіх паплечнікаў, Іозефа Гебельса — галоўнага ідэолага і непараўнальнага палітычнага правакатара сучаснасці, то ён сваю "чашу" мусіць выпіць да дна...

### 6.

Працягваючы гістарычныя паралелі, адзначым з'яўленне на старонках нашых газет слова "апрычніна". Відаць, нездарма ўваскрэсла яно са страшэнных крывавых часоў расійскай гісторыі. Бо гэта была сіла, якая стаяла над усялякімі законамі і правам. Ці не такая ж сістэма ствараецца зараз на Беларусі? Ну а там, дзе "апрычніна", там павінна быць і "земшчына". У нашым выпадку — гэта наша слаўная беларуская наменклатура, раней пры ўсіх варунках непатапляльная. Пераважная частка яе вельмі добра выкарыстала "смутныя" часы, зрабіўшы без вялікіх праблем нечуваныя грошы. Вельмі многія ўладкаваліся на прыступках знакамітай "вертыкалі". І разам з тым хоць і парадаксальна, але факт, што менавіта над нашай "земшчынай" у першую чаргу, а не над намі, простымі смертнымі, і навісае дамоклаў меч новага рэферэндуму. Гэта ім у выпадку канчатковай і поўнай перамогі прэзідэнта ёсць што страціць: бо па завяршальным падзеле ўлады абавязкова будзе завяршальны падзел маёмасці... Хто спадзяецца, што неяк абыдзецца, забылі, відаць, трагічны прыклад веймарскай дэмакратыі, калі разабраліся з усімі, хто не адпавядаў законным шляхам выбранай дыктатуры...

### 7.

Што ж, магчыма, нас усё ж такі на пэўны час і вернуць у наша такое жаданае мінулае. Але не дзякуючы машыне часу, як сцвярджаюць некаторыя публіцысты, а пры дапамозе самых звычайных бізуна і перніка. Бо часткова ўжо вярнулі. Зноў "гордо реет" над намі ранейшы даволі каларытны сцяг, пакуль, праўда, без жахліва скрыўленага крыжа (сярпа і молата). Абяцаюць вярнуць і "великую страну". На гэты конт ёсць цудоўная прымаўка пра неадпаведную даўжыню рук, нават калі яны і вельмі ўжо заграбучыя.

Ідэалагічная сутнасць нашых цяперашніх месіяў традыцыйная. І не трэба цешыцца іх разыходжаннямі з фармальнымі "прадаўжальнікамі" справы Маркса-Леніна-Сталіна. Такія рознагалоссі, безумоўна, часовыя і, па вялікім рахунку, неістотныя. Дастаткова пагартаць падшыўку "шчырай" газеты "Товарищ"... Другая справа, што адукаваныя і прагматычныя лідэры сённяшніх камуністаў добра разумеюць небяспеку ўсталявання аўтарытарнай улады на Беларусі, прычым найперш для сябе асабіста. Як ні дзіўна, але якраз яны з'яўляюцца аднымі з найбольш непрымірымых праціўнікаў палітычнага экстрэмізму ў новым часавым кантэксце.

Дарэчы, на фоне астатняй апазіцыі прэзідэнту камуністы выглядаюць цудоўнымі байцамі. Школа, нічога не скажаш!

Але рана ці позна мы паглядзім на сябе вачыма іншых краін і народаў і нарэшце засаромеемся свайго даволі дзіўнага для ўсяго свету выгляду. Ушчэнт збяднелыя, мы "данашваем" зараз дарэшты парваны эканамічны "гарнітур" старога сацыялістычнага крою, ліхаманкава яго цыруючы, каб не разваліўся зусім. Але рана ці позна ён-такі распаўзецца, і нашым "краўцам" прыйдзецца кроіць і шыць новы, каб не апынуцца перад усім светам у вельмі непрывабным выглядзе. І калі той "гарнітур" будзе нарэшце гатовы і будзе "добра сядзець", то тады і стане магчымай рэалізацыя нашага надзвычай зручнага геапалітычнага становішча ў цэнтры Еўропы.

### 8.

Што ж, трывожная зараз восень на Беларусі. Імкліва разносіцца над ёю гнанае халоднымі вятрамі чужое ядавітае насенне. Але не верыцца, што і гэтым разам наша зямля прыме яго і дасць яно свае пачварныя ўзыходы, што зноў забуяе над нашым дарэшты стомленым бясконцымі "рэвалюцыямі" краі злавеснае пустазелле чужых ідэй і дактрын, узрошчанае нашымі апантанымі "паляводамі"-калабарантамі.

Ну а тое, што пакуль яшчэ "вновь продолжается бой" — следства маладосці і няспеласці нашай нацыі, вынік няўрымслівага бурлення маладога віна нашай сукупнай душы. Але рана ці позна працэс "браджэння" завершыцца і брудная пена сыдзе... Паверым на слова гімну "ўсіх працоўных", што "это есть наш последний и решительный бой"... Бо ў дасягнуўшага самай нізкай кропкі ў сваім развіцці грамадства застаецца толькі адзін шлях — наверх! На нянавісці і канфрантацыі яшчэ ні адна нацыя, ні адзін народ нічога путнага не пабудавалі. Няма і не можа быць будучыні ў нашым часавым і палітычным кантэксце ў палітыкаў — заўзятых апалагетаў бясконцай "барацьбы". Нарэшце прыйдзецца спыніць яе і пачаць ствараць.

Жыццё сапраўды вельмі моцна змянілася вакол нас за апошнія пяць гадоў. Дзіва, што вельмі многія з нас упарта не хочуць гэтага заўважаць...

# ЗНАК ДА НАПАДУ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Назаўтра, пасля вечарыны, мне з раніцы патэлефанавала сяброўка Валянціна, — жонка Сяргея Пятровіча, — бізнесоўца, які ўчора забег да нас на паўгадзіны і якому варажыла Яніна Мікалаеўна. Валянціна папрасіла прабачэння, што не змагла пайсці ўчора да мяне, але мы з ёй заўсёды без лішніх цырымоній. Не можаш, не хочаш — дык навошта сябе прымушаць?

Дык вось, Валянціна спытала, ці не хачу я прабегчы з ёй па магазінах, бо Сяргей даў ёй на два дні машыну (яна, дарэчы, таксама водзіць аўто), і машына да таго ж з поўным бакам паліва, вось толькі трэба падкінуць яго з раніцы на вакзал, бо ён едзе ў В. Я падумала і згадзілася, бо якая жанчына адмовіцца пабыць ў магазінах, куды даўно хацела заехаць, ды не хапала часу. На грамадскім транспарце, дарэчы, не надта разгонішся: у мяне пасля тралейбуса адразу мігрэнь пачынаецца. Я згадзілася, бо яны нават паабяцалі заехаць па мяне, і пачала збірацца.

...У машыне, акрамя іх, быў яшчэ і кампаньён Сяргея Пятровіча — спартыўны мужчына гадоў сарака, якога ён быццам жартам прадставіў як целаахоўніка, хаця хто іх ведае, можа, і праўда, я ў гэтых нюансах не разбіраюся.

Усім было чагосьці весела. Мы прыехалі на вакзал, і Сяргей Пятровіч выбіў у аўтаматах два білеты на электрычку.

— Я варажбітцы паабяцаў на электрычцы ехаць, — засмяяўся ён. — Вось і паедзем. — І дадаў: — Да аэрапорта, вядома.

Я хацела застацца ў машыне, але Валянціна пацягнула і мяне праводзіць.

Ішло якраз на познюю восень. Я не люблю гэты час: дні ляцяць хутка, рана цямнее, халодныя дажджы, мокры снег, надвор'е мяняецца — цыклон за цыклонам. Да таго ж — вакзалы. Нідзе мяне так не ахоплівае туга, як на вакзалах. Наша сям'я раней жыла ў доме ля чыгункі. Цягнікоў я з дзяцінства баюся: памятаю, пачую гудок паравоза — бягу прэч, абы падалей. А тут яшчэ паўсюдны бруд, нахабныя каўказцы ў крамках са сваімі напаўп'янымі шлюхамі-прадаўшчыцамі, нашэсце нейкіх жабракоў, цыганы, бамжы, мітусня... Як сказала б наша хірамантка — рай для энергавампіраў.

Да адыходу электрычкі заставалася каля хвіліны. Мы стаялі на пероне, а мужчыны заскочылі ў тамбур. Сяргей Пятровіч усё нешта наказваў жонцы пра дзяцей — я не прыслухоўвалася. Потым дзверы ў электрычцы зачыніліся, у адной іх палавіне была дзірка — нехта выбіў шкло. Сяргей Пятровіч, быццам не ўсё яшчэ дасказаў, высунуўся ў гэту дзірку — гаварыў. Цягнік загудзеў, запрацавалі электрагенератары, ён вось-вось павінен быў крануцца, але тут са свістам дзверы зноў рэзка расчыніліся — пэўна, машыніст вырашыў, што не ўсе яшчэ селі, ці ўвогуле правяраў сістэму, і мы ўбачылі, як адсечаная шклянымі зазубінамі, нібы нажом гільяціны, літаральна да нашых ног марудна спаўзла чалавечая галава. Яна яшчэ нейкую секунду — дзве вісела на кавалках скуры ды сухажыллях, а потым звалілася да нашых ног. Мы анямелі, а электрычка, між тым, кранулася.

Гэта была скрываўленая галава Сяргея Пятровіча.

Я дрэнна памятаю, што было далей: пэўна, праз нейкі час электрычку спынілі стопкранам, тулава вынеслі, выклікалі міліцыю. Усяго гэтага я быццам не бачыла. Мусіць, гэта быў звычайны шок. Толькі адзін фрагмент адбіўся ў памяці: вусны адсечанай галавы варушыліся, рот раскрываўся, а вочы некалькі разоў міргнулі. Потым мне медыкі растлумачылі, што мазгі чалавека ў такой вось сітуацыі (нішто сабе сітуацыя!) яшчэ трыццаць — трыццаць пяць секунд здольныя асэнсоўваць усё, што адбылося. Пра што думала яго галава ў тыя апошнія секунды, вось пытанне?

Цяпер увогуле трэба чакаць горшага. Мяркую, наша суполка ці, як казаў нябожчык, "кланчык", хутка распадзецца, а я, як адвакат, пазбаўлюся многіх сваіх кліентаў, бо як бізнесовец, Сяргей Пятровіч пашыраў маю практыку. Дзіўны выпадак, але зараз усё непрадказальнае і поўнае небяспекі: губляем нават асцярожнасць. Але, як казалі старажытныя рымляне — казум сенціт дамінус. Гаспадар сам нясе адказнасць за выпадковую страту рэчы.

Яніна Мікалаеўна, калі ёй паведамілі, вельмі шкадавала, што не здолела пераканаць Сяргея Пятровіча ў той вечар, але потым працытавала класіка, што прырода, маўляў, не ставіць недарэчных выпадковасцей, яна хоць і вольна гуляе імі, але гэтае вольнае заўсёды разумнае. Я стала пабойвацца: ніколі не буду ў яе варажыць.

Застаецца даставіць выйграны заклад і далучыць сваю занатоўку да лістоў Яніны Мікалаеўны і нябожчыка.

Што і раблю.

Проза

Сяргей ГРАХОЎСКІ

# БЕЗДАРАЖ



*На Тэгеранскай канферэнцыі ў лістападзе 1943 года Сталін сказаў Чэрчылю, што ў часе калектывізацыі "ліквідавана 10 мільёнаў кулакоў. Большасць знішчана, трэцяя частка адпраўлена ў лагеры".*

Не верылася, што развітваемся назаўжды. Няўжо не пабачымся болей ніколі? Моўчкі стаім у снежнай калатушы, па твары шлёпае мокры снег. Сані ледзь паўзуць, палазы скрыгочуць па адталым дарожным пяску. Над упрэлым буланым канём плыве пара, патыхае шкіпінарны дух поту. Конь прыстаў на ўзлобку дарогі, часта хадзілі перапалыя бакі і рэбры. Ззаду спыніўся бясконцы абоз. Недзе з сярэдзіны коннай працэсіі мацюкаўся і гарланіў раз'ятраны салдат: "Паганяй, уражына, чаго прыстаў, маць тваю ядрона Матрона!"

Косцікаў айчым ссунуўся з перадка, ляскаў ляйчынаю па конскіх баках, нокаў, упінаўся ў перадок саней, калываў іх з боку ў бок, каб не прыхапіў прымаразак. Конь уздыхнуў, тузануў і... абоз папоўз. А мы з Косцікам ніяк не маглі расчапіцца. Ён углядаўся ў шэрае, як мокрая воўна, неба, на высозны пукаты купал касцёла, на дзве званіцы з буслянкамі, на крыжы каменнай і драўлянай цэркваў, на голае вецце садоў, галінастых ліп на кладах, на зялёныя ад моху стрэхі і дахі местачковых хатак і дамоў. Мы моцна абняліся і заплакалі. Нехта гэта запомніў, і шпынялі мяне аж да апошняга класа за спагаду "кулаччу".

Косцік у набраклых гразёю ботах, саматканай суконнай паддзёўцы і авечай шапцы пабег даганяць сваіх. Азірнуўся, памахаў рукою і крыкнуў: "Я напішу. Чакай!" Абоз павольна папоўз з узгорка на ўзгорак. Першыя з'ехалі ў нізіну, апошніх не відно. Цягнуцца сані за санямі. На кожных у лахманах, у дзяружках мурзатыя, з шэрымі абліччамі дзеці, жанкі ў даматканых суконных хустках, хрысцяцца на ледзь прыкметныя крыжы, галосяць, як на хаўтурах, бо гэта ж і былі хаўтуры па сваёй хаце, па селішчы, па бацькоўскіх магілах, па загонах, спрадвеку ўрошаных потам прашчураў і яшчэ не астылым сваім. Учора дбалі пра заўтра, завіхаліся, мітусіліся, парадкавалі ў двары і ў хаце, а сёння пакінулі ўсё, і гоняць, як пагарэльцаў. І куды? Дзе і калі прыхінуць галоўкі, чым накормяць дзетак, дзе адагрэюць душы? Хто іх чакае? Каму яны трэба?

Я закамянела глядзеў, пакуль Косцік не знік за дальнім узгоркам. Са скрыпам і хлюпаннем поўз бясконцы абоз. На ўзлобках рыпеў пясок пад снежнаю калатушаю. Коні ледзь цягнулі лядашчы скарб, мужчыны раз-пораз саскоквалі і папіхалі сані. Перапалы, у падпаленай поўсці "ардэн" ледзьве цягнуў сані з укутанаю ў рызманы Праксэдаю і чатырма ў трантах дзецьмі. Побач у доўгай шарачковай світе, у маршчаках са старых халяў, у насунутай на калматыя бровы кучомцы дыбаў Нічыпар Яновіч. Цубкія, як позні жнеўнік, вусы тырчалі пад мокрым носам. Ён даводзіўся, як вада на кісялі, далёкаю раднёю маёй дзядзіне Зосі. Жыў у занядбалых Жукавічах, у хатцы з гліняна падлогаю, палком за печчу. Тут зачыналіся і выкочваліся дзеці. Гаспадарыць Нічыпару не было калі: яго заядаў цыганскі сверб —ездзіць па кірмашах мяняць коней. Ці не пра яго хадзіла прыказка: "Хто мяняе, у таго хамут гуляе". Бывала, за аднаго людскага цягавіка выменяе дзве падлы, напампаваныя веласіпедным насосам. Пакуль прывядзе, дух выйдзе, ледзьве ўцягне ў двор дзве драбіны. Жонка галосіць, суседзі рагочуць, а Нічыпар круціць вусы і казырыцца: "Выгуляюцца, пабачыце, якія стаеннікі будуць". Месяцы праз два здаваў дзве шкуры і зноў з пугаю, пазычанымі грашыма ішоў на кірмаш па новую падлу. Хлеб быў толькі на свята, загоны зарасталі, страха свіцілася рэшатам. Раскулачылі і яго. За што? Нехта падтыкнуў: "У Яновіча — парка коней". Можа, жартам, можа, са злосці. І ён загрымеў у кулакі. Перад адпраўкаю з базарнай плошчы пакінуў вартаўніку ў заклад "ардэна", дзяцей і жонку і адпрасіўся збегаць разжыцца ў цёткі Зосі боханам хлеба, каб хоць да Бабруйска давезці дзяцей. А там, можа, нечым усё ж пакормяць.

Так ішоў сваім ходам абоз раскулачаных на Бабруйск, да чыгункі. Гналі нямоглых старых і немаўлят, каб і карэньчыка "кулацкага адроддзя" не засталося. Гаспадыні досвіткам запалілі ў печах, не ведаючы, каму дастанецца тое варыва. Як увіднела, з раёна наехала ў скуранках з наганамі цэлая зграя нейкіх кудлатых порсткіх упаўнаважаных, міліцыянераў, сабралі мясцовых парцейцаў і гарластых камсамольцаў, а тым загадай толькі — не пашкадуюць ні татку, ні мамку, як і званоў з крыжамі, скінутых на зямлю. Развялі ўсіх па засценках і хутарах, пасёлках і вёсках. Жылі там нястомныя ў працы гарэтнікі: ад першай праталіны лета і зіму не вылазілі з работы на сваіх скупых надзелах, каб ні зернетка, ні саломінка марна не прапалі, каб нішто не ішло ў глум. Таму нешта мелі — не галадалі, не мерзлі — былі лён і воўна, пралі і ткалі, шылі андаракі і кажухі, верхняе і споднее, дочкам на выданні спраўлялі крамнае. Трымалі кароўку і цялушку, корміка, пару надворных, маркаля і дзве-тры ярачкі. Да вялікадня хапала свайго хлеба, на сенакосную пару берaглі ў кубельцы колькі скрылёў сала і вэнджаны кумпячок ды скрутачак здору. Вось табе і кулак: усё здабыта сваім мазалём, а кулакамі трасуць тыя, што наехалі з наганамі, што гарланяць: "З коранем выдраць! Сібірскім мядзведзям хвасты круціць!"

Ад злосці і зайздрасці аж жоўклі "камбедаўцы". Начамі патаемна складалі спісы на суседзяў, да каго бегалі ў пазычкі, цішком аддавалі ў райкомы даносы на "кулакоў" і "падкулачнікаў". А чаму ж яны засталіся ў галечы і ў бядоце? Пры Саветах жа зямлю панскую, царкоўную, манастырскую, заможных фальваркоўцаў усім раздалі пароўну — гектар ворыва, гектар сенажаці на едака. Гаспадары, што толькі і марылі пра ўласны закон, адразу ўпрагліся ўсёю сям'ёю, ад цямна да цямна не вылазілі з пастронкаў і разжыліся, сталі на ногі. А "камбедаўцам" было не да работы — "абчэсцвеная дзеяцяльнасць" заядала: перaконвай: "Бога няма. Дурман і ёпівум для народа", скідай крыжы і званы, забірай у цэрквах залатыя чашы і дараносіцы, абразы і царскія вароты шчапай на дровы і агіціруй за калгаснае шчасце. А загоны тым часам зарастаюць бярэзнікам, каноплямі і бур'янам. Здавалі чакістам "супраціўнікаў" — папоў і дзякоў, псаломшчыкаў і званароў, і яны недзе за светам знікалі назаўсёды, папоўскія хаты ішлі пад клубы і сельсаветы. Хто спраўляў вялікадні і каляды, тройцы і ўшэсці, трапляў на заметку, і з падкулачнікаў дарастаў да кулакоў. Камбедаўскія палоскі пазнаваліся здалёк, а самі хадзілі зарослыя і абшарпаныя. Яны не ведалі, калі ўзыходзіць сонца, затое да першых пеўняў смалілі махорку ў хаце "галоўнага актывіста", слінілі хімічныя алоўкі, падлічвалі, хто што мае, што гаворыць, чым не задаволены, усё запісвалі, упоцемку прашмыгвалі да таго, каму гэта трэба было.

Апошнім часам будзіла і не давала спакою трывожнае слова "калектывізацыя", а страшней — "абагуліць". Радыё не было, адзін ці два "культурныя" гаспадары выпісвалі "Беларускую вёску", яна і наганяла страху тымі заклікамі і загадамі. Прагучаў новы кліч: "Борьба за хлеб — борьба за социализм". А з кім трэба было барацца за той хлеб? Сей, дагоджвай, жні, малаці і будзеш з хлебам. А навошта той невядомы "сацылізм"?

Хутка ўсё паказалі тыя ж "упаў намочаныя", міліцыя і "чонаўцы". І давай вымятаць засекі, выварочваць дзежачкі з просам і гарохам, паражніць кубельцы і падстрэшшы. Гаспадары падалі на калені і енчылі: "Галубочкі, людцы добрыя, злітуйцеся — пакіньце хоць на насенне!" — "Не верашчы! Без цябе ад краю да краю засеем калгасную ніву, а ты спявай: "За Сібірам сонца ўсходзіць!" І выгрaбалі пад мяцёлку.

Як толькі ўправяцца, наезджыя ідуць па дварах і зганяюць усіх мужчын у большую хату. Хочаш — не хочаш, ідзі. Сядзелі ў кажухах, світах, шапках. Пад столлю мільгала і хліпала лямпа ад цяжкага духу і самасаднага дыму. На шкло клалі трэсачку для большай цягі. Упрэлыя мужыкі саплі і труцілі густое да сінечы паветра. А ўпаўнаважаны распінаўся, якое шчасце іх чакае ў калгаснай вёсцы: арацьмуць трактары, сярпы і жняяркі — на злом, усё сажнуць і змалоцяць камбайны — кочкарэзы зраўняюць лугі і заваляць касілкі сенам фермы абагуленых кароў, адкормяць свіней і курэй. "І жанок абагуліце? — пытаўся дасціпнік. — Так і не ўгадаеш, чые бегаюць байструкі". Мужчыны рагаталі, а ўпаўнамочаны грукаў кулаком а то і ручкаю нагана і цікаўнага запытанца абзываў падкулачнікам і зрыўшчыкам. Ён з папкі вымаў разлінаваны аркуш паперы з гатовым надпісам: "Спіс ліц, уступающчых в калхоз дзярэўні Усцярхі". "Ну, хто сазнацельны, адданы савецкай уласці і хоча шчасліва жыць, падыходзь запісвацца..." Чамусьці не хацелі.

Усіх паралізавала зацятае маўчанне, і лямпа перастала хліпаць. Упрэлы барадач устае і сунецца да дзвярэй. "Куды, стары?! Садзіся і не рыпайся!" — "Чаго кудыкаеш? Прыперла да ветру. Не ўтрымаю. Уторы саслаблі ад сядзення". — "Пацярпі, нідзе не дзенешся!" — "Што ж, мне ў халявы цурбоніць? Хадзем, папільнуеш". Праціскаецца і ідзе за дзверы. Ад струмка чыстага паветра ажыла, устрапянулася лямпа. Бразнулі дзверы, і зноў цьмяна ўсхліпваў у закураным шкле кнот. Яшчэ адзін маладзейшы памкнуўся да дзвярэй. "Разбягаецеся, гады? Ану, на месца!" — гыркнуў начальнік. — "Няўжо не чуеш? Усе ж духам сыходзяць. Каб салому падкінуў, да раніцы б гною настоялі". — Усе зайшліся ўпокат. У начальніка заняло мову. Зноў пад столлю заміргала лямпа з нагарэлым кнотам. "Кажы хвамілію! Хвамілію, сабатажнік. Са сходу уцячэш, а з калгасу — дудкі".

Да стала падышлі камбедаўцы — самы баявы і зацяты зладзюга Піліп Барсюк, Гарасім Брызгаловіч і стары, аброслы сівай шчэццю Апанас Мядзведзька. Усе ўтрох упісаліся ў калгас і назвалі "сабатажнікаў".

— Доўга не думайце, мужчыны. Хопіць ірваць жылы: машыны ўсё зробяць. Пабачыце, як разжывемся, — заклікаў Піліп.

— У цябе ад натугі на языку ціпун сеў, а пластаецца твая няшчасніца Матрона, а ў Гарасімавай Параскі на клубах спадніца не дзержыцца. Бедная Панасіха так выцінаецца, што кажуць, бабскі бутар вылазіць. А вы, лайдакі, у тым калгане будзеце вылежвацца ды менціць языкамі. Не-е-е, браткі, у такую кумпанію лезці — што ў пятлю, — разышліся ўпрэлыя ў задусе мужыкі.

— У пятлю — як хочаш, а ў Сібір загрыміш як піць даць, і ўсе кулацкія падпявалы і ворагі сацыялізму!

І загрымелі. На стыку вясны і змакрэлай зімы за дзве начы і два дні раскулачылі ўсіх "нехацімцаў". З куфраў ляцелі скруткі выбеленага кужалю, андаракі, як стракаты кветнік, шлюбныя боты і пінжакі, звязаныя ў хустачкі ўборы на смерць. З бажнічкаў зрывалі і бразгалі аб зямлю абразы, тапталі і трушчылі шкло абцасамі. Жанкі лямантавалі: "Пабойцеся Бога, нехрысці, ён паскручвае вашы паганыя клешні". — "Цыц, старая лярва, ты ўжо наагіціравала на чырвонец. Дзве гадзіны на зборы. Браць не болей пуда на душу і грузіць на свае сані. Вілы, сякеры і косы і протчую халодную зброю браць забаронена. Панялі?" З гэтым загадам ішлі з хаты ў хату. За імі папярэдзе і ззаду каціліся праклёны і лямант, ратунку ўсё адно не было, хоць выкрычацца бабы.

І так у адзін дзень па засценках і вёсках пракаціўся сапраўдны разбой. Учора яшчэ на сваіх, а цяпер "абагуленых" конях і санях рушылі ў невядомы свет самыя цягавітыя гаспадары. Не доўга парадаваліся, што саветы хоць трохі далі разжыцца, урабіць зямельку і паспытаць свайго хлеба на кляновых лістах. Як скінулі цара, паверылі, што "Земля — крестьянам", клюнулі на абяцанку, як шчупак на жыўца. Пацешыліся, пабудаваліся і на табе — і зямельку, і скаціну, хаты і хлявы, качарэжнікі і аплеценыя гаршкі — усё чысценька прыбралі, і выскачылі гарэтнікі, як з пажару. Сябе і людзей кармілі, а як падсеклі корань, больш за паўвека ніяк не ўзаб'ецца на свой хлеб колішняе імперскае людства — жабрачыць ды пабіраецца па свеце. Як усчалі "кудлачыць", дык ніяк да розуму і не дойдуць: адным — мала, другім — занадта.

А тыя пагібельныя дні, як жывыя, і сёння стаяць перад вачыма: к паўдню не меней за трыста фурманак праскрыгаталі па змешанай з пяском снежнай калатушы. Пад нізкім слязлівым небам стаяў гул, енк і плач з соцень здушаных болем грудзей. Местачкоўцы маўкліва стаялі воддаль і крадком выцiралі слёзы, бо амаль кожнага пакутніка ведалі ў твар: каму коней кавалі, шыны на колы нацягвалі, вазы і сані акоўвалі, абшывалі і абувалі. Пачатак абозу знік за ўзгоркамі, а хвост яшчэ талачыўся на базарнай плошчы. Міліцыя, упаўнаважаныя і з пісталетамі і порсткія камсамольцы сачылі, каб не паўцякалі маладыя. Мясцовыя прасілі ўзяць дзіцятка, а ім тыцкалі наганы і крылі адборнымі мацюкамі. Галоўны ўпаўнаважаны па спісах звяраў пагалоўе і выпраўляў фурманку на бабруйскую дарогу.

Па гэтай калатушы падыбаў і мой лепшы друг Косцік Навіцкі. Так, як ён, у школе ніхто маляваць не ўмеў. Ён размалёўваў такія насценныя газеты, што каля іх на кожнай пераменцы стаяў натоўп, меншыя прашываліся наперад, каб пачытаць і парагатаць з вельмі падобных карыкатураў. Я ўжо крэмзаў вершыкі. Каб пакрасавацца перад равеснікамі, мы ўдумалі з Косцікам выпускаць свой часопіс. І назву прыдумалі — "Золак". Змяшчалі вершы і апавяданні пад рознымі прозвішчамі. Захварэлі на пісьменнікаў равеснікі і старэйшыя вучні. Пісалі Люба Тычына, Павел Плышэўскі, Гуня Галаўня і амаль прызыўнік Андрэй Казіміраў. Я быў рэдактар і выдавец: на шапялявым "Ундэрвудзе" райкома камсамола познімі вечарамі адным пальцам выцінаў літару за літарай. Косцік маляваў найпрыгажэйшыя вокладкі, загалоўкі, канцоўкі, у кожным з трох экземпляраў — аднолькавыя ілюстрацыі. Часопіс пераходзіў з класа ў клас, чыталі і часам хвалілі настаўнікі. Чытачы дапытваліся, што будзе далей, а мы захоўвалі "рэдакцыйную тайну".

Косцік кватараваў у чысценькім і ўтульным дамку Буеўскіх. У яго закутку мы праседжвалі над сваім часопісам дапазна. О, гэта былі летуценныя дні, вечары і тыдні! Ён марыў стаць мастаком, хоць і не бачыў ніводнай прафесійнай карціны. Яго натхняла прыгажосць плакучых вербаў на ўзбярэжжы Пцічы, лясы і лясы, буслы ў высокім блакітным небе. Я трызніў вершамі, чытаў усё, што трапляла ў рукі, у сына крамніка першай маленькай кнігарні на ноч выпрошваў кніжкі Купалы, Коласа, Багдановіча і тоненькія маладнякоўскія зборнічкі. Многае з іх запомнілася на ўсё жыццё. Недалёкае будучае здавалася нам шчаслівым і чароўным: мы свята верылі кожнаму прапагандысцкаму слову, прыгожым абяцанкам газет і галасістых агітаратаў.

Косцік з сястрою рана асіражелі, а клапатлівы, сумленны і працавіты айчым даглядаў іх, як родных, і звалі яго татам. Ён кожную нядзелю прывозіў пасынку на тыдзень запас харчоў, гаспадарам падкідаў сухіх дроў, апранаў і абуваў Косціка так, каб ніхто яго не назваў сіратою. Прозвішчы ў іх былі розныя. Косцік мог адбіцца ад таго раскулачвання, але самохаць пайшоў за мамаю, сястрою і айчымам. "Каму я тут трэба? Хто пракорміць, прытуліць і паспагадае?" — апраўдваўся ён, і пайшоў пад змрочным небам па калатушы размытай дарогі ў невядомасць, на пакуты за свет ад любімых сцежак, ад сваіх Усцярхоў, школы, сяброў і страчаных летуценняў.

Я і цяпер да дрыжыкаў памятаю тое развітанне на ўзлобку дарогі ў той страшны дзень і жахлівы год, калі адным рухам усохлай рукі з пракуранаю люлькаю былі вынішчаны самыя старанныя і нястомныя хлебаробы, скалечана і спустошана зямля, здрабнеў і звёўся статак, калі агаладалым, разутым і абшарпаным сытыя недавумкі ў ведамасці ставілі палачкі і ўбівалі ў галовы, што яны самыя вольныя і шчаслівыя ў свеце.

А следам за мільёнамі раскулачаных з вуліцы ў вуліцу, з сяла ў сяло папаўзлі начамі "чорныя вораны" падбіраць нечым незадаволеных, сумніцельных і падазроных, загрымелі ў закратаваных цялятніках этапы на Усход і на Поўнач мільёнаў ненадзейных. Адзін з такіх скарадзіўся: "От ушпілілі чырвонец, каб жа ведаць за што. Кажа — тракцыст. Я ж і падатак, і штрахоўку, і самаабкладанне заплаціў, а на той тракцызм павесткі не было. З апошняга заплаціў бы. Каб прыслалі, не прудзіў бы вошай на нарах". А было і мудрэй. Не па чутках ведаю, а па сабе. У гэтых ужо не было чаго забіраць, апрача волі, апошніх сіл, пакутніцкага існавання, не маглі адабраць любові да роднай зямлі, мовы, духоўнай спадчыны, прадзедаўскіх і бацькоўскіх магіл. За любоў і сумленне гналі ў калымскія норы, пад кулі ў загарадныя лясы, каб і памяць знікла, як развеяны пыл.

А як жа Косцік? Што з ім?

Праз паўгода пасля развітання прыйшло з Шадрынскага раёна Заўралля ўсяго два лісты. Ён не адважваўся пісаць пра свае пакуты, але здавалася: кожнае слова набракла адчаем і болем. Пісаў, што ім пашанцавала трапіць не ў тайгу, а ў заводскі пасёлак, што ён вучыцца маляваць, айчым цяслярыць, сястра ходзіць у школу, маці робіць на чыгунцы, а выехаць з пасёлка нікуды нельга, кожныя дзесяць дзён трэба хадзіць адзначацца...

Праз колькі гадоў і я спазнаў "канвееры", камеры, нары, этапы "большого пути", усяго нахлябаўся поўнай мерай. Выжыў, вярнуўся, ніхто не сказаў і не скажа: "Прабачай і даруй". І пацягнула ў родныя мясціны, да матчынай магілы, пашукаць равеснікаў. Прыехаў праз дваццаць гадоў. Здалёк не пазнаў мястэчка: ні касцельных, ні царкоўных купалаў і званіц і знаку не засталося, дарога ўпіралася ў роўны зялёны гай. На галоўнай вуліцы замест знаёмых хат стаялі з сілікатнай цэглы аднолькавыя двух- і трохпавярхоўкі. Усё здалося чужым, бачаным "до самых до окраин". Я адчуў сябе чужым сярод чужых, нікому незнаёмым і непатрэбным. Пайшоў блукаць па ацалелых старых вулачках, незнаёмыя пазіралі на мяне, як на расчуленага дзівака.

Не пазнаў і раку: шырачэзныя поймы перасохлі, колішнія віры і ямы змялелі і зараслі бросняю. На глыбейшым павароце ў выцвілай целагрэйцы, дзіравым капелюшы з вудаю сядзеў даўно няголены рыбак. Я падышоў, ён заўважыў мой цень, азірнуўся. Нешта ў ім было вельмі знаёмае. Прыгледзеўся ён і пазнаў, устаў і мы абняліся. Не ведаю з чаго я заплакаў: "Васіль, куды ж дзелася

*(Працяг на стар. 15)*

# ТАЛЕРАНЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ...

**На сённяшні дзень з'явілася такое сцвярджэнне, што беларусы з'яўляюцца нацыяй талерантных людзей. Ад частага ўжывання гэтыя словы згубілі свой сэнс. Яны аднолькава бясколерна гучаць і сярод патрыётаў і сярод ворагаў беларушчыны. Кожны спрабуе выкарыстаць іх у сваіх інтарэсах як дадзенасць, забываючы пры гэтым, што кожная дадзенасць мае свой пачатак. А пачатак нашай сапраўднай ці ўяўнай талеранцыі быў пакладзены ў Вялікім княстве Літоўскім. І ўсе сённяшнія беларусы, літоўцы з'яўляюцца паддaнымі ці грамадзянамі гэтага вялікага княства. Некаторыя і не падазраюць пра гэта, другія адчуваюць, трэція — ужо асэнсавалі і згуртаваліся ў таварыства "Грамадзянаў Вялікага княства Літоўскага".**

**Адной з першых акцый гэтага таварыства з'явіліся навукова-папулярныя чытанні на тэму: "Талеранцыя ў Вялікім княстве Літоўскім", што адбыліся 16 лістапада гэтага года ў Мінску ў памяшканні Беларускага гуманітарнага ліцэя.**

**Сімвалічна для такога мерапрыемства і тое, што на ім свае даклады прадставілі два навукоўцы з сучаснае Літвы і два з сучаснае Беларусі. Аб'ядноўвала іх і слухачоў не толькі тэма чытанняў, але і адчуванне, што ўсе мы ўрэшце грамадзяне Вялікага княства Літоўскага.**

**Даклады беларускага боку: "Вялікае княства Літоўскае — як дзяржава беларусаў і літоўцаў", Анатоль Грыцкевіч і "Талеранцыя ў Вялікім княстве Літоўскім", Анатоль Сідарэвіч; даклады літоўскага боку: "Моўныя адносіны ў Вялікім княстве Літоўскім", Валеры Чэкман і "Генэзіс нацыянальных рухаў на абшарах Вялікага княства Літоўскага", Антанас Кулакаўскас.**

**Яшчэ са школы вядома, каб вызначыць месцазнаходжанне кожнай рэчы ў прасторы, дастаткова акрэсліць тры пункты, якія належаць ёй. На чытаннях былі дакладна акрэслены чатыры пункты, а значыцца нашая талеранцыя акрэслілася не толькі ў прасторы, але і ў часе.**

**Працяг чытанняў — выстава літоўскіх падручнікаў і кніг. Можа, і добра, што толькі літоўскіх, бо нашыя б глядзеліся на іх тле занадта бляклa. Крыўдна, але такі час на гэтай прасторы.**

**Ірына КЛІМКОВІЧ**

# НА ЗЯМЛІ ПРОДКАЎ

**Нядаўна Скідзель наведалі дзве амерыканкі: Лінда Гудз-Хагл з дачкой Брэндзі. Яны прыехалі на зямлю сваіх продкаў. Тут жылі іх дзед і прадзед Фрыдман Сарнацкі.**

**Заакіянскія госці азнаёміліся з горадам, цікавіліся архітэктурнымі збудаваннямі і помнікамі старыны, якія былі разбураны ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Вельмі была цёплай сустрэча амерыканак з жыхарамі вуліцы Зелянкоўскага. На памяць аб наведванні Скідзеля Лінда і Брэндзі сфатаграфаваліся ля манумента, узведзенага у гонар васьмі камсамольцаў-падпольшчыкаў, якія гераічна загінулі 13 верасня 1942 года.**

**— Жаданне наведаць зямлю продкаў узнікла ў мяне даўно, — гаварыла Лінда, — але гэтага зрабіць у той час было немагчыма. Цяпер, калі з'явілася такая магчымасць, мая мара здзейснілася.**

**Але ж, на жаль, могілак, дзе быў пахаваны дзед Лінды і прадзед Брэндзі ўжо не стала. На іх месцы цяпер стаяць будынкі.**

**На здымку: Лінда (справа) з дачкой Брэндзі.**

**Ільля БАРЫСАЎ**

*Фота аўтара.*

# ПРЫГОЖАЯ КНІГА — ПАДАРУНАК

***У Маскве адбыўся Міжнародны кніжны кірмаш, у якім, разам з іншымі дзяржаўнымі выдавецтвамі Беларусі, удзельнічала і "Мастацкая літаратура". Прадстаўляў яе галоўны спецыяліст выдавецтва, пісьменнік Г.Чарказян. Наш карэспандэнт меў з ім гутарку.***

**— Ганад Бадрыевіч, хацелася б пачуць, ці не дарма вы з'ездзілі ў расійскую сталіцу.**

— Я б так не сказаў. Апошнія 10 год ніхто з нашага выдавецтва на такія выставы не выбіраўся (па розных прычынах). А для нас усё-такі гэта акно ў шырокі свет. 29 краін удзельнічала ў кірмашы. Каля 600 фірмаў прадстаўлялі 10 тысяч найменняў кніжнай прадукцыі.

**— Дык вашы і нашы кнігі толькі паглядзелі ці ўдалося заключыць дамовы на рэалізацыю?**

— Дамовіўся з былой "Международной книгой", цяпер АО "Книга", на пастаўку нашых кніг за мяжу. Выйшаў напрамую на арганізацыю, якая пастаўляе кнігі ў ЗША, у прыватнасці — для бібліятэкі Кангрэса. Я даведаўся, што там ёсць беларускае слова, яно трапляла туды ўскосна, рознымі шляхамі. Пабываў ля выставачных стэндаў Украіны, Арменіі, Узбекістана. Узбекскае прадстаўніцтва, паглядзеўшы наш спіс, пагадзілася забраць усе астаткі рускамоўнай літаратуры. Нам застаецца адно даставіць іх у Маскву, у іхняе пасольства.

**— Што канкрэтна вазілі вы на паказ і продаж?**

— Акрамя афіцыйнага спіса — трохтомніка Мележа, дзвюх кніг Караткевіча, вершаў Барадуліна і Разанава, "Дыялогаў з В.Быкавым" Залоскі (усіх 10 найменняў), — я прыхапіў з сабою новыя паэтычныя зборнікі Някляева і Дранько-Майсюка, двухмоўнае навукова-мастацкае эсэ Арлова пра Ефрасінню Полацкую, а таксама кніжачкі-"малюткі" — "Вянок" М. Багдановіча, "Байкі" К.Крапівы. Апошнія былі вельмі дарэчы, бо ўдалося заключыць дамову з маскоўскім клубам аматараў мініяцюрнай кнігі.

**— Што найбольш уразіла падчас паездкі на свята кнігі?**

— Адбыўся "круглы стол" з удзелам прадстаўнікоў Дзяржкамітэта па друку і такой буйной кнігагандлёвай арганізацыі, як "Белкніга". І вось што высветлілася: у Маскве два гады таму адкрыўся спецыялізаваны магазін "Беларуская кніга" (яго ўзначальваюць два карэйцы), але ніводнай кнігі з РБ за гэты час так туды і не паступіла. Дамовіліся напрамую пастаўляць ім сваю прадукцыю.

**— Ёсць звесткі, што "Белкніга" сёння ўвогуле адмаўляецца ад беларускіх кніг.**

— Гэта праўда. У ранейшыя часы "Белкніга" была ідэальнай сістэмай продажу. Лепшай проста не прыдумаеш. А зараз яна адмахваецца ад усіх кніг, апроч камерцыйных. На тое, мабыць, ёсць свае прычыны.

**— А ці не атрымаецца ў недалёкім будучым так, што вы павезяце на кірмаш усё, што выпусцілі?**

— Вы маеце на ўвазе згортванне вытворчасці? Так, быў перыяд, калі праца амаль спынілася. Перад намі цэлы комплекс узаемазвязаных праблем. Прынята лічыць, што на кнігавыдавецкую справу дзяржава мала дае. Дае, колькі дае, і наша задача — з толкам распарадзіцца тымі сродкамі, што ёсць. Асобныя цяжкасці збыту былі запраграмаваны тыражнай палітыкай. Калі Віцьбіч выходзіць у 9 тысяч асобнікаў, а дзіцячая кніга Віткі — у 5 тысяч, то зразумела, што першая будзе ляжаць, а другую не знойдзеш у кнігарнях. Акрамя таго, з прапагандай беларускай літаратуры не ўсё добра. Спрабаваў наладзіць сувязь з "Родным словам" Саюза пісьменнікаў, каб хоць на вечарах можна было кнігі прадаваць, — там ціхая завадзь, нічога не атрымалася. Заганнай практыкай лічу і абавязковы выхад кніг да юбілеяў.

**— А да свайго 50-годдзя вы падрыхтавалі кнігу?**

# НАДЗЕЯ ПАМІРАЕ АПОШНЯЙ

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

чынам. Рэферэндум, ці бачыце, яму спатрэбіўся дзеля таго, каб сцвердзіць сваю палітыку інтэграцыі з братняй Расіяй. Што яму, маўляў, даводзіцца ў гэтым пытанні пераадольваць супраціўленне парламенцкай апазіцыі. Але ж гэта няпраўда. І магу гэта засведчыць, як дэпутат Вярхоўнага Савета. Няпраўда, перш за ўсё, у тым, што няма сёння ў парламенце сіл, якія б выступалі супраць паглыблення сувязяў з Расійскай Федэрацыяй.

**— Пытанне ж аб адносінах да інтэграцыі з Расіяй было вынесена на майскі 1994 года рэферэндум. Большасць грамадзян выказалася за ўмацаванне сувязяў з Расіяй. Чаго ж зноў пра гэта гаварыць? Я не кажу ўжо, што маючы адбыцца рэферэндум наогул не ўключае пытання аб інтэграцыі з нашым вялікім усходнім суседам. Значыць, беларускі прэзідэнт свядома ўвёў у зман тых жа думцаў, маскіруючы гэтым сапраўдныя мэты ўсенароднага апытання. А мэты гэтыя — умацаванне асабістай улады.**

— Яго ўсё-такі падтрымлівае значная колькасць людзей, у чым я мог пераканацца падчас сустрэч са сваімі выбаршчыкамі.

**— Тым не менш, я б не сказаў, што прэзідэнт адчувае сябе досыць упэўнена. Інакш яму не трэба было б ісці да перамогі такімі пакручастымі сцежкамі — парушаць канстытуцыю і законы краіны, рашэнні Канстытуцыйнага суда і Вярхоўнага Савета, настойваць на расцягванні тэрмінаў галасавання на рэферэндуме аж да двух тыдняў. Дарэчы, асабіста я прагаласаваў датэрмінова — у першы ж вызначаны для гэтага дзень — 9 лістапада.**

— Віншую вас з гэтым. Але як жа вы галасавалі, не бачачы тэксту новай канстытуцыі, які да гэтага дня яшчэ не быў апублікаваны?

**— Мной рухала журналісцкая цікаўнасць. Як было аб'яўлена, датэрміновае галасаванне на рэферэндуме прадугледжана для асоб, якія фізічна не змогуць быць на месцы пастаяннага пражывання ў афіцыйны дзень рэферэндуму — 24 лістапада. У мяне ж на маім выбарчым участку ніхто наконт гэтага нічога не папытаўся. Пацікавіўся я сам, але пачуў у адказ, што работнікам выбарчай камісіі загадалі "абслугоўваць" усіх, хто прыйшоў галасаваць. Вось так. Як расказаў на нядаўняй нарадзе кіраўнікоў мясцовых Саветаў Сямён Георгіевіч Шарэцкі, ужо вядомы выпадкі, калі ў датэрміновым галасаванні ўдзельнічаюць ледзь не цэлымі вёскамі. На чыю карысць — здагадацца няцяжка. Праўда, цяпер ужо былы старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар папярэдзіў, што ўсё гэта з'яўляецца грубым парушэннем закона аб рэферэндуме і пададзеныя такім чынам галасы ўлічаны не будуць. Так што, відаць, прападзе і мой голас...**

— На бытавым узроўні бюлетэнь для галасавання ўспрымаецца адназначна: вы за Лукашэнку ці за парламент? Адносіны да знясілауленага, абыліганага афіцыйнымі сродкамі масавай інфармацыі парламента ў многіх людзей вядомыя. І тут нас, дэпутатаў, можна толькі пашкадаваць. Але, дзеля справядлівасці, скажу, што і самім Вярхоўным Саветам былі допушчаны пэўныя пралікі і недапрацоўкі. Я, да прыкладу, у свой час папярэджваў Сямёна Георгіевіча Шарэцкага, што нельга пакідаць адкрытым пытанне абавязковасці ці кансультацыйнасці рэферэндуму, што гэтым пакарыстаецца прэзідэнт. Што апошнім і было зроблена ва ўласцівай яму манеры — шляхам адмены пастановы Канстытуцыйнага суда і Вярхоўнага Савета.

**— Што цяпер можа прадпрыняць парламент?**

— Баюся, мала што. Выказаць імпічмент прэзідэнту пры цяперашнім раскладзе палітычных сіл у Вярхоўным Савеце наўрад ці ўдасца.

**— Што і казаць, нават апошняя заява парламента аб палітычнай сітуацыі ў краіне, дзе даецца негатыўная ацэнка дзейнасці прэзідэнта і выканаўчай улады, накіраванай на ігнараванне і парушэнне канстытуцыі, законаў краіны, не ўключана ў парадак дня, бо не набрала для гэтага неабходнай колькасці галасоў. І ўсё-такі, бясспрэчна, што Вярхоўны Савет апошнім часам неаднойчы праяўляў сваю палітычную волю. Але ж, як кажуць, супраць лома няма прыёма...**

— Гэта бясспрэчна. Тым не менш, парламент часта паступаўся прынцыпамі. Вы, мабыць, помніце, як Вярхоўны Савет фактычна праштампаваў прэзідэнцкія прызначэнні на пасады міністраў абароны, унутраных спраў, старшыні КДБ, многія артыкулы бюджэту і г. д. А між тым, і я выступаў з такой прапановай, парламент даўно павінен быў прыняць закон аб асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі краіны, апярэдзіўшы ў гэтым прэзідэнта, што не было зроблена. Прэзідэнт жа, выкарыстоўваючы гэта, увесь час падкідваў вышэйшаму заканадаўчаму органу адну прапанову за другой, хоць многія з іх і насілі чыста папуліцкі характар і не былі падмацаваны існуючымі эканамічнымі рэаліямі. Так было, напрыклад, з пытаннем аб павышэнні пенсій. Вярхоўны Савет не пайшоў на гэта, ведаючы, што ў дзяржавы няма грошай. І ў вачах пенсіянераў апынуўся ў ролі вінаватага. Вось і атрымалася, што прэзідэнт, па думцы многіх, хацеў дапамагчы пенсіянерам, а, бачыш, Вярхоўны Савет выступіў супраць. Тое самае адбылося з павышэннем мінімальнай зарплаты, якую прапаноўвала Федэрацыя прафсаюзаў, з іншымі пытаннямі сацыяльнага парадку.

**— І ўсё гэта раздзьмувалася афіцыйнымі сродкамі інфармацыі.**

— Так. Парламент павінен быў прымаць такія рашэнні, хоча гэтага выканаўчая ўлада, ці не хоча.

**— Сапраўды, знайшліся ж грошы, і не малыя, на правядзенне так званага ўсебеларускага сходу, рэферэндуму, шматлікіх чыста прапагандысцкіх мерапрыемстваў.**

— І гэта пры пастаянным пагаршэнні жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Мінімальная зарплата сёння ў рэспубліцы складае ўсяго 5 долараў.

**— У Літве, я нядаўна чытаў, 75 долараў, крыху менш — у Латвіі і Эстоніі. А пачынала ж і Беларусь, і краіны Прыбалтыкі пасля распаду СССР амаль з аднолькавых стартавых пазіцый. Мы мо нават з лепшых.**

— Сярэдняя зарплата ў нас цяпер складае 1200 тысяч рублёў, або 60 долараў. Некалькі месяцаў назад было 80 долараў.

**— Я бачу, Уладзімір Іванавіч, вы вельмі крытычна ставіцеся да эканамічнай палітыкі, што праводзіцца ў краіне.**

— І не толькі эканамічнай. Таму неадноўчы прэзідэнт абвінавачваў Федэрацыю прафсаюзаў у палітызаванасці, у тым, што яна не садзейнічае стабілізацыі ў грамадстве і г. д. Але нішто так не разбурае стабільнасць, па маім меркаванні, як уціск дэмакратычных свабод і правоў грамадзян, няспынныя дыфірамбы па адрасе Аляксандра Лукашэнкі і ўсяго, што ён робіць ці думае рабіць, беспрэцэдэнтная манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі, пераследаванне ўсякіх праяў іншадумства. Я, бывае, дзіўлюся, як не разумее прэзідэнт, што гэтым сам сабе шкодзіць. Помню, у Мінску былі затрыманы прадстаўнікі адной з прафсаюзных арганізацый Польшчы, якія прыехалі ў Беларусь, каб сустрэцца з кіраўнікамі свабодных прафсаюзаў. Не, іх адразу адправілі назад. І скандалу было на ўвесь свет. Тое самае адбылося з арыштам трох ці пяці салігорскіх шахцёраў, якія адправіліся пешкі ў Мінск, каб прыняць удзел у форуме ў абарону дэмакратыі, супраць дыктатуры. Праўда, іх хутка выпусцілі, бо не было падстаў для арышту, але факт гэты таксама стаў вядомы далёка за межамі краіны.

Як старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі я быў запрошаны на ўсебеларускі народны сход, скліканы па ініцыятыве прэзідэнта. На ім прысутнічала каля 5 тысяч чалавек. Выступіла больша за 20 дэлегатаў. І ніводны з іх не пасмеў хоць у нечым не пагадзіцца з Лукашэнкам. Такога аднадушнага адабрэння я не памятаю нават у савецкія часы, калі на рэспубліканскіх з'ездах ці актывах загадзя правяраліся і карэкціраваліся тэксты выступленняў усіх прамоўцаў з месц. Калі спадар прэзідэнт думае, што ўсе прамовы на тым вечы, усе пахвалы ў яго адрас былі шчырымі, ішлі ад сэрца, дык ён вельмі памыляецца. Мне часта даводзіцца сустракацца з кіраўнікамі абласных адміністрацый, і я бачу, што гэтыя людзі разумеюць, што робіцца навокал, якія памылкі допускае прэзідэнт. Але вось на тым жа ўсебеларускім сходзе ніхто з іх не пасмеў прагаласаваць супраць. Такая вось прынцыповасць.

**— Я чуў, што і вы збіраліся там выступаць.**

— Так, некалькі разоў я звяртаўся да кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча з просьбай даць слова для выступлення, але так і не атрымаў яго.

**— Я чуў, што адзінаццаць дэлегатаў усё ж прагаласавалі супраць пастановы, прынятай сходам. Сярод іх былі і вы, Уладзімір Іванавіч...**

— Так, гэта праўда. Я не мог галасаваць за дакумент, з многімі палажэннямі якога катэгарычна не згодны. І яшчэ. Як бы станоўча ні ацэньваў прэзідэнцкі бок сам факт склікання ўсебеларускага сходу, ён не атрымаў ад яго таго, што мог бы атрымаць, калі б тут ішоў свабодны абмен думкамі.

**— Спадар Лукашэнка робіць стаўку на падтрымку пэўнай часткі грамадзян, тых жа ветэранаў, якія жывуць уяўленнямі мінулых савецкіх часоў, калі кожная праява вальнадумства лічылася інспіраванай імперыялістычнымі сіламі Захаду.**

— Так, відаць. Я нядаўна сустракаўся з

***Ці даводзілася вам быць на пленэры?***
***Ці мо проста на ўлонні прыроды пэндзлем і фарбамі "ўвекавечыць" тое, што бачыць вока і адчувае душа? Мне, на жаль, не. Але пашанцавала ў іншым — патрапіць на выставу ўдзельнікаў міжнароднага пленэру імя Бялыніцкага-Бірулі.***
***А чым гэта не пленэр — з алоўкам прайсціся сярод карцін, эцюдна занатаваўшы свае "натурныя" ўражанні? І вось некалькі такіх замалёвак ў інтэр'еры Магілёўскай карціннай галерэі.***

# ПЛЕНЭР У ІНТЭР'ЕРЫ

## ЭЦЮДЫ ПРАВІНЦЫЙНАГА ГЛЕДАЧА

Першае абнадзейваючае ўражанне — моцны пах свежых, ледзь падсохлых фарбаў, а першае адкрыццё — што вынікам пленэру можа быць не толькі пейзаж, але любая аўтарская рэфлексія ці "адвольна-суб'ектыўны" жанр. Традыцыйна сціплае і ўсё ж майстэрскае спалучэнне гэтых кірункаў прадэманстраваў... сам Бялыніцкі-Біруля, дзве карціны якога прысутнічалі на выставе. Ягоны вучань А. Бархаткоў грунтоўна паставіўся да "пленэрных задач" і паказаў тры свежыя карціны. Хоць і фарбы кладуцца тут густа, буяе май, распускаюцца кветкі, ды сыходзіць нешта няўлоўнае, бадай, з адчуваннем часу: усё гэта ўжо было, было даўно і не раз.

Даволі нечакана вызначыліся нашы мэтры — В. Грамыка і Г. Вашчанка: першы прадставіў бэзава-"імпрэсіяністкі" пейзаж з берагоў ці то Пячоры, ці то Белага Мора, а другі — тутэйшы восенскі краявід у безнадзейна-журботных карычневых танах. Бліжэй за ўсё да стылю Бялыніцкага-Бірулі палотны гарадзенца А. Дулуба, і часам настолькі блізка, што "Мсціслаўскія далі", напрыклад, спараджаюць уражанне ледзь не копіі знакамітага пейзажыста. Але розніца ў сто гадоў наводзіць на сумныя думкі пра "традыцыю і сучаснасць".

Крыху суцяшае А. Бараноўскі, які ў пэўным сэнсе развівае традыцыю настаўніка. Найперш заўважна гэта ў каларыце. У карціне "Над майскім небам" — фарбы яшчэ светлашэрыя, красавіцкія, але раптам высвятляецца, што гэта "дэмісезонныя", уласна аўтарскія колеры, прынцыповыя для кожнага стылю, стылю тонкіх інтанацый, а не моцных акордаў, ціхіх нюансаў і пераліваў, а не гучных кантрастаў. І хаця цікавасць Бараноўскага да фактуры жывапіснага палатна здаецца большай, чым да натуры, ён, як і Бялыніцкі-Біруля, увасабляе элегічную, "паўночную" плынь беларускага мастацтва.

На жаль, значная частка ўдзельнікаў выставы прадстаўляла "сярэднестатыстычную" плынь, ці проста ціхую завадзь беларускага жывапісу. І Б. Первунскіх з "Выхадам на пленэр" як на суботнік (толькі з мальбертам), і традыцыйнікі — Уродніч, Аўчыннікаў, Дударэнка ("Мсціслаўскі манастыр" якога так і просіцца ў сюррэалізм), і "памяркоўны імпрэсіяніст" Д. Алейнік, і У. Шпартаў, шукальнік простых, але кідкіх каларыстычных ходаў ("Разліў", бадай, адзін з найбольш удалых), і майстар парадных пейзажаў У. Масленікаў — усе яны калектыўна ствараюць ужо пражытую ды напісаную гісторыю і даўно адкрытае мастацтва. Безумоўна, і такі жывапіс мае права на існаванне і, спадзяюся, свайго спажыўца на мастацкім рынку. Прыклад таму — палотны У. Масленікава, які дэманструе адаптацыю сацрэалізму да новых, нацыянальна-дзяржаўных умоў. Той жа дэкларатыўны, вонкавы рэалізм пры ўнутранай звышідэалізацыі вобраза і пазбаўленні яго натуральных супярэчнасцяў і хібаў, прыводзіць да дэградацыі мастацтва. Пакуль наш "нацрэалізм" не дасягнуў пастаральна-камуністычных вышынь, але — дайце час і дзяржаўны заказ — і ўсё можа быць...

Тым часам прысутнічаў на выставе і "авангард". Р. Таболіч застаўся верны свайму светлавытанчанаму стылю ды "інтэр'ернаму" жанру (нават буслянку, здаецца, падвесіў пад столь), але і найбольш удалася з работ — нацюрморт з белым каладзежам — далёка не лепшы ягоны ўзор. М. Кірэеў падаўся занадта дэкларатыўным (адзнака таму — вялікая сэнсавая нагрузка на назвах, а не на вобразах: "Кансервацыя", "Нашчадкам") і вельмі мала — дэкаратыўным. Хаця "Бераг ракі" (самае чуйнае палатно выставы) мог бы стаць дэкарацыяй, напрыклад, да спектакля "Апошні сон Бялыніцкага-Бірулі, які яму так і не прысніўся". Ну і дзякуй Богу, што прымроіўся ён толькі М. Кірэеву...

Годна і майстравіта, як заўсёды, выглядаюць акварэлі Г. Шутава, але тычыцца гэта толькі нацюрмортаў. А сапраўдныя "пленэрныя" якасці прадэманстравалі нашы замежныя госці. Ці то свежае вока, ці то абавязак часцей прымусіў іх стварыць сапраўдныя пейзажы. Найбольш "абеларусіўся" пры гэтым украінец А. Шарамет, аб чым сведчыць не толькі панаванне белых і светлых таноў на яго палотнах, але і ўзнёслае, паэтычнае ўвасабленне перліны беларускай архітэктуры — Нікольскай царквы.

Масквіч П. Папоў прадэманстраваў, што ёсць яшчэ размах душы і шырокі пэндзаль у расійскага мастака. І хоць малавата месца яму ў сціплых беларускіх пейзажах, але "Мсціслаў. Выгляд з замкавай гары" атрымаўся файны (ці не таму, што адтуль усю бачны абсягі вялікай матухны-Расеі?).

Міла, лёгка і настальгічна выглядаюць на палотнах расіянкі Мілы Маркелавай вулкі Магілёва і Бабруйска. Гэткі прыемныя ўспамін-мроя, як "дэ жаво" і "жа маваю", знаёма-незнаёмы прывід беларускага мястэчка, якое знікае ў нашай памяці і ў нетрах сацыялістычнага урбанізму.

Работы Веры Ельніцкай больш выглядаюць на французскі, чым на расійскі жывапіс, нагадваючы пейзажы дэ Вламінка ці Дэрайна. А мо і сапраўды Магілёў ёсць нешта сярэдняе паміж Масквой і Парыжам, толькі мы гэтага не заўважаем? Вось і француз Мішэль Перэн прадставіў зусім "тутэйшы" зімовы пейзаж, выкананы ў строга акадэмічнай, амаль фатаграфічнай манеры. Тлумачэнне такой "нефранцузскасці" сюжэта і стылю я знайшоў у тым, што Мішэль жыве і працуе на нашых шыротах — у Канадзе. Відаць, клімат і геаграфія многае вызначаюць у творчасці і, скажам, апыніся Гаген не на Гаіці, а на Салаўках, можа б, стаў як Рэрых ці наш славуты зямляк. Адзінае, што не падуладна клімату і геаграфіі — сапраўднае аматарства. У жывапісе яно універсальнае і вечнае, як пралетарскі інтэрнацыяналізм. Што і пацвердзіў другі французскі ўдзельнік пленэру — Г. Ганзілі, выставіўшы салодка-рамантычныя пейзаж з ружовымі далямі.

Двума метафізічнымі полюсамі выставы сталі палотны літоўца Р. Зданавічуса і серба Б. Кавачавіча. Млявая інтэлектуальная лінія і непрадказальных экспрэсіўных мазок, няспешны паўночны роздум і няўрымслівы паўднёвы тэмперамент, механічныя краны-грацыі ("Тры грацыі") і неспакой жывое натуры. Пазачасавая, пакрытая "пылам вечнасці" ўстойлівасць у "Лілеі" Зданавічуса і трывожныя, пульсуючы "Змрок над вёскаю" Кавачавіча, у якім бачыцца не столькі беларуская, але баснійская вёска, заціхшая ў чаканні бамбёжкі ці артналёту.

Зрэшты, замежныя ўдзельнікі пленэру прыемна разнастаілі палітру выставы, выканаўшы "беларускую партытуру" ў сваім арыгінальным ключы. І толькі за гэтую магчымасць паглядзець на сябе збоку, "чужымі вачыма" трэба быць ім удзячным. Што тычыцца іншых задач пленэру, то галоўнай з іх мне здаецца рэклама творчасці мастакоў-удзельнікаў, а яе эфектыўнасць павінна сувымярацца з матэрыяльнымі затратамі і "эканамічнымі" вынікамі акцыі.

Аб надзённасці гэтай няпростай праблемы трэба казаць больш грунтоўна, таму скончу свае "эцюды" пажаданнем: "Мастакі і мастачкі! Каталіцкія і савецка-славянскія! Праваслаўныя і германа-раманскія! Яднайцеся са спажыўцом-гледачом усяго свету! І каб вы сталі прадажнымі, як "Кока-Кола", папулярнымі, як "Фольксваген", і самотнымі, як беларускі нацыяналіст! І хай замест "агульна-культурнай" прасторы ў кожнага будзе невялікая, але свая ўласная майстэрня".

**Васіль АЎРАМЕНКА**
*г. Магілёў*

**Ад рэдакцыі.**
У мастацтвазнаўцаў-прафесіяналаў ёсць адзін істотны недахоп: яны добра ведаюць, каго трэба (можна) хваліць і каго можна (трэба) ганіць. Васіль Аўраменка, больш вядомы кароткімі аналітычнымі артыкуламі, ступіў, можна, сказаць, на чужое поле дзейнасці. Ён прыйшоў на выставу як глядач і піша як глядач — па першых уражаннях, без агляду на афіцыйныя і культурныя аўтарытэты. Нам думаецца, і такі погляд не лішні. Хто не згодны, можа паспрачацца.

Выставы

# ТВОРЦА "ВЯЛІКАГА ШЛЯХУ"

Імя Аркадзя Антонавіча Астаповіча (1896—1941) — вядомае ў мастацтве. Яркая зорачка беларускай графікі 20-х гадоў, мастак высокага майстэрскага і творчага палёту, лірык пейзажа, творца надзвычай працавіты і "пладавіты", што было адрознай рысай мастакоў усяго яго пакалення — пакалення канца XIX стагоддзя. Зрэшты, менавіта яны — Анатоль Тычына, Міхась Філіповіч, Мікола Дучыц, Генадзь Змудзінскі, Саламон Юдовін, Яфім Мінін, Аркадзь Астаповіч — вызначылі ва ўзнёсла рамантычныя 20-я і злавесныя 30-я аблічча беларускай графікі.

Гэта было яркае, выразнае, пабудаванае з асобаў пакаленне і ў той жа час надзвычай трагічнае, зламанае. Менавіта ім было дадзена лёсам стацца першымі "савецкімі" мастакамі, прайсці праз "вялікі шлях" выкрыцця ворагаў, адмовы ад лірыкі і ўсхвалення новабудоўляў і калгасаў. Менавіта яны, перажыўшы праменны і ўзнёслы ўзлёт 20-х былі маральна ці фізічна скатаваны ідэалагічным таталітарызмам. Большасць іх прац проста не ацалела. Нават добра пашукаўшы па музеях іх можна знайсці толькі два-тры дзесяткі. Можна падзякаваць лёсу, родным і Нацыянальнаму мастацкаму музею, які своечасова набыў большую частку твораў мастака, што на сённяшні дзень захавалася каля 300 работ Аркадзя Астаповіча перыяду з 1910 да 1941 гг. Унікальная калекцыя і Днямі ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава, прысвечаная 100-годдзю Астаповіча. Выстава адбылася дзякуючы намаганням і ашчаднай карпатлівай працы сям'і мастака — яго ўнучкі А. Смірновай, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а таксама І. Нярсэсавай, загадчыка аддзела Дзяржаўнага музея выяўленчых мастацтваў імя А. Пушкіна (Масква) ды шчырай дапамозе навуковага супрацоўніка Нацыянальнага мастацкага музея Н. Усавай і ўсяго калектыву музея.

Выстава атрымалася адметная — сваёй абгрунтаванасцю і дакладнай паслядоўнасцю ў падборы матэрыялаў, у хранікальнай перыядычнасці самой экспазіцыі. У дадатак да яе А. Смірнова і І. Нярсэсава з дапамогай Фонду Сораса выпусцілі шыкоўны па сённяшнім часе каталог-альбом, прысвечаны творчасці Аркадзя Астаповіча і яго сястры, таксама мастачкі Зінаіды Астаповіч-Бачаровай, стагоддзе з дня нараджэння якой мы будзем адзначаць праз два гады. Каталог стаўся грунтоўным выданнем з бібліяграфічнымі і тэарэтычнымі артыкуламі, з храналагічнымі жыцця, з вялікай колькасцю каляровых рэпрадукцый.

Праз экспазіцыю з дапамогай каталога лёгка прачытваецца шлях сталення Аркадзя Астаповіча. У 1914-16 гадах малады графік ужо распачынае скарыстоўваць у творах пазнавальныя для яго і ўвогуле для ўсяго пакалення тагачасных графікаў матывы дрэва, дарогі, сяўбы. У 1917 г. (т. зв. "армейскі перыяд") Астаповіч як чалавек дэмакратычна перакананы, пераходзіць на бок Чырвонай Арміі, жыве ў Петраградзе. Бязлюдныя, нейкія нетутэйшыя (людзі падобны на стафажныя фігуры) пецярбургскія акварэлі мастака змяняюцца супрэматычнымі кампазіцыямі — данінай рэвалюцыйнаму рамантызму, чыстай фарматворчасці. Праўда, гэта было імгненнем у творчай біяграфіі Аркадзя Астаповіча. Нароўні з абстрактнымі кампазіцыямі з'яўляюцца першыя прызнаныя работы мастака — серыя па-блокаўску змрочных, злавесных "Заводаў" і празрыстыя ідыалічныя краявіды, якія сабралі ў сабе пошук Аркадзем узнёслай прыгажосці і сваёй творчай манеры, адрознай ад простага цытавання чужых прыёмаў.

Новае творчае дыханне адкрылася ў мастака ў "навасёлкаўскі" перыяд, калі ў 1923 г. ён жыў на радзіме бацькі. Тут быў светлы куток пасярод сусветнай вайны, тут мастак апынуўся "знутры" сапраўднай вясковай нягучнай прыгажосці. Тут складваецца вобразна-эстэтычная сістэма мастака з немудрагелістага матыву, лаканічнай кампазіцыі, кантрастаў чорнага і белага, нешматлікіх, але характэрных дэталяў. Менавіта тут, з 1923 па 1929 год створаны работы, якія складаюць цяпер "залаты" фонд беларускай графікі — больш за 200 графічных работ. Тут адбыўся шчаслівы шлюб Аркадзя Астаповіча, распачаўся ўдзел ва ўсіх Усебеларускіх выставах, прыйшла вядомасць праз асваенне новай тэхнікі лінарыту (у тыя гады з лёгкай падачы "віцебскай школы" Юдовіна, Мініна, Гарбаўца была распаўсюджана тэхніка дрэварыту).

Тэмы, адкрытыя Астаповічам для сябе раней, застаюцца вядучымі ў яго творчасці: ён застаецца ледзь не адзіным майстрам лірычнага пейзажа ў Беларусі — адухоўленага ў 20-я гады ("Задворкі", "Зіма" — улюбёная пара года), майстэрскага, але не настраёвага ў 30-я.

У 1929 г. сям'я Астаповіча пераязджае ў Мінск. Але тут ужо мастаку-лірыку не знайшлося месца. Ішлі палітычныя працэсы, ва ўсіх падазравалі палітычную ненадзейнасць. І ў творцы ідэальнай гармоніі снега, хат, неба, дрэваў з'явіліся "Качагаркі" і "Лесапілавальныя заводы". Склаўся і новы стыль мастацтва Астаповіча — жорсткі, плакатна-карыкатурны, пляскаты.

Апошнія гады жыцця Аркадзя Астаповіча трагічныя. У 1938 г. ён быў арыштаваны на некалькі месяцаў. Перад вайною працаваў як найміт, выконваючы заказы дзеля грошай: расфарбоўвае дыяграмы, карты. У нейкі момант ён нібы набывае другое дыханне, пачынае ў асабістай творчасці скарыстоўваць лінатыпію, аўталітаграфію, працягвае займацца лінарытам. У 1940-м годзе Аркадзь Астаповіч на сваёй апошняй прыжыццёвай выставе — на адказнай дэкаднай выставе ў Маскве прадставіў усяго тры работы. Крытыка іх не заўважыла. У 1941 годзе ў першыя дні вайны ст. лейтэнант запасу Астаповіч быў забіты. Месца захавання невядома.

Фактычна, сучаснікі не заўважылі таленту мастака як адоранага кніжнага графіка, як станкавіста. Магчыма, гэтаму спрыяла прыродная сціпласць і далікатнасць Аркадзя Астаповіча, якая не дазваляла яму гвалтам дабівацца вядомасці. Першая персанальная выстава мастака адбылася толькі праз 20 гадоў пасля яго смерці.

"У наш час, калі ўсё адбываецца абы-абы" (пісаў гэта сам мастак) давялося яму жыць і працаваць. Вядомасць прыйшла даволі позна. Але — узнесла Аркадзя Астаповіча на паважную прыступку ў беларускім мастацтве нашага стагоддзя.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**


**ЛіМ**
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| Х. Дунец | (1932-35) |
| І. Гурскі | (1935-41) |
| А. Куляшоў | (1945-46) |
| М. Горцаў | (1947-49) |
| П. Кавалёў | (1949-50) |
| В. Вітка | (1951-57) |
| М. Ткачоў | (1957-59) |
| Я. Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н. Пашкевіч | (1961-69) |
| Л. Прокша | (1969-72) |
| Х. Жычка | (1972-76) |
| А. Асіпенка | (1976-80) |
| А. Жук | (1980-86) |
| А. Вярцінскі | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**

*Пры перадрупу просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4815
Нумар падпісаны 21.11.1996 г.
Заказ 7348/Г

П 123456789 10 11 12
М 123456789 10 11 12